**АДСЫПА́ЦЦА** I *несов.* **1.** отсыпа́ться; **2.** *разг. (быстро удаляться, рассеиваться)* отбега́ть, разбега́ться; **3.** *перен. разг. (выбывать из состава чего-л.)* отсе́иваться; 1—3 см. **адсы́пацца; 4.** *страд.* отсыпа́ться; см. **адсыпа́ць** I.

**АДСЫПА́ЦЦА** II *несов. (к* **адаспа́цца)** отсыпа́ться.

**АДСЫ́ПАЦЬ** *сов.* отсы́пать.

**АДСЫПА́ЦЬ** I *несов. (к* **адсы́паць)** отсыпа́ть.

**АДСЫПА́ЦЬ** II *несов.* (к **адаспа́ць)** отсыпа́ть.

**АДСЫ́ПКА** *ж.* отсы́пка.

**АДСЫПНЫ́** отсыпно́й.

**АДСЫ́РВАННЕ** *ср.* отсырева́ние.

**АДСЫ́РВАЦЬ** *несов.* **1.** отсырева́ть; **2.** *(становиться мягким от сырости)* отмяка́ть.

**АДСЫРЭ́ЛЫ** **1.** отсыре́вший, отсыре́лый; **2.** *(мягкий от сырости)* отмя́кший.

**АДСЫРЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** отсыре́ть; **2.** *(стать мягким от сырости)* отмя́кнуть.

**АДСЫСА́ННЕ** *ср.* отса́сывание, отсо́с *м.*

**АДСЫСА́ЦЦА** *несов. страд.* отса́сываться.

**АДСЫСА́ЦЬ** *несов.* отса́сывать; *см.* **адасса́ць.**

**АДСЫХА́ЦЬ** *несов., перен.* отсыха́ть; *см.* **адсо́хнуць.**

**АДСЮЛЬ** *нареч. в разн. знач.* отсю́да; **а. недалёка да го́рада** отсю́да недалеко́ до го́рода; **а. зрабіце вы́вад** отсю́да сде́лайте вы́вод; ◊ **ні а. ні адту́ль** отку́да ни возьми́сь; **а.-адту́ль** отовсю́ду понемно́гу; **а. дасю́ль** от сих до сих; **а. го́рача, адту́ль бо́ляча** *погов.* ме́жду двух огне́й.

**АДСЯВА́ННЕ** *ср.* отсе́в *м.;* отсе́ивание.

**АДСЯВА́ЦЦА** *несов.* **1.** отсе́иваться, отсе́ваться; *см.* **адсе́яцца** 1; 2. *страд.* отсе́иваться, отсева́ться; пересева́ться, пересе́иваться; *см.* **адсява́ць.**

**АДСЯВА́ЦЬ** *несов.* **1.** отсе́ивать, отсева́ть; **2.** *(засевать вторично)* пересева́ть, пересе́ивать; 1, 2 *см.* **адсе́яць** 1, 3.

**АДСЯДА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** отса́живаться; **2.** отделя́ться; **3.** слабе́ть, спада́ть; 1—3 *см.* **адсе́сці.**

**АДСЯДЗЕ́ЦЦА** *сов.* отсиде́ться; **а. ў крэ́пасці** отсиде́ться в кре́пости; **а ў ты́ле** *неодобр.* отсиде́ться в тылу́.

**АДСЯДЗЕ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* отсиде́ть; **цэ́лы дзе́нь ~дзе́ў чака́ючы** це́лый день отсиде́л ожида́я; **а. за растра́ту** отсиде́ть за растра́ту; **~дзе́ў нагу́** отсиде́л но́гу.

**АДСЯКА́ННЕ** *ср.* **1.** отруба́ние, отсека́ние; **2.** *перен.* отсека́ние; 1, 2 *см.* **адсяка́ць** 1, 2.

**АДСЯКА́ЦЦА** **1.** *разг.* отбива́ться; *см.* **адсячы́ся; 2.** *страд.* отруба́ться, отсека́ться; *см.* **адсяка́ць** 1, 2.

**АДСЯКА́ЦЬ** **1.** отруба́ть, отсека́ть; **2.** *перен. (отделять, лишив связи, общения)* отсека́ть; **3.** *(каму) перен.* отреза́ть; отбрива́ть *(кого)*; 1—3 *см.* **адсячы́.**

**АДСЯЛЕ́ННЕ** *ср.* отселе́ние.

**АДСЯЛІ́ЦЦА** *сов.* отсели́ться.

**АДСЯЛІ́ЦЬ** *сов.* отсели́ть.

**АДСЯЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* отселя́ться.

**АДСЯЛЯ́ЦЬ** *несов.* отселя́ть.

**АДСЯЧЫ́** *сов.* **1.** отруби́ть, отсе́чь; **а. па́лец** отруби́ть (отсе́чь) па́лец; **а. гalі́нку дрэ́ва** отруби́ть (отсечь) ве́тку де́рева; **2.** *перен. (отделить, лишив связи, общения)* отсе́чь; **3.** *(каму) перен.* отре́зать; отбри́ть *(кого).*

**АДСЯЧЫ́СЯ** *сов. разг.* отби́ться; **дзік ~се́кся ад саба́к** ди́кий каба́н отби́лся от соба́к.

**АДСЯЧЭ́ННЕ** *ср.* отсече́ние; ◊ **галаву́ даць на а.** го́лову дать на отсече́ние.

**АДТАВА́ННЕ** *ср.* отта́ивание; *см.* **адтава́ць.**

**АДТАВА́ЦЬ** *несов. (освобождаться ото льда, снега)* отта́ивать; *см.* **адта́ць.**

**АДТА́ЙВАННЕ** *ср.* отта́ивание; *см.* **адта́йваць.**

**АДТА́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* отта́иваться; *см.* **адта́йваць.**

**АДТА́ЙВАЦЬ** *несов. (выводить из замороженного состояния)* отта́ивать; *см.* **адта́яць.**

**АДТАКАВА́ЦЬ** *сов.* оттокова́ть.

**АДТА́ЛЫ** отта́явший; та́лый.

**АДТАНЦАВА́ЦЦА** *сов. разг.* отплkorsа́ться.

**АДТАНЦАВА́ЦЬ** *сов.* оттанцева́ть; *(народный танец — ещё)* отпляса́ть.

**АДТАНЦО́ЎВАЦЬ** *несов.* оттанцо́вывать; *(народный танец — ещё)* отпля́сывать.

**АДТАПІ́ЦЦА** *сов.* **1.** створо́житься; **малако́ ~пі́лася** молоко́ створо́жилось; **2.** *(растопившись, отделиться)* вы́топиться.

**АДТАПІ́ЦЬ** *сов.* **1.** створо́жить; **а. малако́** створо́жить молоко́; **2.** *(растопив, отделить)* вы́топить; **а. са́ла** вы́топить са́ло.

**АДТАПЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **адто́пліваецца.**

**АДТАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **адто́пліваць.**

**АДТАПТА́НЫ** отто́птанный.

**АДТАПТА́ЦЬ** *сов.* оттопта́ть.

**АДТАПЫ́РАНЫ** оттопы́ренный.

**АДТАПЫ́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* оттопы́риваться.

**АДТАПЫ́РВАЦЬ** *несов.* оттопы́ривать.

**АДТАПЫ́РЫЦЦА** *сов.* оттопы́риться.

**АДТАПЫ́РЫЦЬ** *сов.* оттопы́рить.

**АДТАРАБА́НІЦЬ** *сов. разг.* отнести́, оттащи́ть, отвезти́ *(что-л. громоздкое).*

**АДТАТУ́РЧЫЦЬ** *сов. обл.* отста́вить, вы́пятить.

**АДТА́ЦЬ** *сов. (освободиться ото льда, снега)* отта́ять; **зямля́ адта́ла** земля́ отта́яла.

**АДТАЧЫ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* отточи́ть; **а. на тачы́ле нож** отточи́ть на точи́ле нож; **а. сваё майстэ́рства** отточи́ть своё мастерство́.

**АДТА́ЯЦЬ** *сов. (вывести из замороженного состояния)* отта́ять; **а. я́блыкі** отта́ять я́блоки.

**АДТО́К** *м.* **1.** *род.* **адто́ку** *(действие)* отто́к; **2.** *род.* **адто́ка** *спец.* отто́к.

**АДТО́ПЛЕНЫ** **1.** створо́женный; **2.** вы́топленный; 1, 2 *см.* **адтапі́ць.**

**АДТО́ПЛІВАННЕ** *ср.* **1.** створа́живание; **2.** выта́пливание; 1, 2 *см.* **адто́пліваць.**

**АДТО́ПЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** творо́житься, створа́живаться; **2.** *(растопившись, отделяться)* выта́пливаться; 1, 2 *см.* **адтапі́цца; 3.** *страд.* творо́житься, створа́живаться; выта́пливаться; *см.* **адто́пліваць.**

**АДТО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** творо́жить, створа́живать; **2** *(растапливая, отделять)* выта́пливать; 1, 2 *см.* **адтапі́ць.**

**АДТО́ПТАНЫ** *см.* **адтапта́ны.**

**АДТО́ПТВАЦЦА** *несов. страд.* отта́птываться.

**АДТО́ПТВАЦЬ** *несов.* отта́птывать.

**АДТО́РКАЦЬ** *сов. разг. (о рыбе)* отклева́ть.

**АДТО́ЧАНАСЦЬ** *ж.* отто́ченность.

**АДТО́ЧАНЫ** *прям., перен.* отто́ченный; *см.* **адтачы́ць.**

**АДТО́ЧВАННЕ** *ср.* отта́чивание; *см.* **адто́чваць.**

**АДТО́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* отта́чиваться; *см.* **адто́чваць.**

**АДТО́ЧВАЦЬ** *несов. прям., перен.* отта́чивать; *см.* **адтачы́ць.**

**АДТРАПА́НЫ** оттрёпанный.

**АДТРАПА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(очистить трепанием)* оттрепа́ть; **2.** ко́нчить трепа́ть (лён, пеньку); **3.** *разг. (пройти пешком)* отмаха́ть.

**АДТРАСА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(отделять, встряхивая)* оттря́хивать, оттряса́ть; **2.** *(повреждать тряской)* оттряса́ть; 1, 2 *см.* **адтрэ́сці.**

**АДТРУБІ́ЦЬ** *сов.* оттруби́ть.

**АДТРЭ́ПВАЦЬ** *несов.* *(очищать трепанием)* оттрёпывать; *см.* **адтрапа́ць** 1.

**АДТРЭ́СВАЦЬ** *несов. см.* **адтраса́ць.**

**АДТРЭ́СЦІ** *сов.* **1.** *(отделить, встряхивая)* оттряхну́ть, оттрясти́; **а. гразь з паліто́** отряхну́ть (оттрясти́) грязь с пальто́; **2.** *(повредить тряской)* оттрясти́; **а. сабе́ ўсё нутро́ на калёсах** оттрясти́ себе́ все вну́тренности на теле́ге.

**АДТУ́ЛЕНЫ** откры́тый; *см.* **адтулі́ць.**

**АДТУ́ЛІНА** *ж.* отве́рстие *ср.*

**АДТУЛІ́ЦЬ** *сов.* откры́ть; **а. дзірку** откры́ть дыру́.

**АДТУ́ЛЬ** *нареч.* отту́да.

**АДТУ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* открыва́ть; *см.* **адтулі́ць.**

**АДТУ́ПАЦЬ** *сов. в разн. знач.* отто́пать.

**АДТУШАВА́НЫ** оттушёванный.

**АДТУШАВА́ЦЬ** *сов.* оттушева́ть.

**АДТУШО́ЎВАННЕ** *ср.* оттушёвка *ж.*

**АДТУШО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* оттушёвываться.

**АДТУШО́ЎВАЦЬ** *несов.* оттушёвывать.

**АДТУШО́ЎКА** *ж.* оттушёвка.

**АДТЫКА́ННЕ** *ср. разг.* открыва́ние; отку́порка *ж.* раску́порка *ж.*, раску́поривание; *см.* **адтыка́ць.**

**АДТЫКА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* открыва́ться, оттыка́ться; *(о бутылке и т. п. — ещё)* отку́пориваться, раску́пориваться.

**АДТЫКА́ЦЬ** *несов. (вынимать затычку)* открыва́ть, оттыка́ть; *(открывать бутылку и т. п. — ещё)* отку́поривать, раску́поривать.

**АДТЫНКАВА́НЫ** отштукату́ренный.

**АДТЫНКАВА́ЦЬ** *сов.* отштукату́рить.

**АДТЫНКО́ВАНЫ** *см.* **адтынкава́ны.**

**АДТЭРМІНАВА́ННЕ** *ср.* отсро́чка *ж.*

**АДТЭРМІНАВА́НЫ 1.** отсро́ченный, отло́женный; **2.** продлённый; 1, 2 *см.* **адтэрмінава́ць.**

**АДТЭРМІНАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(на более поздний срок)* отсро́чить, отложи́ть; **а. вы́пуск кнігі** отсро́чить (отложи́ть) вы́пуск книги; **2.** продли́ть (срок); **а. камандзіро́ўку** продли́ть командиро́вку (срок командиро́вки).

**АДТЭРМІНО́ВАНЫ** *см.* **адтэрмінава́ны.**

**АДТЭРМІНО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** отсро́чка *ж.*; откла́дывание; **2.** продле́ние; 1, 2 *см.* **адтэрміно́ўваць.**

**АДТЭРМІНО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* отсро́чиваться; откла́дываться; продля́ться; *см.* **адтэрміно́ўваць.**

**АДТЭРМІНО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *(на более поздний срок)* отсро́чивать, откла́дывать; **2.** продлева́ть (срок); 1, 2 *см.* **адтэрмінава́ць.**

**АДТЭРМІНО́ЎКА** *ж.* **1.** отсро́чка; **2.**продле́ние *ср.;* 1, 2 *см.* **адтэрмінава́ць.**

**АДУБЕ́ЛАСЦЬ** *ж. разг.* окочене́лость.

**АДУБЕ́ЛЫ** *разг.* замёрзший, закочене́вший, закочене́лый, окочене́вший, окочене́лый.

**АДУБЕ́ННЕ** *ср. разг.* окочене́ние.

**АДУБЕ́ЦЬ** *сов. разг.* замёрзнуть, закочене́ть, окочене́ть.

**АДУБЯНЕ́ЛЫ** *разг.* отверде́вший, отверде́лый, затверде́вший, затверде́лый, задубене́лый.

**АДУБЯНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* отверде́ть, затверде́ть; задубене́ть; **лаза́ ~не́ла, не гне́цца** лоза́ отверде́ла (затверде́ла), не гнётся.

**АДУ́ЖАНЫ** *разг.* оси́ленный.

**АДУ́ЖАЦЬ** *сов. разг. (одержать победу)* оси́лить, одоле́ть.

**АДУЖА́ЦЬ** *сов. см.* **адужэ́ць.**

**АДУ́ЖВАЦЬ** *несов. разг. (одерживать победу)* оси́ливать, одолева́ть.

**АДУЖЭ́ЛЫ** набра́вшийся сил; окре́пший; поздорове́вший.

**АДУЖЭ́ЦЬ** *сов.* набра́ться сил; окре́пнуть; поздорове́ть.

**АДУКАВА́НАСЦЬ** *ж.* образо́ванность; просвещённость.

**АДУКАВА́НЫ** образо́ванный; просвещённый.

**АДУКАВА́ЦЦА** *сов.* обучи́ться; просвети́ться.

**АДУКАВА́ЦЬ** *сов.* обучи́ть; просвети́ть.

**АДУКАЦЫ́ЙНЫ** образова́тельный; ○ **а. цэнз** образова́тельный ценз.

**АДУКА́ЦЫЯ** *ж.* образова́ние *ср.*; просвеще́ние *ср.;* ○ **агу́льная а.** о́бщее образова́ние.

**АДУКО́ВАНЫ** *см.* **адукава́ны.**

**АДУКО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* обуча́ться; просвеща́ться.

**АДУКО́ЎВАЦЬ** *несов.* обуча́ть; просвеща́ть.

**АДУ́ЛАВАТЫ** *обл. см.* **азызлы.**

**АДУ́М: сваім ~мам** как вздумается.

**АДУ́МАЦЦА** *сов.* одуматься.

**АДУ́МВАЦЦА** *несов.* одумываться.

**АДУ́РАНЫ** одурманенный; см. **адурыць.**

**АДУ́РВАННЕ** *ср.* одурманивание; *см.* **адурваць.**

**АДУ́РВАЦЬ** *несов. (доводить до одурения)* одурманивать; одурять.

**АДУРМА́НЕНЫ** *прям., перен.* одурманенный.

**АДУРМА́НІЦЦА** *сов. прям., перен.* одурманиться.

**АДУРМА́НІЦЬ** *сов. прям., перен.* одурманить.

**АДУРМА́НЬВАННЕ** *ср. прям., перен.* одурманивание.

**АДУРМА́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд. прям., перен.* одурманиваться.

**АДУРМА́НЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* одурманивать.

**АДУРНЕ́ЛЫ** *см.* **адурэлы.**

**АДУРНЕ́ННЕ** *ср.* оглупление.

**АДУРНЕ́ЦЬ** *сов.* 1. оглупеть; 2. *см.* **адурэць.**

**АДУРНІ́ЦЬ** *сов.* **оглупить.**

**АДУРНЯ́ЦЦА** *несов. страд.* оглупляться.

**АДУРНЯ́ЦЬ** *несов.* оглуплять.

**АДУРЫ́ЦЬ** *сов. (довести до одурения)* одурманить; одурить; ◊ **а. галаву́** заморочить голову.

**АДУРЭ́ЛА** *нареч.* одурело.

**АДУРЭ́ЛАСЦЬ** *ж.* одурелость.

**АДУРЭ́ЛЫ** одурелый, очумевший, очумелый, обалдевший, обалделый; *см.* **адурэць 1.**

**АДУРЭ́ННЕ** *ср.* одурение, одурь *ж.*, обалдение.

**АДУРЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(потерять способность соображать)* одуреть, очуметь, обалдеть; **2.** *(от запаха)* одурманиться.

**АДУСЮ́ЛЬ** *нареч.* отовсюду.

**АДУТЛАВА́ТАСЦЬ** *ж. см.* **азызласць.**

**АДУТЛАВА́ТЫ** *см.* **азызлы.**

**АДУХАВІ́ЦЬ** *сов.* одухотворить.

**АДУХАТВАРА́ЦЦА** *несов. страд.* одухотворяться.

**АДУХАТВАРА́ЦЬ** *несов.* одухотворять.

**АДУХАТВАРЫ́ЦЬ** *сов.* одухотворить.

**АДУХАТВАРЭ́ННЕ** *ср.* одухотворение.

**АДУХАТВО́РАНЫ** одухотворённый.

**АДУХАЎЛЕ́ННЕ** *ср.* одухотворение.

**АДУХАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* одухотворяться.

**АДУХАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* одухотворять.

**АДУХО́ЎЛЕНАСЦЬ** *ж.* одухотворённость.

**АДУХО́ЎЛЕНЫ** одухотворённый.

**АДУШАВІ́ЦЬ** *сов.* одушевить; **а. прыро́ду** одушевить природу.

**АДУШАЎЛЕ́ННЕ** *ср.* одушевление; *см.* **адушаўляць.**

**АДУШАЎЛЁНАСЦЬ** *ж.* одушевлённость.

**АДУШАЎЛЁНЫ** **1.** одушевлённый; *см.* **адушавіць;** **2.** *грам.* одушевлённый; **а. прадмет** одушевлённый предме́т; ○ **а. назоўнік** *грам.* одушевлённое существи́тельное.

**АДУШАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* одушевля́ться; *см.* **адушаўля́ць**.

**АДУШАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* одушевля́ть; *см.* **адушавіць.**

**АДФАРМАВА́НЫ** *тех.* отформо́ванный.

**АДФАРМАВА́ЦЬ** *сов. тех.* отформова́ть.

**АДФАРМО́ЎВАННЕ** *ср.* отформо́вывание.

**АДФАРМО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* отформо́вываться.

**АДФАРМО́ЎВАЦЬ** *несов.* отформо́вывать.

**АДФІЛЬТРАВА́НЫ** отфильтро́ванный.

**АДФІЛЬТРАВА́ЦЦА** *сов.* отфильтрова́ться.

**АДФІЛЬТРАВА́ЦЬ** *сов.* отфильтрова́ть.

**АДФІЛЬТРО́ВАНЫ** *см.* **адфільтрава́ны.**

**АДФІЛЬТРО́ЎВАННЕ** *ср.* отфильтро́вывание.

**АДФІЛЬТРО́ЎВАЕЦЦА** *несов. возвр., страд.* отфильтро́вываться.

**АДФІЛЬТРО́ЎВАЦЬ** *несов.* отфильтро́вывать.

**АДФРЭЗЕРАВА́НЫ** отфрезеро́ванный.

**АДФРЭЗЕРАВА́ЦЬ** *сов. тех.* отфрезерова́ть.

**АДФРЭЗЕРО́ВАНЫ** *см.* **адфрэзерава́ны.**

**АДФРЭЗЕРО́ЎВАННЕ** *ср. тех.* отфрезеро́вывание.

**АДФРЭЗЕРО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. тех.* отфрезеро́вываться.

**АДФРЭЗЕРО́ЎВАЦЬ** *несов. тех.* отфрезеро́вывать.

**АДФУТБО́ЛІЦЬ** *сов прост.* отфутбо́лить.

**АДФУТБО́ЛЬВАЦЬ** *несов. прост.* отфутболивать.

**АДФЫ́РКАЦЦА** *сов. разг.* отфы́ркаться.

**АДФЫ́РКВАЦЦА** *несов. разг.* отфы́ркиваться.

**АДФЫ́РКНУЦЦА** *сов. однокр. разг.* отфы́ркнуться.

**АДХАДЗІ́ЦЬ** I *сов.* **1.** отходи́ть; **трэцюю зіму ~дзіў у шко́лу** тре́тью зи́му отходи́л в шко́лу; **2.** *разг.* *(утомить хождением)* отходи́ть; **ўжо но́гі ~дзіў** я уже́ но́ги отходи́л.

**АДХАДЗІ́ЦЬ** II *сов.* (вылечить кого-л.) отходи́ть, вы́ходить; **а. хво́рага** отходи́ть больно́го.

**АДХА́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* отха́живаться; очища́ться; *см.* **адха́йваць.**

**АДХА́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** *разг.* *(больного)* отха́живать; **2.** *(от грязи)* очища́ть.

**АДХАПІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(резким движением отстранить)* отдёрнуть; **а. руку́** отдёрнуть ру́ку; **2.** *разг.* *(отрубить, отрезать)* отхвати́ть; **а. сяке́рай па́лец** отхвати́ть топоро́м па́лец; **3.** *разг.* *(получить изрядное количество чего-л.)* урва́ть, отхвати́ть.

**АДХА́РКАНЫ** отха́рканный.

**АДХА́РКАЦЦА** *сов.* отха́ркаться.

**АДХА́РКАЦЬ** *сов.* отха́ркать.

**АДХА́РКВАЛЬНАЕ** *сущ. мед.* отха́ркивающее.

**АДХА́РКВАННЕ** *ср.* отха́ркивание.

**АДХА́РКВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отха́ркиваться.

**АДХА́РКВАЦЬ** *несов.* отха́ркивать.

**АДХА́РКНУТЫ** отха́ркнутый.

**АДХА́РКНУЦЦА** *сов. однокр.* отха́ркнуться.

**АДХА́РКНУЦЬ** *сов. однокр.* отха́ркнуть.

**АДХАЦЕ́ЦЦА** *сов. безл. разг.* отхоте́ться; расхоте́ться.

**АДХАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* отхоте́ть; расхоте́ть.

**АДХА́ЯНЫ** **1.** отхо́женный; **2.** очи́щенный; 1, 2 *см.* **адха́яць.**

**АДХА́ЯЦЬ** *сов.* **1.** *разг. (больного)* отходи́ть; **2.** *(от грязи)* очи́стить.

**АДХВАЛЯВА́ЦЦА** *сов. разг.* отволнова́ться.

**АДХВАРЭ́ЦЬ** *сов. разг.* отболе́ть, отхвора́ть.

**АДХВАСТА́НЫ** **1.** отхлёстанный; отстёганный; **2.** перен. отхлёстанный; **3.** *разг.* отби́тый; 1—3 *см.* **адхваста́ць** 1—3.

**АДХВАСТА́ЦЬ** *сов.* **1.** отхлеста́ть; отстега́ть; **а. пу́гай** отхлеста́ть (отстега́ть) кнуто́м; **2.** *перен. (раскритиковать)* отхлеста́ть; **3.** *разг. (хлеща, отделить)* отби́ть.

**АДХВА́ТВАЦЦА** *несов. страд. см.* **адхо́пліваццa.**

**АДХВА́ТВАЦЬ** *несов. см.* **адхо́пліваць.**

**АДХВАЦІ́ЦЬ** *сов. см.* **адхапі́ць.**

**АДХІЛЕ́ННЕ** *ср.* **1.** отклоне́ние; **2.** отстране́ние; **3.** отведе́ние; **4.** отгиба́ние; **5.** отклоне́ние; 1—5 *см.* **адхілі́ць 1—3, 5, 7; 6.** отклоне́ние; **7.** отклоне́ние, уклоне́ние; **8.** уклоне́ние; **9.** отклоне́ние, уклоне́ние; 6—9 *см.* **адхілі́цца 1—3, 6; 10.** *астр.* возмуще́ние; **а. нябе́сных цел** возмуще́ние небе́сных тел.

**АДХІ́ЛЕНЫ** **1.** отклонённый; **2.** отстранённый; **3.** отведённый; **4.** отслонённый; **5.** ото́гнутый, отвёрнутый; **6.** отведённый; **7.** отклонённый; **8.** отве́ргнутый; отведённый; **9.** отвращённый, отведённый; 1—9 *см.* **адхілі́ць.**

**АДХІЛІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(наклониться в сторону)* отклони́ться; **стрэ́лка ~лі́лася** стре́лка отклони́лась; **2.** *(сбиться, отойти от прямого направления)* отклони́ться, уклони́ться; **мы ~лі́ліся ў бок ле́су** мы отклони́лись (уклони́лись) в сто́рону ле́са; **3.** отодви́нуться, отстрани́ться, уклони́ться; **а. ад уда́ру** отстрани́ться (уклони́ться) от уда́ра; **4.** *(про что-л. прислонённое)* отслони́ться; **5.** отогну́ться, отверну́ться; **ко́ўдра ~лі́лася** одеяло отогну́лось (отверну́лось); **6.** *(отвлечься в изложении)* отклони́ться, уклони́ться, отойти́; **а. ад тэ́мы** отклони́ться (уклони́ться, отойти́) от те́мы.

**АДХІЛІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в сторону)* отклони́ть; **ве́цер ~лі́ў по́лымя** ве́тер отклони́л пла́мя; **2.** *(отодвинуть от себя)* отстрани́ть; **а.ralі́нку** отстрани́ть ве́тку; **3.** *(направить в сторону)* отвести́; **а. руку́** отвести́ ру́ку; **4.** *(отодвинуть что-л. прислонённое)* отслони́ть; **5.** *(завернуть край)* отогну́ть, отверну́ть; **а.**

**ко́ўдру** отвернýть одея́ло; **6.** *(устранить от участия в чем-л.)* отвести́; **а. кандыдату́ру** отвести́ кандидатýру; **7.** *(отказать в чём-л.)* отклони́ть; **а. умо́вы пагадне́ння** отклони́ть усло́вия соглаше́ния; **8.** *(не принять)*, отве́ргнуть; отвести́; **а. план** отве́ргнуть план; **а. прапано́ву** отве́ргнуть (отвести́) предложе́ние; **9.** *(не допустить чего.-л., помешать осуществлению чего-л.)* отврати́ть, отвести́.

**АДХІ́ЛЬВАЦЦА** *несов. см.* **адхіля́цца.**

**АДХІ́ЛЬВАЦЬ** *несов. см.* **адхіля́ць.**

**АДХІЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** *(наклоняться в сторону)* отклоня́ться; **2.** *(сбиваться, отходить от прямого направления)* отклоня́ться, уклоня́ться; **3** отодвига́ться, отстраня́ться, уклоня́ться; **4.** *(про что-л. прислонённое)* отслоня́ться; **5.** отгиба́ться, отвёртываться; **6.** *(отвлекаться в изложении)* отклоня́ться, уклоня́ться, отходи́ть; 1—6 *см.* **адхілі́цца; 7.** *страд.* отклоня́ться; отстраня́ться; отводи́ться; отслоня́ться; отгиба́ться; отвёртываться; отверга́ться; отвраща́ться; *см.* **адхіля́ць.**

**АДХІЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *(в сторону)* отклоня́ть; **2.** *(отодвигать от себя)* отстраня́ть; **3.** *(направлять в сторону)* отводи́ть; **4.** *(отодвигать что-л. прислонённое)* отслоня́ть; **5.** *(заворачивать край)* отгиба́ть, отвертывать; **6.** *(устранять от участия в чём-л.)* отводи́ть; **7.** *(отказывать в чём-л.)* отклоня́ть; **8.** *(не принимать)* отверга́ть; отводи́ть; **9.** *(не допускать чего-л., мешать осуществлению чего-л.)* отвраща́ть, отводи́ть; 1—9 *см.* **адхілі́ць.**

**АДХІНА́ННЕ** *ср.* **1.** отгиба́ние; **2.** отгиба́ние, отведе́ние, отклоне́ние, отстране́ние; 1, 2 *см.* **адхіна́ць.**

**АДХІНА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(о загнутом)* отгиба́ться, отвёртываться, отвора́чиваться, отпа́хиваться; **2.** *(сворачивать с дороги)* сторони́ться; **3.** *(подаваться в сторону)* отстраня́ться, уклоня́ться, отклоня́ться; отша́тываться; **4.** *перен. (отказываться от общения)* отвёртываться, отвора́чиваться, отша́тываться; **5.** *перен. разг.* отлуча́ться *(на короткое время)*; 1—5 *см.* **адхіну́цца; 6.** *страд.* отгиба́ться, отвёртываться, отвора́чиваться, отпахи́ваться; отводи́ться, отклоня́ться, отстраня́ться; *см.* **адхіна́ць.**

**АДХІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(загибать, откидывать часть покрова)* отгиба́ть, отвёртывать, отвора́чивать, отпа́хивать; **2.** *(отдалять, разгибая)* отгиба́ть, отводи́ть, отклоня́ть, отстраня́ть; 1, 2 *см.* **адхіну́ць.**

**АДХІ́НЕНЫ** *см.* **адхіну́ты.**

**АДХІНУ́ТЫ 1.** ото́гнутый, отвёрнутый, отпа́хнутый; **2.** ото́гнутый, отведённый, отклонённый, отстранённый; 1, 2 *см.* **адхіну́ць.**

**АДХІНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(о загнутом)* отогну́ться, отверну́ться, отпахну́ться; **рог насто́льніка ~ну́ўся** у́гол ска́терти отогну́лся (отверну́лся); **2.** *(свернуть с дороги)* посторони́ться; **~ніся тро́хі, прапусці́ мяне́** посторони́сь немно́го, пропусти́ меня́; **3.** *(податься в сторону)* отстрани́ться, уклони́ться, отклони́ться, отшатну́ться; **а. ад уда́ру** отстрани́ться (уклони́ться) от уда́ра; **яна рэ́зка ~ну́лася** она ре́зко отшатну́лась; **4.** *перен. (отказаться*

*от общения)* отверну́ться, отшатну́ться; **сябры́ ~ну́ліся ад яго́** друзья́ отверну́лись (отшатну́лись) от него́; **5.** *перен. разг.* отлучи́ться *(на короткое время)*; **а. на хвілі́нку з до́му** отлучи́ться на мину́тку и́з дому.

**АДХІНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(загнуть, откинуть часть покрова)* отогну́ть, отверну́ть, отпахну́ть; **а. крысо́** отогну́ть (отпахну́ть) полу́ **2.** *(отдалить, разгибая)* отогну́ть, отвести́, отклони́ть, отстрани́ть; **а. галі́нку лі́пы** отогну́ть (отвести́, отклони́ть, отстрани́ть) ве́тку ли́пы.

**АДХІСНУ́ТЫ** отка́чнутый, отклонённый.

**АДХІСНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** откачну́ться, отклони́ться; **ма́ятнік ~ну́ўся** ма́ятнік откачну́лся; **2.** *(резко отклониться)* отшатну́ться; **ад нечака́насці ён ~ну́ўся** от неожи́данности он отшатну́лся; **3.** *перен.* отшатну́ться; **сябры́ ~ну́ліся ад яго́** друзья́ отшатну́лись от него́.

**АДХІСНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** откачну́ть, отклони́ть; **а. ма́ятнік** откачну́ть ма́ятник; **2.** *перен. (вселить неприязнь к кому-чему-л.)* оттолкну́ть; отшатну́ть; **яго́ паво́дзіны ~ну́лі сябро́ў** его́ поведе́ние оттолкну́ло друзе́й; **3.** *безл. перен.* оттолкну́ть.

**АДХІ́СТВАЦЦА** *несов.* **1.** *(резко отклоняться)* отша́тываться; **2.** *перен.* отша́тываться; 1, 2 *см.* **адхісну́цца** 2,3.

**АДХЛЁБВАЦЬ** *несов.* отхлёбывать.

**АДХЛЁБНУЦЬ** *сов. однокр.* отхлебну́ть.

**АДХЛІПНУ́ЦЦА** *сов. разг.* вздохну́ть.

**АДХЛІПНУ́ЦЬ** *сов. разг. см.* **адхліпну́цца.**

**АДХЛЫ́НУЦЬ** *сов. прям., перен.* отхлы́нуть.

**АДХО́Д, -ду,** *см.* **адыхо́д.**

**АДХО́ДЖАНЫ** отхо́женный, вы́хоженный; *см.* **адхадзі́ць** II.

**АДХО́ДЖВАННЕ** *ср.* отха́живание, выха́живание.

**АДХО́ДЖВАЦЬ** *несов.* *(лечить кого-л.)* отха́живать, выха́живать; *см.* **адхадзі́ць** II.

**АДХО́ДЗІЦЦА** *несов. см.* **адыхо́дзіцца.**

**АДХО́ДЗІЦЬ** *несов. см.* **адыхо́дзіць.**

**АДХО́ДЛІВЫ** *см.* **адыхо́длівы.**

**АДХО́ДНАЯ** *сущ. см. адыхо́дная.*

**АДХО́ДНІК** *м. разг. см.* **адыхо́днік.**

**АДХО́ДНЫ** *см.* **адыхо́дны.**

**АДХО́ДЫ** *мн.* отхо́ды; **а. вытво́рчасці** отхо́ды произво́дства.

**АДХО́Н, -ну** *м.* **1.** *ж.-д.* отко́с; **пусці́ць пад а.** пусти́ть под отко́с; **2.** *(отлогое место)* отло́гость *ж.*, отко́с, склон, скос; *(горы, холма)* косого́р.

**АДХО́НІСТА** *нареч.* отло́го.

**АДХО́НІСТЫ** отло́гий.

**АДХО́ННА** *нареч.* отло́го.

**АДХО́ННЫ** отло́гий.

**АДХО́ПЛЕНЫ 1.** отдёрнутый; **2.** *разг.* отхва́ченный; **3.** *разг.* отхва́ченный; 1—3 *см.* **адхапі́ць.**

**АДХО́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд.* отдёргиваться; отхва́тываться; укрыва́ться *см.* **адхо́пліваць.**

**АДХО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** *(резким движением отстранять)* отдёргивать; **2.** *разг. (отрубать, отрезать)* отхва́тывать; **3.** *разг. (получать*

*изрядное количество чего-л.)* урыва́ть, отхва́тывать; 1—3 *см.* **адхапіць.**

**АДХРАМІ́РАВАЦЬ** *сов. спец.* отхроми́ровать.

**АДХРЫСЦІ́ЦЦА** *сов. разг. прям., перен.* открести́ться.

**АДХРЫ́ШЧВАЦЦА** *несов. разг. прям., перен.* откре́щиваться.

**АДХУ́КАНЫ** отогре́тый; *см.* **адху́каць.**

**АДХУ́КАЦЬ** *сов.* отогре́ть *(дыханием).*

**АДХУ́КВАЦЦА** *несов. страд.* отогрева́ться; *см.* **адху́кваць.**

**АДХУ́КВАЦЬ** *несов.* отогрева́ть *(дыха́нием).*

**АДЦАДЗІ́ЦЬ** *сов.* отцеди́ть.

**АДЦАРАВА́ЦЬ** *сов. разг.* отца́рствовать.

**АДЦВІСЦІ́** *сов. прям., перен.* отцвести́; **бэз ~віў** сире́нь отцвела́; **маладо́сць ~віла́** мо́лодость отцвела́.

**АДЦВІТА́ННЕ** *ср.* отцвета́ние; *см.* **адцвіта́ць.**

**АДЦВІТА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* отцвета́ть; *см.* **адцвісці́.**

**АДЦВІ́ЎШЫ** *прям., перен.* **1.** *прич.* отцве́тший; **2.** *деепр.* отцве́тши.

**АДЦВЫ́РКАЦЬ** *сов. разг.* **1.** отчири́кать; **2.** отстрекота́ть.

**АДЦЕ́НЕНЫ** *прям., перен.* оттенённый; *см.* **адцяні́ць.**

**АДЦЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* отте́нок *м.*

**АДЦЕРАБІ́ЦЬ** *сов.* оттереби́ть.

**АДЦЕ́РЦІ** *сов. в разн. знач.* оттере́ть; **а. пля́му** оттере́ть пятно́; **а. нагу́ сне́гам** оттере́ть но́гу сне́гом.

**АДЦЕ́РЦІСЯ** *сов.* оттере́ться; **пля́ма ~рлася** пятно́ оттёрлось.

**АДЦЁК, -ку** *м.* оттёк.

**АДЦЁРТЫ** *в разн. знач.* оттёртый; *см.* **адце́рці.**

**АДЦІ́НАК, -нка** *м.* отре́зок.

**АДЦІНА́ННЕ** *ср.* отруба́ние, отсече́ние; отку́сывание; отреза́ние.

**АДЦІНА́ЦЦА** *несов. страд.* отруба́ться, отсека́ться; отку́сываться; отреза́ться.

**АДЦІНА́ЦЬ** *несов.* отруба́ть, отсека́ть *(зубами)* отку́сывать; *(ножницами) отрезать; см.* **адця́ць.**

**АДЦІРА́ННЕ** *ср.* **1.** *(пятен и т. п.)* оттира́ние, отти́рка *ж.;* **2.** *(возвращение чувствительности)* оттира́ние.

**АДЦІРА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* оттира́ться; *см.* адце́рціся, адціра́ць.

**АДЦІРА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* оттира́ть; *см.* **адце́рці.**

**АДЦІ́РКА** *ж.* отти́рка.

**АДЦІСКА́ЛЬНІК** *м. тех.* отжи́мник.

**АДЦІСКА́ЛЬНЫ** *тех.* отжи́мный.

**АДЦІСКА́ЛЬШЧЫК** *м. спец.* отжи́мщик.

**АДЦІСКА́ЛЬШЧЫЦА** *ж. спец.* отжи́мщица.

**АДЦІСКА́ННЕ** *ср.* **1.** отда́вливание; **2.** *спец.* отжи́м *м.*, отжимка *ж.*; **3.** отжима́ние; оттесне́ние, отжима́ние, оттира́ние; **4.** отпеча́тывание, отти́скивание; **5.** отти́ски-

ванне, печа́тание; 1—5 *см.* **адціска́ць.**

**АДЦІСКА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(выпускать из себя влагу)* отжима́ться; **2.** *(отделяться)* отстава́ть; **3.** *(тискаясь, отходить)* отти́скиваться; **4.** *прям., перен. (оставлять след)* отпеча́тываться; 1—4 *см.* **адці́снуцца;** **5.** *страд.* отда́вливаться; отжима́ться; оттесня́ться; тесни́ться; отти́скиваться; оттира́ться; отпеча́тываться; *см.* **адціска́ць.**

**АДЦІСКА́ЦЬ** *несов.* **1.** отда́вливать; **2.** *(выжимать влагу)* отжима́ть; **3.** *(отталкивать в давке)* оттесня́ть, отти́скивать, тесни́ть, отжима́ть, оттира́ть; **4.** *(оставлять отпечаток на чём-л.)* отпеча́тывать, отти́скивать; **5.** *спец. (делать оттиск)* отти́скивать, отпеча́тывать; 1—5 *см.* **адці́снуць.**

**АДЦІ́СНУТЫ** **1.** отда́вленный; **2.** отжа́тый; **3.** оттеснённый, отти́снутый, отжа́тый, оттёртый; **4.** отпеча́танный, отти́снутый; **5.** *спец.* отти́снутый, отпеча́танный; 1—5 *см.* **адці́снуць.**

**АДЦІ́СНУЦЦА** *сов.* **1.** *(выпустить из себя влагу)* отжа́ться; **2.** *(отделиться)* отста́ть; **3.** *(тискаясь отойти)* отти́скаться; **4.** *прям., перен.* отпеча́таться.

**АДЦІ́СНУЦЬ** *сов.* **1.** отдави́ть; **а. па́лец** отдави́ть па́лец; **2.** *(выжать влагу)* отжа́ть; **3.** *(оттолкнуть в давке)* оттесни́ть, отти́снуть, отжа́ть, оттере́ть; **4.** *(оставить отпечаток на чём-л.)* отпеча́тать, отти́снуть; **а. сляды́** отпеча́тать следы́; **5.** *спец. (сделать оттиск)* отти́снуть, отпеча́тать.

**АДЦУРА́ЦЦА** *(ад каго-чаго и без предлога) сов.* отре́чься *(от кого-чего)*, отчура́ться *(от кого-чего)*; **а. ад сваі́х слоў** отре́чься от свои́х слов; **а. ро́днага ба́цькі** отре́чься (отчура́ться) от родно́го отца́.

**АДЦУ́РВАЦЦА** *несов. (ад каго-чаго и без предлога)* отрека́ться *(от кого-чего); см.* **адцура́цца.**

**АДЦЫРАВА́НЫ** отшто́панный.

**АДЦЫРАВА́ЦЬ** *сов.* отшто́пать.

**АДЦЫРЫ́КАЦЬ** *сов. разг.* отчири́кать.

**АДЦЭ́ДЖАНЫ** отце́женный.

**АДЦЭ́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* отце́живаться.

**АДЦЭ́ДЖВАЦЬ** *несов.* отце́живать.

**АДЦЭНТРАВА́НЫ** *тех.* отцентри́рованный, отцентро́ванный.

**АДЦЭНТРАВА́ЦЬ** *сов. тех.* отцентри́ровать, отцентрова́ть.

**АДЦЯГА́НЫ** *разг.* отта́сканный; *см.* **адцяга́ць 1.**

**АДЦЯГА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(долго проносить одежду, обувь)* оттаска́ть; **пяць гадо́ў ~га́ў бо́ты** пять лет оттаска́л сапоги́; **2.** *(кончить волочить)* отволочи́ть.

**АДЦЯ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** отта́скивание, оття́гивание; **2.** оття́гивание; **3.** отта́скивание; **4.** оття́гивание; **5.** оття́гивание; **6.** *тех.* оття́жка *ж.;* **7.** *перен.* отвлече́ние; **8.** *перен.* оття́жка *ж.;* 1—8 *см.* **адця́гваць.**

**АДЦЯ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** *(отодвигаться, перемещаться)* отта́скиваться, оття́гиваться; **2.** *(отводиться, отвлекаться)* оття́гиваться; **3.** *(на прежнее место)*

оттáскиваться; **4.** *(становиться отвислыми)* оття́гиваться; **5.** *(про что-л. натянутое)* оття́гиваться; **6.** *тех.* *(удлиняться путём ковки)* оття́гиваться; **7.** *перен.* (отклоняться от чего-л.) отвлекáться; **8.** *перен. (на более длительный срок)* оття́гиваться; 1—8 *см.* **адцягнýцца**; **9.** *страд.* оттáскиваться; оття́гиваться, отвлекáться *см.* **адця́гваць.**

**АДЦЯ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** *(отодвигать, перемещать; насильно отводить в сторону)* оттáскивать, оття́гивать; **2.** *(отводить, отвлекать)* оття́гивать; **3.** *(на прежнее место)* оттáскивать; **4.** *(делать отвислым)* оття́гивать; **5.** *(что-л. натянутое)* оття́гивать; **6.** *тех.* *(удлинять путём ковки)* оття́гивать; **7.** *перен. (отклонять от чего-л.)* отвлекáть; **8.** *перен. (относить на более длительный срок)* оття́гивать; 1—8 см. **адцягнýць.**

**АДЦЯ́ГНЕНА** *нареч.* отвлечённо, абстрáктно; **а. развaжáць** отвлечённо (абстрáктно) рассуждáть.

**АДЦЯ́ГНЕНАСЦЬ** *ж.* отвлечённость, абстрáктность.

**АДЦЯГНÉННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* отвлечéние; **а. ўвáгі** отвлечéние внимáния; **2.** *филос.* отвлечéние, абстрáкция *ж.,* абстраги́рование.

**АДЦЯ́ГНЕНЫ 1.** оттáщенный, оття́нутый; *см.* **адцягнýць 1; 2.** *филос.* отвлечённый, абстрáктный; **~нае паня́цце** отвлечённое (абстрáктное) поня́тие; **а. лік** *мат.* отвлечённое число; **а. вóбраз** отвлечённый óбраз.

**АДЦЯ́ГНУТЫ 1.** оттáщенный, оття́нутый; **2.** оття́нутый; **3.** оттáщенный; **4.** оття́нутый; **5.** оття́нутый; **6.** *тех.* оття́нутый; **7.** *перен.* отвлечённый; **8.** *перен.* оття́нутый; 1—8 *см.* **адцягнýць.**

**АДЦЯГНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(отодвинуться, переместиться)* оттащи́ться, оттянýться; **2.** *(отвестись, отвлечься)* оттянýться; **3.** *(на прежнее место)* оттащи́ться; **4.** *(стать отвислым)* оттянýться; **5.** *(про что-л. натянутое)* оттянýться; **6.** *тех.* *(удлиниться путём ковки)* оттянýться; **7.** *перен.* *(отклониться от чего-л.) отвлéчься;* **8.** *перен. (на более длительный срок)* оттянýться.

**АДЦЯГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(отодвинуть, переместить; насильно отвести в сторону)* оттащи́ть, оттянýть; **2.** *(отвести, отвлечь)* оттянýть; **а. сíлы з флáнга** оттянýть си́лы с флáнга; **3.** *(на прежнее место)* оттащи́ть; **а. сáні на мéсца** оттащи́ть сáни на мéсто; **4.** *(сделать отвислым)* оттянýть; **а. кішэ́ні** оттянýть кармáны; **5.** *(что-л. натянутое)* оттянýть; **а. шнур** оттянýть шнур; **а. скýру на жываце́** оттянуть кóжу на животé; **6.** *тех.* *(удлинить путём ковки)* оттянýть; **7.** *перен.* *(отклонить от чего-л.)* отвлéчь; **а. увáгу** отвлéчь внимáние; **8.** *перен.* *(отнести на более длительный срок)* оттянýть; **а. вынясéнне прыгавóру** оттянýть вынесéние пригово́ра; ◊ **за вýшы не адця́гнеш** зá уши не оттáщишь.

**АДЦЯ́ЖКА** *ж.* *в разн. знач.* оття́жка; *(мор. — ещё)* трос *м.;* **а. шын** *тех.* оття́жка шин; **а. ў вырашэ́нні пытáння** оття́жка в решéнии вопрóса; **удáрыць з ~кай** *воен., спорт.* удáрить с оття́жкой; **драцянáя а.** прóволочная оття́жка.

**АДЦЯЖНЫ́** *мор.* оттяжнóй.

**АДЦЯКÁЦЬ** *несов.* оттекáть.

**АДЦЯНІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* оттени́ть; **а. на малю́нку пра́вы бок до́ма** оттени́ть на рису́нке пра́вую сто́рону до́ма; **а. ду́мку** оттени́ть мысль.

**АДЦЯНЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* оттеня́ться; *см.* **адцяня́ць**.

**АДЦЯНЯ́ЦЬ** *несов. прям., перен. оттеня́ть; см.* **адцяні́ць**.

**АДЦЯСНЕ́ННЕ** *ср.* оттесне́ние.

**АДЦЯСНЁНЫ** оттеснённый, потеснённый.

**АДЦЯСНІ́ЦЬ** *сов.* оттесни́ть, потесни́ть.

**АДЦЯСНЯ́ЦЦА** *несов. страд.* оттесня́ться, тесни́ться.

**АДЦЯСНЯ́ЦЬ** *несов.* оттесня́ть, тесни́ть.

**АДЦЯ́ТЫ** отру́бленный, отсе́ченный; отку́шенный; отре́занный.

**АДЦЯ́ЦЬ** *сов.* отруби́ть; отсе́чь; *(зубами)* откуси́ть; *(ножницами, ножом и т. п.)* отре́зать.

**АДЦЯЧЫ́** *сов.* отте́чь.

**АДЧА́Й, -ча́ю** *м.* отча́яние *ср.*

**АДЧА́ЙВАЦЦА** *несов.* **1.** *(терять надежду)* отча́иваться; **2.** *(принимать смелое решение)* реша́ться.

**АДЧА́ЙНЫ** *(проникнутый отчаянием)* отча́янный.

**АДЧАКА́НЕНЫ** *прям., перен.* отчека́ненный; *см.* **адчака́ніць**.

**АДЧАКА́НІЦЦА** *сов. прям., перен.* отчека́ниться.

**АДЧАКА́НІЦЬ** *сов. прям., перен.* отчека́нить; **а. мане́ту** отчека́нить моне́ту; **а. сло́вы** отчека́нить слова́.

**АДЧАКА́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отчека́ниваться.

**АДЧАКА́НЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* отчека́нивать; *см.* **адчака́ніць**.

**АДЧА́Л, -лу** *м. мор.* отча́л.

**АДЧА́ЛЕНЫ** *мор.* отча́ленный.

**АДЧА́ЛІЦЦА** *сов. мор.* отча́литься.

**АДЧА́ЛІЦЬ** *сов. в разн. знач.* отча́лить; **а. кане́ц** отча́лить коне́ц; **парахо́д ~ліў** парохо́д отча́лил.

**АДЧА́ЛЬВАННЕ** *ср. в разн. знач.* отча́ливание.

**АДЧА́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отча́ливаться; *см.* **адча́ліцца, адча́ліць**.

**АДЧА́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* отча́ливать; *см.* **адча́ліць**.

**АДЧАПІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(расцепляясь, отделиться)* отцепи́ться; **ваго́н ~пі́ўся** ваго́н отцепи́лся; **2.** *перен.* отцепи́ться, отде́латься, отвяза́ться; отста́ть; **ад яго́ ху́тка не адчэ́пішся** от него́ бы́стро не отде́лаешься (отце́пишься, отвя́жешься); **~пі́ся ад мяне́** отцепи́сь (отвяжи́сь, отста́нь) от меня́.

**АДЧАПІ́ЦЬ** *сов.* отцепи́ть.

**АДЧАПЛЯ́ЦЦА** *несов.* см. **адчэ́плівацца**.

**АДЧАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **адчэ́пліваць**.

**АДЧАПНЫ́** отцепно́й.

**АДЧАРАНКАВА́ННЕ** *ср. сад.* отчеренкова́ние.

**АДЧАРАНКАВА́НЫ** *сад.* отчеренко́ванный.

**АДЧАРАНКАВА́ЦЬ** *сов. сад.* отчеренкова́ть.

**АДЧАРПНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* отчерпну́ть.

**АДЧАРЦІ́ЦЬ** *сов.* отчерти́ть.

**АДЧАСА́НЫ** I отчёсанный; *см.* **адчаса́ць** I.

**АДЧАСА́НЫ** II *плотн.* оттёсанный; *см.* **адчаса́ць** II.

**АДЧАСА́ЦЬ** I *сов. (кончить чесать)* отчеса́ть; **а. лён** отчеса́ть лён.

**АДЧАСА́ЦЬ** II *сов. плотн.* оттеса́ть.

**АДЧАСТАВА́ЦЬ** *сов. разг. (кончить потчевать)* отпо́тчевать.

**АДЧАЯВА́ЦЬ** *сов. разг.* отчаёвничать.

**АДЧА́ЯННА** *нареч.* отча́янно, хра́бро, безрассу́дно.

**АДЧА́ЯННАСЦЬ** *ж.* отча́янность, хра́брость, безрассу́дность.

**АДЧА́ЯННЫ** *(безрассудно смелый)* отча́янный.

**АДЧА́ЯЦЦА** *сов.* **1.** *(потерять надежду)* отча́яться; **2.** *(принять смелое решение)* реши́ться.

**АДЧЛЕ́НЕНЫ** отчленённый.

**АДЧЛЯНІ́ЦЦА** *сов.* отчлени́ться.

**АДЧЛЯНІ́ЦЬ** *сов.* отчлени́ть.

**АДЧЛЯНЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* отчленя́ться.

**АДЧЛЯНЯ́ЦЬ** *несов.* отчленя́ть.

**АДЧУВА́ЛЬНА** *нареч. прям., перен.* чувстви́тельно, ощути́тельно, ощути́мо.

**АДЧУВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. прям., перен.* чувстви́тельность, ощути́тельность, ощути́мость; осяза́емость; *см.* **адчува́льны**.

**АДЧУВА́ЛЬНЫ** *прям., перен.* чувстви́тельный, ощути́тельный, ощути́мый; *(заметный — ещё)* осяза́емый; **а. ўдар** чувстви́тельный (ощути́тельный, ощути́мый) уда́р; **гэта ве́льмі ~ныя выда́ткі** э́то весьма́ чувстви́тельные (ощути́тельные, ощути́мые) расхо́ды; **~ныя вы́нікі дзе́йнасці** ощути́мые (осяза́емые) результа́ты де́ятельности.

**АДЧУВА́ННЕ** *ср.* **1.** ощуще́ние; **а. патрэ́бы ў чым-не́будзь** ощуще́ние необходи́мости (нужды́) в чём-л.; **2.** чу́вство; **а. но́вага** чу́вство но́вого; **3.** самочу́вствие.

**АДЧУВА́ЦЦА** *несов.* **1.** чу́вствоваться, ощуща́ться; **~ва́ецца боль у кале́не** чу́вствуется (ощуща́ется) боль в коле́не; **2.** *(о влиянии)* ощуща́ться; **3.** *безл.* чу́вствоваться; **~ва́ецца, што ву́чань не зразуме́ў тлумачэ́ння наста́ўніка** чу́вствуется, что учени́к не по́нял объясне́ния учи́теля.

**АДЧУВА́ЦЬ** *(што) несов.* **1.** чу́вствовать, ощуща́ть; испы́тывать, пита́ть; **а. патрэ́бу ў чым-не́будзь** испы́тывать нужду́ в чём-л.; **як вы сябе́ ~ва́еце?** как вы себя́ чу́вствуете?; **2.** *(влияние)* ощуща́ть; испы́тывать; подверга́ться *(чему)*; *см.* **адчу́ць** 2.

**АДЧУЖА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. юр.* отчужда́емость.

**АДЧУЖА́ЛЬНЫ** *юр.* отчужда́емый.

**АДЧУ́ЖАНА** *нареч.* отчуждённо.

**АДЧУ́ЖАНАСЦЬ** *ж.* отчуждённость.

**АДЧУ́ЖАНЫ** *прич., прил.* отчуждённый.

**АДЧУЖА́ЦЦА** *несов. страд. юр.* отчужда́ться.

**АДЧУЖА́ЦЬ** *несов. юр.* отчужда́ть.

**АДЧУЖЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* отчужде́ние; **а. ўла́снасці** *юр.* отчужде́ние со́бственности; **узае́м-**

**нае а.** взаímное отчуждéние; **паласá ~ння** *ж.-д. уст.* полосá отчуждéния.

**АДЧУ́ТЫ 1.** почýвствованный, ощущённый; испы́танный; **2.** ощущённый; испы́танный; 1, 2 *см.* **адчу́ць.**

**АДЧУ́ЦЦА** *сов.* **1.** почýвствоваться, ощути́ться; *см.* **адчувáцца 1; 2.** *(о влиянии)* ощути́ться.

**АДЧУ́ЦЬ** *(што) сов.* **1.** почýвствовать, ощути́ть *испытáть;* **а. боль** почýвствовать (ощути́ть, боль; **2.** *(влияние)* ощути́ть; испытáть; подвéргнуться *(чему);* **а. уздзéянне чаго-нéбудзь** ощути́ть воздéйствие чегó-л.; подвéргнуться воздéйствию чегó-л.; ○ **даць сябé а.** дать себя́ знать; **а. глéбу пад нагáмі** ощути́ть (почýвстовать) пóчву под ногáми.

**АДЧЫКІЛЬГА́ЦЬ** *сов. разг.* отковыля́ть.

**АДЧЫКРЫ́ЖАНЫ** *прост.* отчекры́женный.

**АДЧЫКРЫ́ЖЫЦЬ** *сов. прост:* отчекры́жить.

**АДЧЫ́НЕНЫ 1** откры́тый; отвóренный; **2.** откýпоренный; **3.** *см.* **адкры́ты 1**; 1—3 *см.* **адчыні́ць;** ◊ **дзень ~неных дзвярэ́й** день откры́тых дверéй; **пры ~неных дзвярáх** при откры́тых дверя́х; **ламáцца (бíцца, стýкаць) у ~неныя дзвéры** ломи́ться в откры́тую дверь.

**АДЧЫНІ́ЦЦА** *сов. (о двери, окне, шкатулке и т. п.)* откры́ться; отвори́ться; **2.** откýпориться; **3.** *(о начале собрания, заседания и т. п.) см.* **адкры́цца:** ◊ **Сезáм, ~ні́ся!** *шутл.* Сезáм, открóйся!

**АДЧЫНІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(дверь, окно, шкатулку и т. п.)* откры́ть; отвори́ть; **2.***(наглухо заделанное)* откýпорить; **3.** *(театр, школу, собрание и т. п.) см.* **адкры́ць;** ◊ **а. дзвéры** *перад кім* откры́ть дверь *кому.*

**АДЧЫНЯ́ННЕ** *ср.* **1.** открывáние; **2.** откýпорка *ж.* 1, 2 *см.* **адчыня́ць 1, 2; 3.** *см.* **адкрыццё.**

**АДЧЫНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** *(о двери, окне, шкатулке и т. п.)* открывáться; отворя́ться; **2.** *(быть таким, чтобы можно было открыть)* открывáться, откýпориваться; **шуфля́да лёгка ~ня́ецца** я́щик легкó открывáется; **кансéрвы нéшта не ~ня́юцца** консéрвы что-то не откýпориваются; **3.** *(о начале собрания, заседания и т. п.) см.* **адкрывáцца; 4.** *страд.* открывáться; отворя́ться; откýпориваться; *см.* **адчыня́ць.**

**АДЧЫНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *(дверь, окно, шкатулку и т. п.)* открывáть; отворять; **2.** *(наглухо заделанное* откýпоривать; **3.** *(театр, школу, собрание и т. п.) см.* **адкрывáць.**

**АДЧЫ́РКВАННЕ** *ср.* отчёркивание.

**АДЧЫ́РКВАЦЦА** *несов. страд.* отчёркиваться.

**АДЧЫ́РКВАЦЬ** *несов.* отчёркивать.

**АДЧЫ́РКНУТЫ** отчёркнутый.

**АДЧЫ́РКНУЦЬ** *сов.* отчеркнýть.

**АДЧЫ́СТКА** *ж. разг.* отчи́стка.

**АДЧЫ́СЦІЦЦА** *сов.* отчи́ститься.

**АДЧЫ́СЦІЦЬ** *сов.* отчи́стить; **а. іржý** отчи́стить ржáвчину; **а. пля́му** отчи́стить пятнó.

**АДЧЫ́ТАНЫ** отчи́танный.

**АДЧЫТА́ЦЦА** *сов. (дать отчёт)* отчита́ться; **а. пе́рад вы́баршчыкамі** отчита́ться пе́ред избира́телями.

**АДЧЫТА́ЦЬ** *сов. в разн. знач* отчита́ть; **а. ле́кцыі** отчита́ть ле́кции; **ён мяне́ так адчыта́ў, што я ніко́лі гэ́тага не забу́ду** он меня́ так отчита́л, что я никогда́ э́того не забу́ду.

**АДЧЫ́ТВАННЕ** *ср.* отчи́тывание.

**АДЧЫ́ТВАЦЦА** *несов.* **1.** *(давать отчёт)* отчи́тываться; *см.* **адчыта́цца; 2.** *страд.* отчи́тываться; *см.* **адчы́тваць.**

**АДЧЫ́ТВАЦЬ** *несов. (делать выговор)* отчи́тывать.

**АДЧЫ́ШЧАНЫ** отчи́щенный; *см.* **адчы́сціць.**

**АДЧЫШЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* отчища́ться; *см.* **адчы́сціцца, адчышча́ць.**

**АДЧЫШЧА́ЦЬ** *несов.* отчища́ть; *см.* **адчы́сціць.**

**АДЧЭ́ПКА** *ж.* отце́пка.

**АДЧЭ́ПЛЕНЫ** отце́пленный.

**АДЧЭ́ПЛІВАННЕ** *ср.* отце́пка *ж.*

**АДЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** *(расцепляясь, отделяться)* отцепля́ться; **2.** *перен.* отцепля́ться, отде́лываться, отвя́зываться; отстава́ть; 1, 2 *см.* **адчапі́цца; 3.** *страд.* отцепля́ться.

**АДЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* отцепля́ть.

**АДЧЭ́ПНАЕ; даць ~нага** дать что-л. с це́лью отде́латься.

**АДЧЭ́ПШЧЫК** *м.* отце́пщик.

**АДЧЭ́ПШЧЫЦА** *ж.* отце́пщица.

**АДЧЭ́РПАНЫ** отче́рпанный.

**АДЧЭ́РПАЦЬ** *сов.* отче́рпать.

**АДЧЭ́РПВАЦЦА** *несов. страд.* отче́рпываться.

**АДЧЭ́РПВАЦЬ** *несов.* отче́рпывать.

**АДЧЭ́РПНУТЫ** отче́рпнутый.

**АДЧЭ́РПНУЦЬ** *сов.* отчерпну́ть.

**АДЧЭ́РЧАНЫ** отче́рченный.

**АДЧЭ́РЧВАЦЦА** *несов. страд.* отче́рчиваться.

**АДЧЭ́РЧВАЦЬ** *несов.* отче́рчивать.

**АДЧЭ́САНЫ** I *см.* **адчаса́ны** I.

**АДЧЭ́САНЫ** II *см.* **адчасаны** II.

**АДЧЭ́СВАННЕ** I *ср.* отчёсывание; *см.* **адчэ́сваць** I.

**АДЧЭ́СВАННЕ** II *ср. плотн.* оттёска *ж.*

**АДЧЭ́СВАЦЦА** *несов. страд. (кончать чесать)* отчёсываться; *см.* **адчаса́цца, адчэ́сваць I.**

**АДЧЭ́СВАЦЬ** I *несов. отчёсывать; см.* **адчаса́ць** I.

**АДЧЭ́СВАЦЬ** II *несов. плотн.* оттёсывать.

**АДШАПАЦЕ́ЦЬ** *сов.* отшелесте́ть, отшурша́ть.

**АДШАРАВА́НЫ** оттёртый; отчищенный.

**АДШАРАВА́ЦЬ** *сов.* оттере́ть; отчи́стить.

**АДШВАРТАВА́НЫ** *мор.* отшварто́ванный.

**АДШВАРТАВА́ЦЦА** *сов. мор.* отшвартова́ться.

**АДШВАРТАВА́ЦЬ** *сов. мор.* отшвартова́ть.

**АДШВАРТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. мор.* отшварто́вываться.

**АДШВАРТО́ЎВАЦЬ** *несов. мор.* отшварто́вывать.

**АДШКАДАВА́ЦЬ** *(што) сов. разг.* поступи́ться *(чем)*; поже́ртвовать *(чем)*.

**АДШКУМАТА́ЦЬ** *сов. прост.* (небрежно) оторва́ть.

**АДШЛЁПАНЫ** *разг.* отшлёпанный; *см.* **адшлёпаць.**

**АДШЛЁПАЦЬ** *сов. разг.* отшлёпать; **а. хлапчука́** отшлёпать мальчи́шку.

**АДШЛІФАВА́НЫ** *прям., перен.* отшлифо́ванный; *см.* **адшліфава́ць.**

**АДШЛІФАВА́ЦЦА** *сов. прям., перен.* отшлифова́ться.

**АДШЛІФАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* отшлифова́ть: **а. грані́т** отшлифова́ть грани́т; **а. стыль апавяда́ння** отшлифова́ть стиль расска́за.

**АДШЛІФО́ВАНЫ** *см.* **адшліфава́ны**

**АДШЛІФО́ЎВАННЕ** *ср.* отшлифо́вка *ж.*

**АДШЛІФО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отшлифо́вываться; *см.* **адшліфава́цца, адшліфо́ўваць.**

**АДШЛІФО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* отшлифо́вывать; *см.* **адшліфава́ць.**

**АДШЛІФО́ЎКА** *ж.* отшлифо́вка.

**АДШМАРГНУ́ЦЬ** *сов. (занавеску и т. п.)* отдёрнуть.

**АДШМО́РГВАЦЦА** *несов. страд.* отдёргиваться; *см.* **адшмо́ргваць.**

**АДШМО́РГВАЦЬ** *несов. (занавеску и т. п.)* отдёргивать.

**АДШМО́РГНУТЫ** отдёрнутый; *см.* **адшмаргну́ць.**

**АДШПІ́ЛЕНЫ 1.** отшпи́ленный, отко́лотый; **2.** отстёгнутый; 1, 2 *см.* **адшпілі́ць.**

**АДШПІЛІ́ЦЦА** *сов.* **1.** отшпи́литься, отколо́ться; **2.** отстегну́ться.

**АДШПІЛІ́ЦЬ** *сов.* **1.** отшпи́лить, отколо́ть; **а. бант** отколо́ть (отшпи́лить) бант; **а. шпі́льку** отколо́ть була́вку; **2.** отстегну́ть; **а. гу́зік** отстегну́ть пу́говицу.

**АДШПІ́ЛЬВАННЕ** *ср.* **1.** отшпи́ливание, отка́лывание; **2.** отстёжка *ж.;* отстёгивание; *см.* **адшпі́льваць.**

**АДШПІ́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отшпи́ливаться, отка́лываться; отстёгиваться; *см.* **адшпілі́цца, адшпі́льваць.**

**АДШПІ́ЛЬВАЦЬ** *несов* **1.** отшпи́ливать, отка́лывать; **2.** отстёгивать; 1, 2 *см.* **адшпілі́ць.**

**АДШПІЛЬНЫ́** *разг.* отстежно́й.

**АДШПІЛЯ́ННЕ** *ср. см.* **адшпі́льванне.**

**АДШПІЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **адшпі́львацца.**

**АДШПІЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **адшпі́льваць.**

**АДШПУНТАВА́НЫ** раску́поренный, отку́поренный; *см.* **адшпунтава́ць.**

**АДШПУНТАВА́ЦЦА** *сов. (о бочке)* раску́пориться, отку́392ориться.

**АДШПУНТАВА́ЦЬ** *сов. (бочку)* раску́порить, отку́порить.

**АДШПУНТО́ЎВАННЕ** *ср.* раску́поривание, раску́порка *ж.*, отку́поривание; *см.* **адшпунто́ўваць.**

**АДШПУНТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раску́пориваться, отку́пориваться; *см.* **адшпунтава́цца, адшпунто́ўваць.**

**АДШПУНТО́ЎВАЦЬ** *несов. (бочку)* раску́поривать, отку́поривать.

**АДШПУРЛЯ́ЦЦА** *сов. разг. (защититься, бросая чем.-л.)* отшвыря́ться.

**АДШПУРЛЯ́ЦЬ** *сов. разг. (кончить швырять)* отшвыря́ть.

**АДШПУРНУ́ТЫ** *разг.* отшвы́рнутый.

**АДШПУРНУ́ЦЬ** *сов. разг.* отшвырну́ть.

**АДШРУБАВА́НЫ** отви́нченный, отвёрнутый; *см.* **адшрубава́ць.**

**АДШРУБАВА́ЦЦА** *сов.* отвинти́ться, отверну́ться.

**АДШРУБАВА́ЦЬ** *сов.* отвинти́ть, отверну́ть; **а. га́йку** отверну́ть га́йку.

**АДШРУБО́ЎВАННЕ** *ср.* отви́нчивание, отвёртывание.

**АДШРУБО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отви́нчиваться, отвёртываться; *см.* **адшрубава́цца, адшрубо́ўваць.**

**АДШРУБО́ЎВАЦЬ** *несов.* отви́нчивать, отвёртывать; *см.* **адшрубава́ць.**

**АДШТАБНАВА́НЫ** *сапож., порт.* отстро́ченный, проши́тый.

**АДШТАБНАВА́ЦЬ** *сов. сапож.,* порт. отстрочи́ть, проши́ть.

**АДШТАМПАВА́НЫ** отштампо́ванный.

**АДШТАМПАВА́ЦЬ** *сов.* отштамповáть.

**АДШТАМПО́ВАНЫ** *см.* адштампава́ны.

**АДШТАМПО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* отштампо́вываться.

**АДШТАМПО́ЎВАЦЬ** *несов.* отштампо́вывать.

**АДШТАПАВА́НЫ** *см.* **адштабнава́ны.**

**АДШТАПАВА́ЦЬ** *сов. см.* **адштабнава́ць.**

**АДШТО́РЫЦЬ** *сов. разг.* отдёрнуть што́ру (што́ры).

**АДШТУКАВА́НЫ** *разг.* отде́ланный.

**АДШТУКАВА́ЦЬ** *сов. разг.* отде́лать.

**АДШТУКО́ВАНЫ** *см.* **адштукава́ны.**

**АДШТУ́РХВАННЕ** *ср. прям., перен.* отта́лкивание; *см.* **адшту́рхваць.**

**АДШТУ́РХВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* отта́лкиваться; *см.* **адштурхну́цца, адшту́рхваць.**

**АДШТУ́РХВАЦЬ** *несов. прям., перен.* отто́лкнутый; *см.* **адштурхну́ць.**

**АДШТУРХНУ́ТЫ** *прям., перен.* отто́лкнутый; *см.* **адштурхну́ць.**

**АДШТУРХНУ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* оттолкну́ться; **а. ад бе́рага** оттолкну́ться от бе́рега; **а. ад чужо́й ідэ́і** оттолкну́ться от чужо́й иде́и.

**АДШТУРХНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* оттолкну́ть; **яна́ са зло́сцю ~ну́ла яго́** она́ со зло́стью оттолкну́ла его́; **тваé ўчы́нкі ~ну́лі мянé** твой посту́пки оттолкну́ли меня́.

**АДШТУРХО́ЎВАННЕ** *ср. см.* **адшту́рхванне.**

**АДШТУРХО́ЎВАЦЦА** *несов. см.* **адшту́рхвацца.**

**АДШТУРХО́ЎВАЦЬ** *несов. см.* **адштýрхваць.**

**АДШУГА́ЦЬ** *сов. разг. (о пламени)* отполыха́ть.

**АДШУКА́ННЕ** *ср.* **1.** ро́зыск; **2.** изыска́ние; *см.* **адшука́ць.**

**АДШУКА́НЫ** **1.** разы́сканный; **2.** изы́сканный; *см.* **адшука́ць.**

**АДШУКА́ЦЦА** *сов.* **1.** разыска́ться; **2.** изыска́ться.

**АДШУКА́ЦЬ** *сов.* **1.** разыска́ть; **а. прапа́ўшых без ве́сткі** разыска́ть пропа́вших бе́з вести; **а. злачы́нца** разыска́ть престýпника; **2.** *(добиться усиленными поисками)* изыска́ть; **а. рэзе́рвы павелічэ́ння** вытво́рчасці изыска́ть резе́рвы увеличе́ния произво́дства.

**АДШУ́КВАННЕ** *ср.* **1.** разы́скивание, ро́зыск *м.;* **2.** изы́скание; *см.* **адшу́кваць.**

**АДШУ́КВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разы́скиваться; изы́скиваться; *см.* **адшу́кваць.**

**АДШУ́КВАЦЬ** *несов.* **1.** разы́скивать; **2.** изы́скивать; *см.* **адшука́ць.**

**АДШУМЕ́ЦЬ** I *сов.* отшуме́ть.

**АДШУМЕ́ЦЬ** II *сов. разг.* переста́ть пе́ниться.

**АДШУ́НУЦЬ** *сов. обл.* отхлы́нуть.

**АДШЧАБЯТА́ЦЬ** *сов.* отщебета́ть.

**АДШЧАПА́ЦЬ** *сов.* отщепа́ть.

**АДШЧАПЕ́НЕЦ, -нца** *м.* отщепе́нец.

**АДШЧАПЕ́НКА** *ж.* отщепе́нка.

**АДШЧАПЕ́НСКІ** отщепе́нческий.

**АДШЧАПЕ́НСТВА** *ср.* отщепе́нство.

**АДШЧАПІ́ЦЦА** *сов.* **1.** отщепи́ться, отколо́ться; **трэ́ска лёгка ~пілася** ще́пка легко́ отщепи́лась (отколо́лась) **2.** *(открыться — о защёлке, крючке и т. п.)* отпере́ться, отщёлкнуться; **3.** *(о скрепках, приколках и т. п.)* открепи́ться.

**АДШЧАПІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(лучину, щепку)* отщепи́ть, отколо́ть; **2.** *(защёлку, крючок и т. п.)* отпере́ть, отщёлкнуть; **3.** *(скрепки, приколки и т. п.)* открепи́ть.

**АДШЧАПЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **адшчэ́пліваца.**

**АДШЧАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **адшчэ́пліваць.**

**АДШЧЫ́КВАЦЦА** *несов. разг. страд. см.* **адшчы́пвацца.**

**АДШЧЫ́КВАЦЬ** *несов. разг. см.* **адшчы́пваць.**

**АДШЧЫКНУ́ЦЬ** *сов. разг. см.* **адшчыпнýць.**

**АДШЧЫ́ПВАЦЦА** *несов. страд.* отщи́пываться.

**АДШЧЫ́ПВАЦЬ** *несов.* отщи́пывать.

**АДШЧЫ́ПНУТЫ** отщи́пнутый.

**АДШЧЫПНУ́ЦЬ** *сов.* отщипнýть.

**АДШЧЭ́ПЛЕНЫ** **1.** отщеплённый, отко́лотый; **2.** отпёртый, отщёлкнутый; **3.** откреплённый; 1—3 *см.* **адшчапі́ць.**

**АДШЧЭ́ПЛІВАННЕ** *ср.* **1.** отще́пливание, отка́лывание; **2.** отпира́ние, отщёлкивание; **3.** открепле́ние; 1—3 *см.* **адшчэ́пліваць.**

**АДШЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** *(отпадать, отделяться)* отщепля́ться, отка́лываться; *см.* **адшчапі́цца 1;** **2.** *открываться — о*

**ВЫШЫНЯ́** *ж.* 1. высота́, вышина́; **на́сып пяціметро́вай ~ні́** на́сыпь пятиметро́вой высоты́ (вышины́); 2. *(пространство, находящееся высоко над землёй)* высота́, высь, вышина́; 3. *(возвышенность)* высота́; **заня́ць ~ню́** *воен.* заня́ть высоту́; 4. *(давления, звука, голоса и т. п.)* высота́; 5. *мат.* высота́; **в. трапе́цыі** высота́ трапе́ции; 6. *астр.* высота́; ◊ **быць на ~ні́** быть на высоте́; **з ~ні́ птушы́нага палёту** с высоты́ пти́чьего полёта; **узня́ць на нале́жную ~ню́** подня́ть на надлежа́щую высоту́.

**ВЫШЫНЯМЕ́Р** *м. геод.* высотоме́р.

**ВЫ́ШЫТЫ** *прич., прил.* вы́шитый; расши́тый; расшивно́й.

**ВЫ́ШЫЎКА** *ж.* вы́шивка; *(на мундире и т. п.)* шитьё *ср.*

**ВЫ́ШЫЦЬ** *сов.* вы́шить; *(украсить что-л. вышивкой — ещё)* расши́ть; **в. узо́р** вы́шить узо́р.

**ВЫШЭ́Й** 1. *нареч. сравнит. ст.* вы́ше, повы́ше; **со́нца ўзняло́ся в.** со́лнце подняло́сь вы́ше; **паве́сіць карці́ну в.** пове́сить карти́ну повы́ше; 2. *нареч.* вы́ше; **як упаміна́лася в.** как упомина́лось вы́ше; 3. *в знач. предлога* вы́ше; **тэмперату́ра в. нуля́** температу́ра вы́ше нуля́; ◊ **падыма́й в.!** поднима́й вы́ше!

**ВЫШЭЙАДЗНА́ЧАНЫ** вышеозна́ченный.

**ВЫШЭЙАПІ́САНЫ** вышеопи́санный.

**ВЫШЭЙЗГАДА́НЫ** вышеупомя́нутый.

**ВЫШЭЙНАЗВА́НЫ** вышена́званный, вышепоимено́ванный.

**ВЫШЭЙПАДА́ДЗЕНЫ** вышеизло́женный.

**ВЫШЭЙПАКА́ЗАНЫ** вышепока́занный, вышеука́занный.

**ВЫШЭЙПАМЯНЁНЫ** вышеупомя́нутый.

**ВЫШЭЙПЕРАЛІ́ЧАНЫ** вышеперечи́сленный.

**ВЫШЭЙПРЫВЕ́ДЗЕНЫ** вышеприведённый.

**ВЫШЭЙСКА́ЗАНЫ** вышеска́занный.

**ВЫШЭЙСТАЯ́ЧЫ** вышестоя́щий.

**ВЫШЭ́ЙШЫ** *прил.* 1. *сравнит. ст.* вы́ше, повы́ше, бо́лее высо́кий; 2.: **~шая ступе́нь** *грам.* сравни́тельная сте́пень; 3. *в др. знач.* вы́сший; **в. о́рган дзяржа́ўнай ула́ды** вы́сший о́рган госуда́рственной вла́сти; **~шая шко́ла** вы́сшая шко́ла; **~шая адука́цыя** вы́сшее образова́ние; **~шыя раслі́ны** вы́сшие расте́ния; **в. пілата́ж** вы́сший пилота́ж.

**ВЫЯ́ВА** *ж.* изображе́ние *ср.*

**ВЫ́ЯВІЦЦА** *сов.* 1. обнару́житься, прояви́ться, обрисова́ться, вы́явиться; вы́разиться; оказа́ться; вскры́ться, обнажи́ться, разоблачи́ться, откры́ться; **~віўся та́лент** обнару́жился (прояви́лся, обрисова́лся, вы́явился) тала́нт; **у гэ́тай карці́не ~вілася заду́ма мастака́** в э́той карти́не вы́разился за́мысел худо́жника; **~віліся недахо́пы ў рабо́це** вскры́лись (обнару́жились, обнажи́лись, откры́лись) недоста́тки в рабо́те; **~вілася нястача гро́шай** обнару́жилась (вскры́лась) недоста́ча де́нег; **~вілася, што гэ́та не так** оказа́лось, что э́то не так; 2. *безл. в сочетании с союзом* **што**

*(стать очевидным)* оказа́ться; получи́ться; **~вілася, што я вінава́ты, а не ты** оказа́лось, что я винова́т, а не ты; **~вілася, што мы з табо́й прыйшлі́ да адно́лькавых вы́вадаў** получи́лось, что мы с тобо́й пришли́ к одина́ковым вы́водам; **3**. *разг.* вы́писаться; **в. з дамаво́й кнігі** вы́писаться из домо́вой кни́ги.

**ВЫ́ЯВІЦЬ** *сов.* **1**. обнару́жить, прояви́ть, вы́явить; показа́ть; вы́казать; вы́разить; **в. та́лент** обнару́жить (прояви́ть, вы́явить) тала́нт; **в. сябе́ зна́ўцам чаго́-не́будзь** прояви́ть (показа́ть) себя́ знатоко́м чего́-л.; **в. любо́ў да каго́-чаго́-не́будзь** прояви́ть (вы́казать, вы́разить) любо́вь к кому́-чему́-л.; **2**. *(доказать неоспоримо)* установи́ть; вскры́ть; *(раскрыть содержание понятия)* определи́ть; **в. факт (і́сціну)** установи́ть факт (и́стину); **в. су́тнасць з'я́вы** вскрыть (определи́ть) су́щность явле́ния; **3**. *(раскрыть недостатки, доказать виновность)* обнару́жить, обнажи́ть, вы́явить, вскрыть, откры́ть; изобличи́ть; **4**. *разг.* вы́писать; **в. кватара́нта** вы́писать квартира́нта.

**ВЫЯДА́ЦЦА** *несов. страд.* выеда́ться; съеда́ться; *см.* **выяда́ць.**

**ВЫЯДА́ЦЬ** *несов.* **1**. *в разн. знач.* выеда́ть; **2**. съеда́ть; 1, 2 *см.* **вы́есці.**

**ВЫЯЗДЖА́ЦЬ** *несов.* **1**. *в разн. знач.* выезжа́ть; уезжа́ть; **2**. *разг.* выска́льзывать; вылеза́ть; **3**. *перен. разг.* выезжа́ть; 1—3 *см.* **вы́ехаць.**

**ВЫЯЗНЫ́** выездно́й; **~на́я се́сія** выездна́я се́ссия.

**ВЫ́ЯСНЕЦЬ** *сов. безл.* проя́снеть, проя́сниться.

**ВЫЯ́СНІВАЦЦА** *несов. безл.* проя́сниваться, проя́снивать.

**ВЫЯ́СНІВАЦЬ** *несов. безл.* проя́снивать, проя́сниваться.

**ВЫ́ЯСНІЦЦА** *сов.* **1**. *безл.* проя́сниться, проя́снеть.

**ВЫЯСНЯ́ЦЦА** *несов.* **1**. *безл.* проя́сниваться, проя́снивать.

**ВЫЯЎЛЕ́ННЕ** *ср.* **1**. обнаруже́ние, проявле́ние, выявле́ние; пока́з *м.*; вы́казывание; выраже́ние; **2**. установле́ние; вскры́тие; определе́ние; **3**. обнаруже́ние, обнаже́ние, выявле́ние, вскры́тие, откры́тие; изобличе́ние; 1—3 *см.* **вы́явіць** 1—3.

**ВЫЯЎЛЕ́НЧАСЦЬ** *ж.* изобрази́тельность.

**ВЫЯЎЛЕ́НЧЫ** изобрази́тельный; ○ **~чае маста́цтва** изобрази́тельное иску́сство.

**ВЫ́ЯЎЛЕНЫ** **1**. обнару́женный, проя́вленный, вы́явленный, пока́занный; вы́казанный; вы́раженный; **2**. устано́вленный; вскры́тый; определённый; **3**. обнару́женный, обнажённый, вы́явленный, вскры́тый, откры́тый; изобличённый; **4**. *разг.* вы́писанный; 1—4 *см.* **вы́явіць.**

**ВЫЯЎЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1**. обнару́живаться, проявля́ться, обрисо́вываться, выявля́ться; выража́ться; ока́зываться; вскрыва́ться, обнажа́ться, разоблача́ться, открыва́ться; **2**. *безл. в сочетании с союзом* **што** *(становиться очевидным)* ока́зываться; получа́ться; **3**. *разг.* выпи́сываться; 1—3 *см.* **вы́явіцца;** **4**. *страд.* обнару́живаться, проявля́ться, выявля́ться; пока́зываться; вы́казываться, выража́ться; устана́вливаться; вскрыва́ться; определя́ться; обнажа́ться; открыва́ться; изоблича́ться; *см.* **выяўля́ць** 1—3.

**ВЫЯЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1**. обнару́живать, проявля́ть, выявля́ть; пока́зывать; выка́зывать; выража́ть; **2**. *(доказывать неоспоримо)* устана́вливать; вскрыва́ть; *(раскрывать содержание понятия)* определя́ть; **3**. *(раскрывать недостатки, доказывать виновность)* обнару́живать, обнажа́ть, выявля́ть, вскрыва́ть, открыва́ть; изоблича́ть; **4**. *разг.* выпи́сывать; 1—4 *см.* **вы́явіць**.

**ВЫЯ́ЎНА** *нареч. разг.* **1**. я́вно, бесспо́рно; **2**. вырази́тельно.

**ВЫЯ́ЎНАСЦЬ** *ж. разг.* **1**. я́вность, бесспо́рность; **2**. вырази́тельность.

**ВЫЯ́ЎНЫ** *разг.* **1**. я́вный, бесспо́рный; **2**. вырази́тельный.

**ВЭ́ДЗГАННЕ** *ср. прост.* измы́згивание, замы́згивание.

**ВЭ́ДЗГАЦЦА** *несов. возвр., страд. прост.* измы́згиваться, замы́згиваться.

**ВЭ́ДЗГАЦЬ** *несов. прост.* измы́згивать, замы́згивать.

**ВЭКСАЛЕТРЫМА́ЛЬНІК** *м.* векселедержа́тель.

**ВЭ́КСАЛЬ** *м.* ве́ксель; **заплаці́ць па ~лю** уплати́ть по ве́кселю; **прад'яві́ць в.** предъяви́ть ве́ксель.

**ВЭ́КСАЛЬНЫ** ве́ксельный.

**ВЭКСАЛЯДА́ВЕЦ, -да́ўца** *м.* векседа́тель.

**ВЭ́ЛЮМ, -му** *м.* вуа́ль *ж.*, фата́ *ж.*

**ВЭ́НДЖАНІНА** *ж. (копчёные продукты)* копче́ние *ср.*, копчёности *мн.*

**ВЭ́НДЖАННЕ** *ср.* копче́ние.

**ВЭ́НДЖАНЫ 1**. *прич.* копчённый; **2**. *прил.* копчёный.

**ВЭ́НДЗІЦЦА** *несов. возвр., страд.* копти́ться.

**ВЭ́НДЗІЦЬ** *несов.* копти́ть.

**ВЭ́РХАЛ, -лу** *м. разг.* каварда́к, бедла́м, содо́м, тарара́м.

**ВЯДЗЕ́ННЕ** *ср.* веде́ние.

**ВЯДЗЕ́РЦА** *ср. уменьш.* ведёрко.

**ВЯДЗЁНЫ** *см.* **вядо́мы II**.

**ВЯДЗЁРНЫ** ведёрный.

**ВЯДЗЬМА́К**, *род.* **ведьмака́** *м.* колду́н, куде́сник.

**ВЯДЗЬМА́Р** *м. см.* **вядзьма́к.**

**ВЯДЗЬМА́РАННЕ** *ср.* колдова́ние.

**ВЯДЗЬМА́РКА** *ж.* колду́нья, куде́сница, чароде́йка.

**ВЯДЗЬМА́РСКІ** колдовско́й.

**ВЯДЗЬМА́РСТВА** *ср.* колдовство́, чароде́йство, ча́ры *мн.*

**ВЯДЗЬМА́РЫЦЬ** *несов.* колдова́ть, чароде́йствовать.

**ВЯДО́МА 1**. *в знач. сказ.* изве́стно; небезызве́стно; **гэ́та ўсім в.** э́то всем изве́стно; **як в.** как изве́стно; **даво́лі в., што...** небезызве́стно (доста́точно изве́стно), что...; **2**. *в знач. вводн. сл.* изве́стно, коне́чно, поня́тно,безусло́вно; **я, в., аб усім напішу́ вам** я, поня́тно (коне́чно), обо всём напишу́ вам; **3**. *утвердительная частица* коне́чно, я́сно; **ты напі́шаш мне? — В., напішу́** ты напи́шешь мне? — Коне́чно (я́сно), напишу́; ◊ **аднаму́ бо́гу (ала́ху, чо́рту** і пад.) **в.** одному́ бо́гу (алла́ху, чёрту и т. п.) изве́стно.

**ВЯДО́МАЕ** *ср. сущ. мат.* изве́стное.

**ВЯДО́МАСЦЬ** *ж.* изве́стность, общеизве́стность; **набы́ць в.** получи́ть (приобрести́) изве́стность.

**ВЯДО́МЫ I** *в разн. знач.* изве́стный; *(несомненный — ещё)* заве́до-

мый; **~мыя ўсяму́ све́ту падзе́і** изве́стные всему́ све́ту собы́тия; **в. маста́к** изве́стный худо́жник; **в. гульта́й** изве́стный (заве́домый) лентя́й; ◊ **~мая спра́ва (рэч)** *в знач. вводн. сл.* изве́стное де́ло; **у ~май ступе́ні** в изве́стной сте́пени.

**ВЯДО́МЫ** II ведо́мый; **в. самалёт** ведо́мый самолёт; **~мае ко́ла** ведо́мое колесо́.

**ВЯДРО́**, *мн.* **вёдры** *ср.* ведро́; ◊ **лье як з ~ра́** льёт как из ведра́.

**ВЯДУ́ЧЫ 1.** *прич. (редко)* веду́щий; **2.** *в знач. прил.* веду́щий; **в. самалёт** веду́щий самолёт; **~чая ро́ля наву́кі** веду́щая роль нау́ки; **~чае ко́ла** *тех.* веду́щее колесо́; **3.** *в знач. сущ.* веду́щий.

**ВЯ́ЖУЧЫ** *прил.* вя́жущий; **~чае рэ́чыва** вя́жущее вещество́.

**ВЯЗ**, *род.* **вя́за;** *(о древесине и собир.)* **вя́зу** *м.* вяз.

**ВЯ́ЗАВЫ** вя́зовый.

**ВЯ́ЗАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* вя́зовые.

**ВЯЗА́ЛЬНІК** *м. см.* **вяза́льшчык.**

**ВЯЗА́ЛЬНЫ** вяза́льный.

**ВЯЗА́ЛЬШЧЫК** *м.* вяза́льщик.

**ВЯЗА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* вяза́льщица.

**ВЯЗА́НКА** *ж. см.* **вя́зка** 2.

**ВЯЗА́ННЕ** *ср.* **1.** *(действие)* вяза́ние, вя́зка *ж.*; **2.** *(предмет)* вяза́нье.

**ВЯ́ЗАНЫ 1.** *прич. в разн. знач.* вя́занный; *см.* **вяза́ць** 1; **2.** *прил.* вя́занный; **~ныя рукаві́цы** вя́занные рукави́цы.

**ВЯЗА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(согласовываться, соответствовать)* вяза́ться; **сло́вы абвінава́чанага не вя́жуцца з паказа́ннямі све́дак** слова́ обвиня́емого не вя́жутся с показа́ниями свиде́телей; **2.** цепля́ться, пристава́ть, привя́зываться; **3.** *страд.* вяза́ться; плоти́ться; *см.* **вяза́ць.**

**ВЯЗА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* вяза́ть; **в. снапы́** вяза́ть снопы́; **в. ру́кі каму́-не́будзь** вяза́ть ру́ки кому́-л.; **в. панчо́ху** вяза́ть чуло́к; **вя́жа ў ро́це** *безл.* вя́жет во рту; **в. цаглі́ны цэме́нтам** вяза́ть кирпичи́ цеме́нтом; **2.** *(плоты)* плоти́ть; ◊ **лы́ка не вя́жа** лы́ка не вя́жет.

**ВЯ́ЗЕНЬ, -зня** *м.* у́зник.

**ВЯ́ЗКА** *ж.* **1.** *(действие)* вя́зка; **2.** *(связанная охапка чего-л.)* вяза́нка, свя́зка; **в. дроў** вяза́нка дров.

**ВЯ́ЗКАСЦЬ** *ж.* вя́зкость; ○ **в. матэрыя́лаў** вя́зкость материа́лов.

**ВЯ́ЗКІ** вя́зкий.

**ВЯ́ЗНІЦА** *ж.* у́зница.

**ВЯ́ЗНІЦКІ** у́знический.

**ВЯ́ЗНІЦТВА** *ср.* у́зничество.

**ВЯ́ЗНУЦЬ** *несов. в разн. знач.* вя́знуть, увяза́ть, застрева́ть.

**ВЯ́ЗЫНКА** *ж.* Вя́зынка.

**ВЯ́ЗЫНКАЎСКІ** вя́зынковский.

**ВЯЗЬ** *ж. в разн. знач.* вязь.

**ВЯЗЬМО́** *ср.* **1.** *см.* **перавя́сла; 2.** переплете́ние; у́зел; вязь.

**ВЯ́КАЦЬ** *несов. прост.* вя́кать.

**ВЯ́КНУЦЬ** *сов. однокр. прост.* вя́кнуть.

**ВЯ́ЛА** *нареч.* **1.** вя́ло; **2.** *перен.* вя́ло; безжи́зненно; 1, 2 *см.* **вя́лы** 1, 2.

**ВЯ́ЛАСЦЬ** *ж.* **1.** вя́лость, дря́блость; **в. мышц (ску́ры)** дря́блость мышц (ко́жи); **2.** *перен.* вя́лость; безжи́зненность; *см.* **вя́лы** 2.

**ВЯ́ЛЕННЕ** *ср.* вя́ление.

**ВЯ́ЛЕНЫ 1**. *прич.* вя́ленный; **2**. *прил.* вя́ленный, провесно́й, прове́сный.

**ВЯЛІ́ЗАЗНЫ** *см.* **велізáрны**.

**ВЯЛІ́ЗАРНЫ** *см.* **велізáрны**.

**ВЯЛІ́ЗНАСЦЬ** *ж.* огро́мность; простра́нность.

**ВЯЛІ́ЗНЫ** огро́мный, большу́щий, грома́дный; простра́нный.

**ВЯЛІКААКІЯ́НСКІ** великоокеа́нский.

**ВЯЛІКАГАЛО́ВЫ** большеголо́вый.

**ВЯЛІКАДЗЯРЖА́ЎНАСЦЬ** *ж.* великодержа́вность.

**ВЯЛІКАДЗЯРЖА́ЎНЫ** великодержа́вный; **в. шавіні́зм** великодержа́вный шовини́зм.

**ВЯЛІ́КАСНА** *нареч.* велича́во, вели́чественно.

**ВЯЛІ́КАСНАСЦЬ** *ж.* велича́вость; вели́чественность.

**ВЯЛІ́КАСНЫ** велича́вый; вели́чественный.

**ВЯЛІ́КАСЦЬ** *ж.* **1**. вели́чие *ср.*; **2**. *(титулование монархов и их супруг)* вели́чество *ср.*; **ягó імперáтарская в.** его́ импера́торское вели́чество.

**ВЯЛІКАЎЗРО́СТАВЫ** великово́зрастный.

**ВЯЛІКАЯ БЕРАСТАВІ́ЦА** *г.п.* Больша́я Берестови́ца.

**ВЯЛІ́КДЗЕНЬ, -кадня** *м. рел.* Па́сха *ж.*

**ВЯЛІ́КІ 1**. большо́й; *(о буквах — ещё)* прописно́й, загла́вный; *(значительный по количеству — ещё)* изря́дный, здоро́вый, прили́чный, внуши́тельный; *(значительного объёма — ещё)* объёмистый; *(занимающий большое пространство, громадный — ещё)* обши́рный, простра́нный, огро́мный; *(о растительности — ещё)* бу́йный; *(в большой степени — об отрицательных качествах — ещё)* поря́дочный; **в. будынак** большо́е зда́ние; **в. бага́ж** большо́й бага́ж; **в. шчупа́к** больша́я (здоро́вая, изря́дная) щу́ка; **~кая су́ма гро́шай** больша́я (изря́дная, прили́чная, внуши́тельная) су́мма де́нег; **в. том** большо́й (объёмистый) том; **~кія ўлада́нні** больши́е (обши́рные, простра́нные, огро́мные) владе́ния; **~кая збажына́** бу́йные хлеба́; **в. гульта́й** большо́й (поря́дочный) лентя́й; **в. па́лец** большо́й па́лец; **2**. *(важный)* вели́кий, большо́й; *(заметный, крупный)* соли́дный, внуши́тельный; **~кая спра́ва** вели́кое (большо́е) де́ло; **~кія сі́лы** больши́е (соли́дные, внуши́тельные) си́лы; **3**. *(выдающийся, одарённый)* большо́й, вели́кий; **в. вучо́ны** большо́й (вели́кий) учёный; **4**. *(взрослый)* большо́й; **в. хло́пчык** большо́й ма́льчик; **5**. *(выдающийся по своему значению)* вели́кий; **Вялі́кая Айчы́нная вайна́** Вели́кая Оте́чественная война́; **6**. *(составная часть титулов)* вели́кий; **в. гéрцаг** вели́кий ге́рцог; **7**. *(очень сильный)* большо́й, убеди́тельный, насто́ятельный; **~кая про́сьба** больша́я (убеди́тельная, насто́ятельная) про́сьба; ◊ **ад (з) ~кага ро́зуму** от большо́го ума́; **ад мало́га да ~кага** от ма́ла до вели́ка; **бяда́ ~кая** велика́ беда́; **в. расці́** расти́ здоро́в; **~кай рукі́** большо́й руки́; **~кая ва́жнасць** велика́ ва́жность; **~кая шы́шка** *ирон.* больша́я ши́шка; **глядзе́ць ~кімі вача́мі** смотре́ть больши́ми глаза́ми; **з ~кай ла́скі** *чыёй* по ми́лости

*кого, чьей*; **на (в.) жаль** к (большо́му) сожале́нию; **не ~кае што...** не бог зна́ет что...; **не ~кая хі́трасць** не велика́ хи́трость; **не ~кая шту́ка** не велика́ (не больша́я) хи́трость; **не в. страх** не велика́ беда́; **рабіць ~кія во́чы** де́лать больши́е глаза́; **сам в.** сам большо́й, сам себе́ хозя́ин; **~каму караблю́ ~кае пла́ванне** *погов.* большо́му кораблю большо́е пла́ванье; **~кая лы́жка рот дзярэ́** *посл.* больша́я ло́жка рот дерёт; **в. пень ды ду́рань** *погов.* велика́ Феду́ла да ду́ра; **з ~кага гро́му малы́ дождж** *погов.* гора́ родила́ мышь; **у чужы́х рука́х піро́г в.** *погов.* в чужи́х рука́х пиро́г вели́к.

**ВЯЛІ́КІ АКІЯ́Н** Вели́кий океа́н.

**ВЯ́ЛІЦЦА** *несов. возвр., страд.* вя́литься.

**ВЯ́ЛІЦЬ** *несов.* вя́лить.

**ВЯ́ЛЫ 1.** *(утративший свежесть, упругость)* вя́лый, дря́блый; **2.** *перен.* вя́лый; безжи́зненный; неживо́й; **вя́лая рабо́та** вя́лая рабо́та; **вя́лая іграа́ піяні́ста** вя́лая (безжи́зненная) игра́ пиани́ста; **3.** *(о растениях)* увя́дший, вя́лый.

**ВЯЛЬМО́ЖА** *м. уст., ирон.* вельмо́жа.

**ВЯЛЬМО́ЖНЫ** *уст. ирон.* вельмо́жный.

**ВЯНГЛІ́НА** *ж. см.* **вяндлі́на.**

**ВЯНГЛІ́ННЫ** *см.* **вяндлі́нны.**

**ВЯНГЛЯ́Р** *м. см.* **вяндля́р.**

**ВЯНГЛЯ́РНЫ** *см.* **вяндля́рны.**

**ВЯНГЛЯ́РНЯ** *ж. см.* **вяндля́рня.**

**ВЯНДЛІ́НА** *ж.* ветчина́.

**ВЯНДЛІ́ННЫ** ветчи́нный.

**ВЯНДЛЯ́Р, -ра́,** *м.* копти́льщик.

**ВЯНДЛЯ́РНЫ** копти́льный.

**ВЯНДЛЯ́РНЯ** *ж. спец.* копти́льня.

**ВЯНЕ́Ц, -нца́** *м. церк., перен.* вене́ц; ◊ **кане́ц — спра́ве в.** *погов.* коне́ц — де́лу вене́ц.

**ВЯНЕ́ЧНЫ** *анат.* вене́чный; **~нае шво** вене́чный шов; **~ныя артэ́рыі** вене́чные арте́рии; **~ная ве́на** вене́чная ве́на.

**ВЯНО́ЗНЫ** *физиол.* вено́зный.

**ВЯНО́К I, -нка́** *м.* **1.** *(украшение из цветов или ветвей)* вено́к; **2.** *(корона, драгоценный головной убор)* вене́ц; **3.** *(нанизанные на что-л. предметы)* ни́зка *ж.*, плеть *ж.*; ◊ **цярно́вы в.** терно́вый вене́ц.

**ВЯНО́К II, -нка́** *м. (ряд брёвен в срубе)* вене́ц.

**ВЯНО́ЧАК, -чка** *м. уменьш.-ласк.* вено́чек.

**ВЯ́НУЦЬ** *несов. прям., перен.* увяда́ть, вя́нуть; ◊ **ву́шы в.** у́ши вя́нут.

**ВЯНЧА́ЛЬНЫ** *церк.* венча́льный.

**ВЯНЧА́ННЕ** *ср.* **1.** *церк.* венча́ние, вене́ц *м.*; **2.** *ист.* венча́ние.

**ВЯНЧА́НЫ** *см.* **ве́нчаны.**

**ВЯНЧА́ЦЦА 1.** *несов. церк.* венча́ться; **2.** *несов. страд.* венча́ться; *см.* **вянча́ць.**

**ВЯНЧА́ЦЬ** *несов. церк., перен.* венча́ть.

**ВЯПРУ́К,** *род.* **вепрука́** *м.* **1.** вепрь, каба́н; **2.** *перен. бран.* бо́ров, каба́н.

**ВЯРБА́** *ж. бот.* и́ва, ветла́, ве́рба; **ні́цая в.** плаку́чая и́ва; ◊ **на ~бе́ гру́шы** разве́систая клю́ква.

**ВЯРБІ́НА** *ж.* и́ва, ветла́, ве́рба.

**ВЯРБЛЮ́Д** *м.* верблю́д.

**ВЯРБЛЮ́ДАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* верблю́довые.

**ВЯРБЛЮДАГАДО́ВЕЦ, -до́ўца** *м.* верблюдово́д.

**ВЯРБЛЮДАГАДО́ЎЛЯ** *ж.* верблюдово́дство *ср.*

**ВЯРБЛЮДАГАДО́ЎЧЫ** верблюдово́дческий.

**ВЯРБЛЮ́ДЖЫ** верблю́жий.

**ВЯРБЛЮ́ДЖЫНА** *ж.* верблю́жина, верблюжа́тина.

**ВЯРБЛЮ́ДЗІЦА** *ж.* верблю́дица.

**ВЯРБЛЮ́ДКА** *ж. бот.* верблю́дка.

**ВЯРБНЯ́К**, *род.* **вербняку́** *м.* *(только о заросли)* ивня́к, вербня́к.

**ВЯРБО́ВАЧНЫ** вербо́вочный.

**ВЯРБО́ВЫ** и́вовый, ветло́вый, ве́рбовый.

**ВЯРБО́ВЫЯ** *сущ. мн. бот.* и́вовые.

**ВЯРБО́ЎКА** *ж.* вербо́вка.

**ВЯРБО́ЎНІК, -ку** *м. см.* **вярбня́к.**

**ВЯРБО́ЎШЧЫК** *м.* вербо́вщик.

**ВЯРБО́ЎШЧЫЦА** *ж.* вербо́вщица.

**ВЯРГІ́НЯ** *ж. бот.* георги́н *м.*, георги́на *ж.*

**ВЯРЗЦІ́** *несов. разг.* плести́, нести́, городи́ть, бре́дить; ◊ **в. лухту́** нести́ вздор, поро́ть чушь (дичь); **в. глу́пства** городи́ть чепуху́.

**ВЯРЗЦІ́СЯ** *несов. разг.* мере́щиться, чу́диться.

**ВЯРНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* верне́е.

**ВЯРНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* верне́е, бо́лее ве́рный.

**ВЯРНУ́ЦЦА** I *сов. прям., перен.* верну́ться, возврати́ться; вороти́ться; *(о силах, здоровье и т. п. — ещё)* восстанови́ться.

**ВЯРНУ́ЦЦА** II *несов. разг. (набок)* клони́ться, повора́чиваться, крени́ться.

**ВЯРНУ́ЦЬ** I *сов.* 1. *(отдать взятое или получить утраченное)* верну́ть, возврати́ть; вороти́ть; *(силы, здоровье и т. п. — ещё)* восстанови́ть; 2. *(попросить или принудить прибыть обратно, заставить заняться ранее покинутым делом)* верну́ть, возврати́ть; вороти́ть; **зага́дам дырэ́ктар ~ну́ў яго́ да пра́цы** прика́зом дире́ктор верну́л его́ к рабо́те; ◊ **в. да жыцця́** верну́ть к жи́зни; **што было́, таго́ не ве́рнеш** что бы́ло, того́ не вернёшь (не воро́тишь).

**ВЯРНУ́ЦЬ** II *несов.* 1. повора́чивать, свора́чивать; 2. *разг.* клони́ть, наклоня́ть, крени́ть; опроки́дывать, вали́ть; 3. вали́ть; **дым ве́рне з ко́міна** дым вали́т из трубы́; 4. *перен. разг.* клони́ть; **мне вядо́ма, куды́ ён ве́рне** мне изве́стно, куда́ он кло́нит; 5. *перен. разг.* нагова́ривать; 6. *разг. (землю)* рыть; ◊ **в. нос** вороти́ть нос; **го́ры в.** *на каго* облива́ть гря́зью *кого*; **з душы́ ве́рне** с души́ воро́тит.

**ВЯРО́ВАЧКА** *ж.* 1. *(тонкая верёвка)* бечёвка; 2. *уменьш.* верёвочка.

**ВЯРО́ВАЧНЫ** верёвочный, бечёвочный.

**ВЯРО́ЎКА** *ж.* верёвка; кана́т *м.*; бечева́; ◊ **віць ~кі** *з каго* вить верёвки *из кого*; **в. пла́ча** *па кім* верёвка (пе́тля) пла́чет *по ком*; **з ве́тру ~кі віць** нести́ (поро́ть) ахине́ю (дичь, вздор, ерунду́, галиматью́, чепуху́, чушь); **і на ~ўцы не зацягне́ш** и на верёвке не зата́щишь, и во́локом не зата́щишь; **сам на сябе́ ~ку ўе** сам себе́ я́му ро́ет; **цягну́ць на ~ўцы**

*каго* тацíть (тянýть) на верёвке *кого*; **абы́ карóўка, бýдзе і в.** *посл.* есть в мошнé, так бýдет и в квашнé.

**ВЯРÓЎЧЫНА** *ж. разг.* кусóк (обры́вок) верёвки.

**ВЯРСТÁ** *ж. уст.* верстá; ◊ **за ~тý абысцí** обойтú сторонóй.

**ВЯРСТÁЛЬШЧЫК** *м. тип.* верстáльщик.

**ВЯРСТÁЛЬШЧЫЦА** *ж. тип.* верстáльщица.

**ВЯРСТÁННЕ** *ср. тип.* верстáние.

**ВЯРСТÁТКА** *ж. тип.* верстáтка.

**ВЯРСТÁЦЦА** *несов. страд. тип.* верстáться.

**ВЯРСТÁЦЬ** *несов. тип.* верстáть.

**ВЯРТÁННЕ** *ср.* **1.** возвращéние, возврáт *м.*; восстановлéние; **2.** возвращéние; 1, 2 *см.* **вяртáць.**

**ВЯРТÁЦЦА** *несов. см.* **варóчацца** I.

**ВЯРТÁЦЬ** *несов. см.* **варóчаць** I.

**ВЯРТЛЮ́Г,** *род.* **вертлю́га** *м.* **1.** *анат.* вертлю́г, вéртел; **2.** *тех.* вертлю́г.

**ВЯРТЛЮ́ЖНЫ** *анат., тех.* вертлю́жный.

**ВЯРТЛЯ́ВАСЦЬ** *ж. разг.* вертля́вость.

**ВЯРТЛЯ́ВЫ** *разг.* вертля́вый.

**ВЯРТÝН,** *род.* **вертунá** *м.* **1.** *разг.* вертýн, егозá; непосéда; **2.** *(голубь)* вертýн; **3.** *(жук)* вертя́чка *ж.*; **4.** *(болезнь сосны)* вертýн.

**ВЯРТÝХА** *ж. разг.* вертýнья, егозá; непосéда.

**ВЯРТÝШКА** *ж. тех.* вертýшка.

**ВЯРХÍ** *ед. нет. см.* **верх** 2.

**ВЯРХÓВЫ** *в разн. знач.* верховóй, верхóвый.

**ВЯРХÓМ** *нареч.* верхóм; ◊ **éздзіць в.** *на кім* éздить верхóм *на ком.*

**ВЯРХÓЎЕ** *ср.* верхóвье.

**ВЯРХÓЎНІК** *м. ист.* верхóвник.

**ВЯРХÓЎНЫ** верхóвный; ○ **Вярхóўны галоўнакамáндуючы** Верхóвный главнокомáндующий.

**ВЯРЦÉЦЦА** *несов.* вращáться, вертéться.

**ВЯРЦÉЦЬ** *несов.* вращáть, вертéть.

**ВЯРЧÁЛЬНЫ** вращáтельный; **в. рух** вращáтельное движéние.

**ВЯРЧЭ́ННЕ** *ср.* вращéние.

**ВЯРШÁЛІНА** *ж.* верхýшка дéрева.

**ВЯРШКÓВЫ** вершкóвый.

**ВЯРШНÍК,** *род.* **вершнікá** *м.* прúтолока *ж.*, переклáдина *ж.*

**ВЯРШÓК** I, **-шкá** *м.* вершóк; **у аршы́не шаснáццаць ~шкóў** в аршúне шестнáдцать вершкóв.

**ВЯРШÓК** II, **-шкá** *м.* **1.** верхýшка *ж.*, макýшка *ж.*, мáковка *ж.*; **на сáмым ~шкý** на сáмой верхýшке (макýшке, мáковке); **2.** *только мн. (на молоке)* слúвки; **3.** *только мн. перен.* слúвки; **4.** *только мн.* верхú; **нахапáцца ~шкóў** нахватáться верхóв; ◊ **знімáць ~шкí** снимáть слúвки.

**ВЯРШЫ́ННІК, -ку** *м. собир.* вершúнник.

**ВЯРШЫ́ННЫ** вершúнный.

**ВЯРШЫ́НЯ** *ж. в разн. знач.* вершúна.

**ВЯРШЫ́ЦЕЛЬ** *м. книжн.* вершúтель.

**ВЯРШЫ́ЦЕЛЬКА** *ж. книжн.* верши́тельница.

**ВЯРШЫ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* верши́ться.

**ВЯРШЫ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* верши́ть; **в. спра́вы** верши́ть дела́; **в. стог** верши́ть стог; **в. дах** верши́ть кры́шу.

**ВЯРШЭ́ННЕ** *ср.* соверше́ние.

**ВЯРШЭ́НСТВА** *ср.* главе́нство, верхове́нство.

**ВЯРШЭ́НСТВАВАЦЬ** *несов.* главе́нствовать, верхове́нствовать.

**ВЯРЫ́ГІ, -ры́г** *ед. нет церк., перен.* вери́ги.

**ВЯРЫ́ЦЕЛЬНЫ** *дип.* вери́тельный; ○ **~ная гра́мата** вери́тельная гра́мота.

**ВЯРЭ́ДЗІЦЦА** *несов. разг. см.* **верадзі́цца.**

**ВЯРЭ́ДЗІЦЬ** *несов. разг. см.* **верадзі́ць.**

**ВЯРЭ́НЬКА** *ж. обл.* туесо́к *м.*

**ВЯСЕ́ЛЕЙКА** *ср. ласк. разг.* сва́дебка *ж.*

**ВЯСЕ́ЛЛЕ** *ср.* **1.** сва́дьба *ж.*; **2.** сва́дебный по́езд; ◊ **сярэ́бранае в.** сере́бряная сва́дьба; **залато́е в.** золота́я сва́дьба; **пахме́лле з чужо́га ~лля** в чужо́м пиру́ похме́лье.

**ВЯСЕ́ЛЬНЫ** сва́дебный; **~ныя пе́сні** сва́дебные пе́сни.

**ВЯСЕ́ННЕ-ПАСЯЎНЫ́** весе́нне-посевно́й.

**ВЯСЕ́ННІ** *см.* **веснавы́.**

**ВЯСЁЛКА** *ж.* ра́дуга.

**ВЯСЁЛКАВЫ** ра́дужный.

**ВЯСЁЛЫ 1.** *в разн. знач.* весёлый; **в. хара́ктар** весёлый хара́ктер; **в. твар** весёлое лицо́; **в. спекта́кль** весёлый спекта́кль; **2.** *(служащий для увеселения)* увесели́тельный; **~лая пагуля́нка** увесели́тельная прогу́лка; ◊ **рабі́ць ~лую мі́ну пры дрэ́ннай гульні́** *погов.* де́лать весёлую ми́ну при плохо́й игре́.

**ВЯСКО́ВЕЦ, -ко́ўца** *м.* сельча́нин.

**ВЯСКО́ВЫ 1.** дереве́нский; **~вая ха́та** дереве́нская изба́; **2.** се́льский; **в. наста́ўнік** се́льский учи́тель.

**ВЯСЛО́ I** *ср. (в лодке)* весло́; ○ **сушы́ць вёслы** *мор.* суши́ть вёсла.

**ВЯСЛО́ II** *ср. (о нанизанных предметах)* свя́зка *ж.*

**ВЯСЛЯ́Р,** *род.* **весляра́** *м.* гребе́ц.

**ВЯСЛЯ́РНЫ** *спорт.* гребно́й; **в. спорт** гребно́й спорт.

**ВЯСНА́** *ж.* весна́.

**ВЯСНО́ВЫ** *см.* **веснавы́.**

**ВЯСНО́Й** *и* **ВЯСНО́Ю** *нареч.* весно́й, весно́ю, по весне́.

**ВЯСНУ́ШКА** *ж.* весну́шка.

**ВЯСНУ́ШКАВАТЫ** весну́шчатый.

**ВЯСНЯ́НКА I** *ж. лит., этн.* весня́нка.

**ВЯСНЯ́НКА II** *ж. зоол.* весня́нка.

**ВЯСТА́ЛКА** *ж.* веста́лка.

**ВЯСТУ́Н,** *род.* **вестуна́** *м.* ве́стник, провозве́стник, посла́нец.

**ВЯСТУ́НКА** *ж.* ве́стница, провозве́стница, посла́нница.

**ВЯТРА́К,** *род.* **ветрака́** *м.* ветряна́я ме́льница, ветря́к, ветря́нка *ж.*

**ВЯТРА́НКА** *ж. разг. (ветряная оспа)* ветря́нка.

**ВЯТРО́ЎНІК, -ку** *м. бот.* та́волга *ж.*, таволжа́нка *ж.*, лаба́зник.

**ВЯТРО́ЎНІКАВЫ** *бот.* та́волговый.

**ВЯТРУ́ГА** *м. разг.* ветри́ще.

**ВЯТРЫ́ШЧА** *м. разг.* ветри́ще.

**ВЯХА́** *ж. прям., перен.* ве́ха; **ста́віць ве́хі** ста́вить ве́хи; **асно́ўныя ве́хі тво́рчасці паэ́та** основны́е ве́хи тво́рчества поэ́та.

**ВЯХІ́Р**, *род.* **вехіра́** *м. зоол.* вя́хирь, ви́тютень.

**ВЯХО́ТКА** *ж.* моча́лка.

**ВЯ́ЦІЧЫ, -чаў** *ист.* вя́тичи.

**ВЯЦЬ** *несов. см.* **вя́нуць.**

**ВЯЧО́РКА** *ж. разг. (вечерняя газета)* вечёрка.

**ВЯЧО́РКІ, -рак** *ед. нет этн.* посиде́лки.

**ВЯЧО́РНІЦА** *ж. бот.* вече́рница.

**ВЯЧЫ́СТЫ** *выс.* векове́чный.

**ВЯЧЭ́РА** *ж.* у́жин.

**ВЯЧЭ́РАЦЬ** *несов.* у́жинать.

**ВЯЧЭ́РНІ** вече́рний; зака́тный; **в. прамéнь** зака́тный (вече́рний) луч.

**ВЯЧЭ́РНІК** *м. разг. (учащийся)* вече́рник.

**ВЯЧЭ́РНІЦА** I *ж. разг. (учащаяся)* вече́рница.

**ВЯЧЭ́РНІЦА** II *ж. зоол.* вече́рница.

**ВЯЧЭ́РНЯ** *ж. церк.* вече́рня.

**ВЯШЧА́ЛЬНІК** *м. ист., перен.* глаша́тай.

**ВЯШЧА́ННЕ** *ср. радио* веща́ние.

**ВЯШЧА́ЦЬ** *несов. радио* веща́ть.

**ВЯШЧУ́Н**, *род.* **вешчуна́** *м.* **1.** вещу́н, предсказа́тель, прорица́тель; **2.** *см.* **вяшча́льнік.**

**ВЯШЧУ́НКА** *ж. см.* **вяшчу́ха.**

**ВЯШЧУ́ННЯ** *ж. см.* **вяшчу́нка.**

**ВЯШЧУ́НСТВА** *ср.* предсказа́ние, проро́чество.

**ВЯШЧУ́ХА** *ж.* вещу́нья, предсказа́тельница, прорица́тельница.

# Г

**ГА** I *нескл. м. (гектар)* га *(гектар).*

**ГА** II *частица* **1.** *вопросительная* а; **га? што?** а? что?; **2.** *побудительная* а; **та́та, га та́та!** па́па, а па́па!

**ГА** III *межд. (выражение догадки, удивления)* а; **га! і ты тут!** а! и ты здесь!

**ГААЛЯ́Н, -ну** *м. бот.* гаоля́н.

**ГАБАІ́СТ** *м.* гобои́ст.

**ГАБАРДЗІ́Н, -ну** *м. текст.* габарди́н.

**ГАБАРДЗІ́НАВЫ** габарди́новый.

**ГАБАРЫ́Т, -ту** *м.* габари́т.

**ГАБАРЫ́ТНЫ** габари́тный; ○ **~ныя варо́ты** *ж.-д.* габари́тные воро́та.

**ГАБЕЛЕ́Н** *м.* **1.** *род.* **габеле́на** *(ковёр)* гобеле́н; **2.** *род.* **габеле́ну** *(декоративная ткань)* гобеле́н.

**ГАБЕЛЕ́НАВЫ** гобеле́новый.

**ГА́БІТУС, -су** *м. биол., мед.* га́битус.

**ГАБЛЁВАНЫ** *см.* **габлява́ны.**

**ГАБЛЁЎКА** *ж.* **1.** *(действие)* строга́ние *ср.*; стро́жка; струга́ние *ср.*; **2.** остро́ганный материа́л *(доски и т. п.).*

**ГАБЛЮ́ШКА** *ж.* стру́жка.

**ГАБЛЯВА́ЛЬНЫ** стро́гальный.

**ГАБЛЯВА́ЛЬШЧЫК** *м.* строга́льщик.

**ГАБЛЯВА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* строга́льщица.

**ГАБЛЯВА́ННЕ** *ср.* строга́ние, стро́жка *ж.*

**ГАБЛЯВА́НЫ 1.** *прич.* стро́ганный, стру́ганный, остро́ганный; **2.** *прил.* стро́ганный, стру́ганный.

**ГАБЛЯВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* строга́ться, струга́ться.

**ГАБЛЯВА́ЦЬ** *несов.* строга́ть, струга́ть.

**ГАБО́Й** *м. муз.* гобо́й.

**ГА́БРА** *нескл. ср. геол.* га́ббро.

**ГАВА́ЙСКІ** гава́йский; ○ **~кая гіта́ра** гава́йская гита́ра.

**ГАВА́НА** *ж. разг. уст. (сорт табака; сигара)* гава́на.

**ГАВА́НСКІ** гава́нский; **~кая цыга́ра** гава́нская сига́ра.

**ГА́ВАНЬ** *ж.* га́вань.

**ГАВАРКІ́ 1.** разгово́рчивый, говорли́вый; словоохо́тливый; общи́тельный; **2.** речи́стый.

**ГАВАРЛІ́ВА** *нареч.* говорли́во.

**ГАВАРЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* **1.** говорли́вость, разгово́рчивость, словоохо́тливость; **2.** *перен.* говорли́вость; *см.* **гаварлі́вы** 2.

**ГАВАРЛІ́ВЫ 1.** говорли́вый, разгово́рчивый, словоохо́тливый; **2.** *перен.* говорли́вый; **г. руча́й** говорли́вый руче́й.

**ГАВАРУ́Н, -на́** *м. разг.* говору́н, краснобо́й, балагу́р.

**ГАВАРУ́ХА** *ж. разг.* говору́нья, балагу́рка.

**ГАВАРУ́ШКА** *ж. (гриб)* говору́шка.

**ГАВАРЫ́ЛЬНЯ** *ж. разг. неодобр.* говори́льня.

**ГАВАРЫ́ЦЦА** *несов.* **1.** говори́ться, расска́зываться; **пра гэ́та гаво́рыцца ў арты́куле** об э́том говори́тся (расска́зывается) в статье́; **2.** *безл. (о наличии желания, настроения говорить)* говори́ться; **яму́ сёння не́шта не ~ры́лася** ему́ сего́дня что́-то не говори́лось; **3.** *страд.* произноси́ться; провозглаша́ться; *см.* **гавары́ць** 3; ◊ **як гаво́рыцца** как говори́тся.

**ГАВАРЫ́ЦЬ** *несов.* **1.** говори́ть; **дзіця́ пачало́ г. ра́на** ребёнок на́чал говори́ть ра́но; **г. па-францу́зску** говори́ть по-францу́зски; **г. з акцэ́нтам** говори́ть с акце́нтом; **2.** *(беседовать с кем-л.)* разгова́ривать, толкова́ть; **3.** произноси́ть; провозглаша́ть; **выра́зна гавары́ць сло́вы** чётко произноси́ть слова́; **г. тост** произноси́ть (провозглаша́ть) тост; **4.** *(поддерживать общение)* разгова́ривать; **яны́ не гаво́раць ужо́ не́калькі дзён** они́ не разгова́ривают уже́ несколько дней; **5.** *перен.* говори́ть, свиде́тельствовать; выража́ть *(что)*; **яго́ ўчы́нкі гаво́раць пра друго́е** его́ посту́пки говоря́т (свиде́тельствуют) о друго́м; **6.** *(передавать слухи)* говори́ть, погова́ривать; ◊ **што і г.** что и говори́ть; **што ні ~ры́** что ни говори́; **г. на кары́сць** *каго-чаго* говори́ть в по́льзу *кого-чего*; **няма́ чаго́ і г.** не́чего (не сто́ит) и говори́ть; **кроў гаво́рыць** кровь говори́т; **г. пра высо́кія матэ́рыі** говори́ть о высо́ких мате́риях; **да трох не ~ры́** шу́тки пло́хи; **г. на ро́зных мо́вах** говори́ть на ра́зных

языка́х; **гэ́та гаво́рыць само́ за сябе́** э́то говори́т само́ за себя́; **г. язы́к не балі́ць** *посл.* говори́ть язы́к не боли́т; язы́к без косте́й; **гаво́рыць — гаро́дзіць, а на пра́ўду выхо́дзіць** *погов.* как бу́дто чушь, а на пове́рку выхо́дит — пра́вда.

**ГАВАРЭ́ННЕ** *ср.* говоре́ние.

**ГАВЕ́ННЕ** *ср. церк.* гове́нье.

**ГАВЕ́ЦЬ** *несов. церк.* гове́ть.

**ГАВО́РАНЫ** говорённый.

**ГАВО́РАЧЫ 1.** *прил.* говоря́щий; **2.** *в знач. сущ.* говоря́щий; **3.** *деепр.* говоря́.

**ГАВО́РКА** *ж.* **1.** разгово́р; *м.*; **пра што ідзе́ г.?** о чём идёт разгово́р?; **2.** го́вор *м.*; **за сцяно́ю пачу́лася не́чая г.** за стено́й послы́шался че́й-то го́вор; **3.** *(манера говорить)* го́вор; *м.*; **пяву́чая г.** певу́чий говор; **4.** *лингв.* го́вор *м.*; **5.** *(толки о чём-л.)* молва́, разгово́ры *мн.*; ◊ **пуста́я г.** пуста́я болтовня́; **не мо́жа быць і ~кі** не мо́жет быть и ре́чи (разгово́ра); **без лі́шняй ~кі** без ли́шних (да́льних) разгово́ров.

**ГАВО́Т** *м. муз.* гаво́т.

**ГАВЭ́НДА** *ж.* молва́; болтовня́.

**ГАВЭ́НДЗІЦЬ** *несов. разг.* каля́кать, разглаго́льствовать.

**ГАВЯ́ДА** *собир. ж. обл.* скот *(крупный рогатый)*.

**ГАВЯ́ДЖЫ** *обл.* ско́тный; для скота́; **г. хлеў** ско́тный хлев.

**ГАВЯ́ДНІК** *м. обл.* ско́тник.

**ГАВЯ́ДНІЦА** *ж. обл.* ско́тница.

**ГА́ГА** *ж. зоол.* га́га.

**ГА́ГАВІЦА** *ж. обл.* хо́лка.

**ГАГА́КАННЕ** *ср.* гага́канье.

**ГАГА́КАЦЬ** *несов.* гага́кать.

**ГАГА́КНУЦЬ** *сов. однокр.* гага́кнуть.

**ГАГАЛІ́НЫ** *зоол.* гоголи́ный.

**ГА́ГАННЕ** *ср.* гогота́нье, го́гот *м.*

**ГАГА́РА** *ж. зоол.* гага́ра.

**ГАГА́РКА** *ж. зоол.* гага́рка.

**ГАГАРЫНІ́Т, -ту** *м. мин.* гагарини́т.

**ГАГАРЫ́НЫ** гага́рий.

**ГАГА́Т, -ту** *м. (разновидность каменного угля)* гага́т.

**ГАГА́ТАВЫ** гага́товый.

**ГАГАТА́ННЕ** *ср.* гогота́нье, го́гот *м.; см.* **гагата́ць.**

**ГАГАТА́ЦЬ** *несов. (о гусях)* гогота́ть.

**ГА́ГАЦЬ** *несов.* гогота́ть.

**ГАГА́ЧЫ** гага́чий.

**ГАД** *м.* **1.** гад, змея́ *ж.*; **2.** *прост. бран.* гад; **фашы́сцкія га́ды** фаши́стские га́ды; ◊ **г. пе́чаны** *бран.* и́зверг, окая́нный; **ко́жны г. чужо́му гро́шу рад** *посл.* беру́т зави́дки на чужи́е пожи́тки.

**ГАДАВА́ЛЬНІК** *м.* пито́мник.

**ГАДАВА́ЛЬНІЦКІ** пито́мнический.

**ГАДАВА́НЕЦ, -нца** *м.* **1.** воспи́танник, пито́мец; **2.** *прост.* вы́кормок, вы́кормыш.

**ГАДАВА́НКА** *ж.* воспи́танница, пито́мица.

**ГАДАВА́ННЕ** *ср.* раще́ние; выра́щивание, взра́щивание; вска́рмливание, выка́рмливание; воспита́ние; *см.* **гадава́ць** 1.

**ГАДАВА́ЦЦА** *несов.* **1.** расти́; **яны́ тут нарадзі́ліся і ~ва́ліся** они́ здесь родили́сь и росли́; **2.** *страд.* расти́ться; выра́щиваться, взра́щиваться; вска́рмливаться, выка́рм-

ливаться; воспи́тываться; отра́щиваться; отпуска́ться; *см.* **гадава́ць.**

**ГАДАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** расти́ть; выра́щивать, взра́щивать; *(о людях, животных — ещё)* вска́рмливать, выка́рмливать; *(о детях — ещё)* воспи́тывать; **г. цяля́т** расти́ть (выра́щивать, вска́рмливать) теля́т; **г. сад** расти́ть (выра́щивать, взра́щивать) сад; **2.** отра́щивать, расти́ть, отпуска́ть.

**ГАДАВІ́НА** *ж.* годовщи́на.

**ГАДАВЫ́** годово́й; годи́чный; **г. дахо́д** годово́й дохо́д; **г. тэ́рмін** годово́й срок.

**ГАДАЛІ́НІЙ, -нію** *м. хим.* гадоли́ний.

**ГАДА́МІ** *нареч.* года́ми; **мы г. не сустрака́емся** мы года́ми не встреча́емся.

**ГАДА́ННЕ** *ср.* **1.** *(предположение)* гада́ние; **2.** *обл.* гада́ние; ворожба́ *ж.*

**ГА́ДАСЦЬ** *ж. разг.* га́дость, ме́рзость, па́кость.

**ГАДАЎЁ** *собир. ср. разг.* га́ды *мн.*

**ГА́ДАЎКА** *ж. разг. бран.* га́дина.

**ГАДА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(предполагать)* гада́ть; **2.** *обл.* гада́ть, ворожи́ть; ◊ **г. на кафе́йнай гу́шчы** гада́ть на кофе́йной гу́ще; **ба́бка на́двае гада́ла** *погов.* ба́бушка на́двое сказа́ла.

**ГА́ДЗЕНЬКІ** *уменьш.* га́денький.

**ГА́ДЗІНА** *ж.* **1.** *зоол.* гадю́ка; **2.** *разг. бран.* га́дина; гадю́ка; змея́; **фашы́сцкая г.** фаши́стская га́дина.

**ГАДЗІ́НА** *ж.* **1.** час *м.*; **дзве ~ны** два часа́; **а дзевя́тай ~не** в де́вять часо́в; **ён мог ~намі раска́зваць пра сябе́** он мог часа́ми расска́зывать о себе́; **като́рая (яка́я) г.?** кото́рый час?; **2.** *(неопределённый промежуток времени)* часо́к *м.*; **засну́ць на яку́ю ~ну** усну́ть на часо́к; **3. ад ~ны, па ~нах** поча́сно; поча́сный, почасово́й; **апла́та ад ~ны (па ~нах)** поча́сная (почасова́я) опла́та; ○ **~ны пік** часы́ пик; **каменда́нцкая г.** коменда́нтский час; ◊ **ша́рая г.** су́мерки (вече́рние); **чо́рная (ліха́я) г.** чёрный день; лиха́я годи́на; тру́дные времена́; **апо́шняя г.** после́дний час; **цэ́лая (до́брая) г.** би́тый час; **не па днях, а па ~нах** не по дням, а по часа́м; **з ~ны на ~ну** с ча́су на час; **праз ~ну па ча́йнай лы́жцы** че́рез час по ча́йной ло́жке; **з ко́жнай ~най** час о́т часу; **калі́ф на ~ну** кали́ф на час.

**ГАДЗІ́НАМІ** *нареч.* часа́ми; **г. прасе́джваць над кні́гай** часа́ми проси́живать над кни́гой.

**ГАДЗІ́НКА** *ж. уменьш.-ласк. разг.* часо́к *м.*, ча́сик *м.*; **ляж і пасп́і ~ку** ляг и поспи́ часо́к (ча́сик); ◊ **пасядзе́ць ша́раю ~каю** посу́мерничать.

**ГАДЗІ́ННІК** *м.* часы́ *ед. нет*; **насце́нны г.** стенны́е часы́; **ве́жавы г.** ба́шенные часы́; **кішэ́нны г.** карма́нные часы́; ○ **вадзяны́ г.** водяны́е часы́; **пясо́чны г.** песо́чные часы́; **со́нечны г.** со́лнечные часы́.

**ГАДЗІ́ННІКАВЫ** *(относящийся к часам)* часово́й; **~вая стрэ́лка** часова́я стре́лка; **г. ма́йстар** часово́й ма́стер, часовщи́к.

**ГАДЗІ́ННІЧАК, -чка** *м. уменьш.-ласк.* ча́сики *ед. нет.*

**ГАДЗІ́ННЫ** *в разн. знач.* часово́й; **~нная апла́та** часова́я опла́та; **~нная ле́кцыя** часова́я ле́кция; **г. гра́фік** часово́й гра́фик; ○ **г. по́яс** часово́й по́яс.

**ГАДЗІ́НШЧЫК** *м.* часовщи́к, часово́й ма́стер.

**ГА́ДЗІЦЦА** *несов. разг.* **1**. *чаще переводится безл. конструкциями со словами* проти́вно, тошни́т; *(брезгливо относиться — ещё)* бре́згать; **я га́джуся ў ру́кі ўзяць** проти́вно в ру́ки взять; **я га́джуся, то́лькі глёдзячы на яго́** меня́ тошни́т от одного́ его́ ви́да; **2**. *(делаться грязным)* мара́ться, па́чкаться.

**ГА́ДЗІЦЬ** *несов. разг.* **1**. испражня́ться, га́дить; **2**. *(делать пакости)* га́дить, па́костить; **3**. *(делать некрасивым)* уро́довать, безобра́зить; **4**. *(делать грязным)* мара́ть, па́чкать; **5**. *безл.* тошни́ть; **мяне́ г. ад усяго́ гэ́тага** меня́ тошни́т от всего́ э́того.

**ГАДЗІ́ЦЬ** I *несов.* **1**. угожда́ть; **2**. *(о погоде)* благоприя́тствовать.

**ГАДЗІ́ЦЬ** II *несов. (на работу)* нанима́ть.

**ГАДЗЮ́КА** *ж.* **1**. *зоол.* гадю́ка; **2**. *разг. бран. см.* **га́дзіна** 2.

**ГАДЗЮ́ЧЫ** гадю́чий; **~чая ску́ра** гадю́чья ко́жа.

**ГАДЗЯНЁ** *ср. см.* **гадзяня́**.

**ГАДЗЯНЯ́** *и* **ГАДЗЯНЁ, -ня́ці** *ср.* **1**. *зоол.* змеёныш *м.*; **2**. *бран.* змеёныш *м.*, гадёныш *м.*

**ГА́ДКА** *нареч. разг.* **1**. га́дко, отврати́тельно, проти́вно; **2**. безобра́зно, уро́дливо; **3**. га́дко, ме́рзко, скве́рно; 1—3 *см.* **га́дкі**; ◊ **г. з'е́сці і шкада́ кі́нуць** *погов.* проти́вно есть и жа́лко вы́плюнуть.

**ГА́ДКІ** *разг.* **1**. *(вызывающий отвращение)* га́дкий, отврати́тельный, проти́вный; **2**. *(некрасивый)* безобра́зный, уро́дливый; **3**. *(дурной)* га́дкий, ме́рзкий, скве́рный.

**ГАДЛІ́ВА** *нареч.* гадли́во, тошнотво́рно.

**ГАДЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* гадли́вость, тошнотво́рность.

**ГАДЛІ́ВЫ** гадли́вый, тошнотво́рный.

**ГАДО́ГРАФ** *м. мех.* годо́граф.

**ГАДО́К, -дка́** *м. уменьш.-ласк.* го́дик.

**ГАДО́ЎЛЯ** *ж. (животных)* выра́щивание *ср.*, разведе́ние *ср.*; вы́кормка *ж.*

**ГАДУНЕ́Ц, -нца́** *м. разг. см.* **гадава́нец.**

**ГАЕ́ННЕ** *ср.* заживле́ние.

**ГА́ЕЧНЫ** га́ечный.

**ГАЁК**, *род.* **гайка́** *м. уменьш.-ласк.* ро́щица *ж.*

**ГАЗ** I, *род.* **га́зу** *м.* газ; ○ **прыро́дны г.** приро́дный газ; **уду́шлівы г.** уду́шливый газ; **слёзатачы́вы г.** слезоточи́вый газ; **бало́тны г.** боло́тный газ; **вуглякі́слы г.** углеки́слый газ; **гарчы́чны г.** горчи́чный газ; **грыму́чы г.** грему́чий газ; **іне́ртныя ~зы** ине́ртные га́зы; **ча́дны г.** уга́рный газ; ◊ **даць г.** дать газ; **зба́віць г.** сба́вить газ; **на по́ўным ~зе** на по́лном га́зе (газу́).

**ГАЗ** II, *род.* **га́зу** *м. текст.* газ.

**ГА́ЗА** *ж. мн. нет* кероси́н *м.*

**ГАЗААБМЕ́Н, -ну** *м.* газообме́н.

**ГАЗААБСТАЛЯВА́ННЕ** *ср. тех.* газообору́дование.

**ГАЗААДВО́ДНЫ** газоотво́дный.

**ГАЗААНАЛІЗА́ТАР** *м. тех.* газоанализа́тор.

**ГАЗААПАРАТУ́РА** *ж. тех.* газоаппарату́ра.

**ГАЗААПЕРА́ТАР** *м.* газоопера́тор.

**ГАЗААСВЯТЛЕ́ННЕ** *ср.* газоосвеще́ние.

**ГАЗААЦЯПЛЕ́ННЕ** *ср.* газоотопле́ние.

**ГАЗААЧЫ́СТКА** *ж.* газоочи́стка.

**ГАЗААЧЫШЧА́ЛЬНІК** *м.* газоочисти́тель.

**ГАЗААЧЫШЧА́ЛЬНЫ** газоочи́стный.

**ГАЗАБАЛО́Н** *м.* газобалло́н.

**ГАЗАБАЛО́ННЫ** газобалло́нный.

**ГАЗАБЕТО́Н, -ну** *м.* газобето́н.

**ГАЗАВА́Т, -ту** *м. рел.* газава́т.

**ГАЗАВА́ЦЬ** *несов. разг.* газова́ть.

**ГАЗАВІ́К, -ка́** *м. разг.* газови́к.

**ГАЗАВО́З** *м.* газово́з.

**ГА́ЗАВЫ** I *в разн. знач.* га́зовый; **г. рухаві́к** га́зовый дви́гатель; **~вая пліта́** га́зовая плита́; **~вае асвятле́нне** га́зовое освеще́ние; ○ **~вая ата́ка** га́зовая ата́ка; **~вая гангрэ́на** га́зовая гангре́на; **~вая зва́рка** га́зовая сва́рка; **~вая рэ́зка** га́зовая ре́зка.

**ГА́ЗАВЫ** II га́зовый; *см.* **газ** II.

**ГА́ЗАВЫ** III *(относящийся к керосину)* кероси́новый, кероси́нный.

**ГАЗАВЫДЗЯЛЕ́ННЕ** *ср. горн.* газовыделе́ние.

**ГАЗАВЫЗНАЧА́ЛЬНІК** *м. воен.* газоопредели́тель.

**ГАЗАВЫМЯРА́ЛЬНІК** *м. тех.* газоизмери́тель.

**ГАЗАВЫХЛАПНЫ́** *тех.* газовыхлопно́й.

**ГАЗАГЕНЕРА́ТАР** *м. тех.* газогенера́тор.

**ГАЗАГЕНЕРА́ТАРНЫ** газогенера́торный; **~ная ста́нцыя** газогенера́торная ста́нция.

**ГАЗАДЫ́ЗЕЛЬ** *м. тех.* газоди́зель.

**ГАЗАДЫНА́МІКА** *ж.* газодина́мика.

**ГАЗАДЫНАМІ́ЧНЫ** *физ.* газодинами́ческий.

**ГАЗАЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ** *ср.* газоснабже́ние.

**ГАЗАЗВА́РАЧНЫ** газосва́рочный.

**ГАЗАЗВА́РКА** *ж. тех.* газосва́рка.

**ГАЗАЗВА́РШЧЫК** *м.* газосва́рщик.

**ГАЗАЗВА́РШЧЫЦА** *ж.* газосва́рщица.

**ГАЗАЗДАБЫВА́ЛЬНІК** *м.* газодобы́тчик.

**ГАЗАКА́МЕРА** *ж.* газока́мера.

**ГАЗАЛІ́Н, -ну** *м. хим.* газоли́н.

**ГАЗАЛІ́НАВЫ** газоли́новый.

**ГАЗАМАТО́Р** *м.* газомото́р.

**ГАЗАМЕ́Р** *м. тех.* газо́мер.

**ГАЗАМЕ́ТР** *м. тех.* газо́метр.

**ГАЗАМЁТ** *м. воен.* газомёт.

**ГАЗАНАПА́ЛЬНЫ** *тех.* газокали́льный.

**ГАЗАНАПАЎНЯ́ЛЬНЫ** *тех.* газонаполни́тельный.

**ГАЗАНАПО́ЎНЕНЫ** *тех.* газонапо́лненный.

**ГАЗАНА́ФТАВЫ** газонефтяно́й.

**ГАЗАНЕПРАНІКА́ЛЬНЫ** газонепроница́емый.

**ГАЗАНО́СНАСЦЬ** *ж. геол.* газоно́сность.

**ГАЗАНО́СНЫ** *геол.* газоно́сный.

**ГАЗАНУ́ЦЬ** *сов. однокр. разг.* газану́ть.

**ГАЗАПАДО́БНАСЦЬ** *ж. физ.* газообра́зность.

**ГАЗАПАДО́БНЫ** *физ.* газообра́зный.

**ГАЗАПРАВО́Д** *м.* газопрово́д.

**ГАЗАПРАВО́ДНЫ** газопрово́дный.

**ГАЗАПРАВО́ДЧЫК** *м.* газопрово́дчик.

**ГАЗАПРАНІКА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* газопроница́емость.

**ГАЗАПРАНІКА́ЛЬНЫ** газопроница́емый.

**ГАЗАРАЗМЕРКАВА́ЛЬНЫ** газораспредели́тельный.

**ГАЗАРАЗМЕРКАВА́ННЕ** *ср.* газораспределе́ние.

**ГАЗАРАЗРА́ДНЫ** газоразря́дный.

**ГАЗАРАСПЫЛЯ́ЛЬНІК** *м. тех.* газораспыли́тель.

**ГАЗАРЭ́ЗКА** *ж. тех.* газоре́зка.

**ГАЗАРЭ́ЗНЫ** *тех.* газоре́зательный.

**ГАЗАРЭ́ЗЧЫК** *м.* газоре́зчик.

**ГАЗАРЭ́ЗЧЫЦА** *ж.* газоре́зчица.

**ГАЗАСВЕТЛАВЫ́** *физ.* газосве́тный; **~ва́я ля́мпа** газосве́тная ла́мпа.

**ГАЗАСХО́ВІШЧА** I *ср. воен.* газоубе́жище.

**ГАЗАСХО́ВІШЧА** II *ср.* газохрани́лище.

**ГАЗАТРО́Н** *м. физ.* газотро́н.

**ГАЗАТУРБАВО́З** *м.* газотурбово́з.

**ГАЗАТУРБАХО́Д** *м.* газотурбохо́д.

**ГАЗАТУРБІ́НА** *ж. тех.* газотурби́на.

**ГАЗАТУРБІ́ННЫ** газотурби́нный.

**ГАЗАЎЛО́ЎНЫ** газоула́вливающий; **~ная ўстано́ўка** газоула́вливающая устано́вка.

**ГАЗАЎТВАРЭ́ННЕ** *ср. хим.* газообразова́ние.

**ГАЗАЎШЧЫ́К, -ка́** *м.* газовщи́к.

**ГАЗА́ЦЫЯ** *ж. спец.* газа́ция.

**ГАЗАЭЛЕКТРАЗВА́РКА** *ж. тех.* газоэлектросва́рка.

**ГАЗАЭЛЕКТРАЗВА́РШЧЫК** *м.* газоэлектросва́рщик.

**ГАЗАЭЛЕКТРАЗВА́РШЧЫЦА** *ж.* газоэлектросва́рщица.

**ГАЗГО́ЛЬДЭР** *м. тех.* газго́льдер.

**ГАЗЕ́ЛА** *м. лит.* газе́лла.

**ГАЗЕ́ЛЬ** I *ж. зоол.* газе́ль.

**ГАЗЕ́ЛЬ** II *ж. лит.* газе́ль.

**ГАЗЕ́ТА** *ж.* газе́та; ○ **насце́нная г.** стенна́я газе́та; ◊ **хадзя́чая г.** ходя́чая газе́та.

**ГАЗЕ́ТНЫ** газе́тный; **г. арты́кул** газе́тная статья́.

**ГАЗЕ́ТЧЫК** *м. в разн. знач.* газе́тчик.

**ГАЗЕ́ТЧЫЦА** *ж. в разн. знач.* газе́тчица.

**ГАЗЕ́ЦІНА** *ж. разг.* газе́та.

**ГА́ЗІК** *м. разг.* га́зик.

**ГАЗІРАВА́ННЕ** *ср.* гази́рование.

**ГАЗІРАВА́НЫ** гази́рованный.

**ГАЗІРАВА́ЦЦА** *несов. страд.* гази́роваться.

**ГАЗІРАВА́ЦЬ** *несов.* гази́ровать.

**ГАЗІРО́ВАНЫ** *см.* **газірава́ны**.

**ГАЗІРО́ЎКА** *ж.* газиро́вка.

**ГАЗІРО́ЎШЧЫЦА** *ж. разг.* газиро́вщица.

**ГАЗІФІКАВА́НЫ** газифици́рованный.

**ГАЗІФІКАВА́ЦЦА** *несов. страд.* газифици́роваться; *см.* **газіфікава́ць.**

**ГАЗІФІКАВА́ЦЬ** *сов. и несов. в разн. знач.* газифици́ровать; **г. ву́галь** газифици́ровать у́голь; **г. дом** газифици́ровать дом.

**ГАЗІФІКА́ТАР** *м.* газифика́тор.

**ГАЗІФІКА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* газифика́ция; *см.* **газіфікава́ць.**

**ГАЗЛІ́ФТ** *м. тех.* газли́фт.

**ГАЗНІ́К, -ка́** *м. разг. см.* **газо́ўка.**

**ГАЗНІ́ЦА** *ж. разг. см.* **газо́ўка.**

**ГАЗО́Н** *м.* газо́н.

**ГАЗОНАКАСІ́ЛКА** *ж.* газонокоси́лка.

**ГАЗО́ЎКА** *ж. разг.* копти́лка.

**ГА́ЗЫ, -заў** *ед. нет* га́зы.

**ГАЗЫРЫ́**, *ед.* **газы́р, -ра́** *м.* газыри́.

**ГАІ́ЦЦА** *несов.* **1.** зажива́ть; **2.** *страд.* зале́чиваться, заживля́ться.

**ГАІ́ЦЬ** *несов.* зале́чивать, заживля́ть.

**ГА́ІЧКА** *ж. зоол.* га́ичка.

**ГАЙ**, *род.* **га́ю** *м.* ро́ща *ж.*

**ГА́ЙДА́** *межд. в знач. сказ. разг.* айда́; **г. ў лес па я́гады** айда́ в лес за я́годами.

**ГАЙДА́ЛЬНЫ** колеба́тельный, кача́тельный.

**ГАЙДАМА́К** *м. ист.* гайдама́к.

**ГАЙДАМА́ЦКІ** *ист.* гайдама́цкий.

**ГАЙДАМА́ЧЧЫНА** *ж. ист.* гайдама́тчина.

**ГАЙДА́НКА** *ж. разг.* ка́чка; болта́нка.

**ГАЙДА́ННЕ** *ср.* кача́ние; колыха́ние, пока́чивание, колеба́ние.

**ГАЙДАНУ́ЦЦА** *сов. однокр.* качну́ться; колыхну́ться, покачну́ться, колебну́ться.

**ГАЙДАНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* качну́ть; колыхну́ть, покачну́ть, колебну́ть.

**ГАЙДА́ЦЦА** *несов.* кача́ться; колыха́ться, пока́чиваться, колеба́ться.

**ГАЙДА́ЦЬ** *несов.* кача́ть; колыха́ть, пока́чивать, колеба́ть.

**ГАЙДРО́П** *м. ав.* гайдро́п.

**ГАЙДУ́К, -ка́** *м. ист.* гайду́к.

**ГАЙДУ́ЦКІ** гайду́цкий.

**ГА́ЙКА** *ж.* га́йка; ◊ **падкруці́ць ~кі** подкрути́ть га́йки; **асла́біць ~кі** осла́бить га́йки, отпусти́ть во́жжи.

**ГАЙКАВЁРТ** *м. тех.* гайковёрт.

**ГАЙКАНАРАЗНЫ́** *тех.* гайконарезно́й.

**ГАЙКАРЭ́З** *м. тех.* гайкоре́з.

**ГА́ЙМАРАЎ: ~рава по́ласць** *анат.* га́йморова по́лость.

**ГАЙМАРЫ́Т, -ту** *м. мед.* гаймори́т.

**ГА́ЙНІК, -ку** *м. бот.* дре́млик.

**ГАЙНО́** *ср. обл.* ло́гово.

**ГАЙНЯ́** *ж. обл.* ста́я *(собак, волков).*

**ГАЙСА́ННЕ** *ср. см.* **го́йсанне.**

**ГАЙСА́ЦЬ** *несов. см.* **го́йсаць.**

**ГАК** I, *род.* **га́ка** *м.* **1.** крюк; **га́кам зачапі́ць за бервяно́** крюко́м зацепи́ть за бревно́; **2.** *(на подкове)*

шип; **3.** *обл. (участок земли)* клин; ◊ **з га́кам** с га́ком.

**ГАК** II *межд. в знач. сказ.* ах.

**ГА́КАВЫ** *(относящийся к шипу на подкове)* шипово́й.

**ГА́КАЦЬ** *несов. разг.* сту́кать, ударя́ть; руби́ть; а́хать.

**ГА́КНУЦЦА** *сов. разг.* сту́кнуться, уда́риться.

**ГА́КНУЦЬ** *сов. разг.* сту́кнуть, уда́рить; рубану́ть; а́хнуть.

**ГА́ЛА** *ж. разг.* **1.** *(о местности)* го́лое простра́нство; **2.** кру́глый ком, шар *(скатанный).*

**ГАЛАВА́ 1.** *ж. в разн. знач.* голова́; **павярну́ць ~ву́** поверну́ть го́лову; **сто гало́ў рага́тай жывёлы** сто голо́в рога́того скота́; **г. кало́ны** голова́ коло́нны; **г. сы́ру** голова́ сы́ру; **2.** *м. (главное лицо)* глава́; **г. сям'і́** глава́ семьи́; **г. ўра́да** глава́ прави́тельства; **3.** *м. уст.* голова́; **гарадскі́ г.** городско́й голова́; ○ **мёртвая г.** *зоол.* мёртвая голова́; ○ **у ~ва́х** в голова́х, в изголо́вье; **злама́ць (скруці́ць) сабе́ ~ву́** слома́ть (сверну́ть) себе́ ше́ю; **на сваю́ ~ву́** на свою́ го́лову; **аве́чая г.** бара́нья башка́; **г. яло́вая** голова́ ело́вая; **бе́дная г.** бе́дная голова́; **гара́чая г.** горя́чая голова́; **дзіра́вая г.** дыря́вая голова́; **дубо́вая г.** дубо́вая голова́; **залата́я г.** золота́я голова́; **све́тлая г.** све́тлая голова́; **г.—два ву́хі** садо́вая голова́; **вы́біць дур з ~вы́** вы́бить дурь из головы́; **г. ідзе́ кру́гам** голова́ идёт кру́гом; **як снег на ~ву́** как снег на́ голову; **ве́цер у ~ве́** ве́тер в голове́; **з ~во́й** с голово́й; башкови́тый; **хоць кол на ~ве́ чашы́** хоть кол на голове́ теши́; **як на маю́ дурну́ю ~ву́ (мой дурны́ ро́зум)** по моему́ сла́бому разуме́нию; **ле́зці ў ~ву** лезть в го́лову; **не зносі́ць ~вы́** *каму* не сноси́ть головы́ *кому*; **падня́ць (узня́ць) ~ву́** подня́ть го́лову; **вы́йсці (вы́лецець, вы́скачыць) з ~вы́** вы́йти (вы́лететь, вы́скочить) из головы́; **у вір ~во́ю** в о́мут голово́й; **стая́ць над ~во́ю** стоя́ть над голово́й; **вы́даць (сябе́) з ~во́й** вы́дать (себя́) с голово́й; **зве́сіць (апусці́ць) ~ву́** пове́сить (опусти́ть) го́лову; **трыма́ць ~ву́ высо́ка** держа́ть го́лову высоко́; **се́сці на ~ву** сесть на́ голову; **даць ~ву́ на адсячэ́нне** дать го́лову на отсече́ние; **г. кру́жыцца (кру́ціцца)** голова́ кру́жи́тся; **у ~ве́ закружы́лася (закруці́лася)** в голове́ закружи́лось; **закруці́ць ~ву́** вскружи́ть го́лову; **валі́ць з хво́рай ~вы́ на здаро́вую** вали́ть с больно́й головы́ на здоро́вую; **хадзі́ць на ~ве** ходи́ть на голове́; **рызыку́ючы ~во́й** риску́я жи́знью; **варушы́ць ~во́ю** шевели́ть мозга́ми; **няма́ дзе ~ву́ прытулі́ць** не́где (не́куда) го́лову приклони́ть; **во́лас з ~вы́ не ўпадзе́** во́лос с головы́ не упадёт; **з ~вы́ да ног** с головы́ до ног; **з ног да ~вы́** с ног до головы́; **удзяўбці́ (убі́ць) у ~ву́** вдолби́ть (вбить, втемя́шить) в го́лову; **куры́ная г.** кури́ная голова́; **руча́цца ~во́й** руча́ться голово́й; **а яму́ (ёй, ім) не ў ~ве́** а ему́ (ей, им) и го́ря ма́ло; **не гэ́та** *ў каго* **ў ~ве́** не э́то *у кого* на уме́; **а мне гэ́та не ў ~ве́** а я э́то из ви́да упусти́л; а мне невдомёк; **не мець клёку ў ~ве́** без царя́ в голове́; **тлумі́ць (маро́чыць) ~ву́** моро́чить го́лову; **дайсці́ сваёй ~во́ю** дойти́ свои́м умо́м; **клёпкі ў ~ве́ не хапа́е** клёпки в голове́ не хвата́ет; **няха́й твая́ (яго́) г. не балі́ць** э́то не твоя́ (не его́) забо́та; **набра́ць (сабе́) у ~ву́** вбить (себе́) в го́лову;

**ЗАКЛІКА́ННЕ** *ср.* **1.** *(да чаго)* призы́в *м. (к чему)*; **2.** приглаше́ние, зазыва́ние; 1, 2 *см.* **заклíка́ць.**

**ЗАКЛІ́КАНЫ 1.** *(да чаго)* при́званный *(к чему)*; **2.** приглашённый, за́званный; 1, 2 *см.* **заклíкаць.**

**ЗАКЛІКА́ЦЦА** *несов. страд.* призыва́ться; приглаша́ться, зазыва́ться; *см.* **заклíка́ць.**

**ЗАКЛІ́КАЦЬ** *сов.* **1.** *(да чаго)* призва́ть *(к чему)*; воззва́ть *(к кому-чему)*; **з. да пара́дку** призва́ть к поря́дку; **2.** пригласи́ть, зазва́ть; **з. да сябе́** пригласи́ть (зазва́ть) к себе́.

**ЗАКЛІКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *(да чаго)* призыва́ть *(к чему)*; взыва́ть *(к кому-чему)*; **2.** приглаша́ть, зазыва́ть; 1, 2 *см.* **заклíкаць.**

**ЗАКЛІНАВА́НЫ** заклинённый.

**ЗАКЛІНАВА́ЦЦА** *сов.* заклини́ться.

**ЗАКЛІНАВА́ЦЬ** *сов.* заклини́ть.

**ЗАКЛІНА́ЛЬНІК** *м.* заклина́тель.

**ЗАКЛІНА́ЛЬНІЦА** *ж.* заклина́тельница.

**ЗАКЛІНА́ЛЬНЫ** заклина́тельный.

**ЗАКЛІНА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* заклина́ние.

**ЗАКЛІНА́ЦЦА** *несов. страд.* заклина́ться.

**ЗАКЛІНА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* заклина́ть; **з. скарб** заклина́ть клад; **~на́ю цябе́, скажы́ пра́ўду** заклина́ю тебя́, скажи́ пра́вду.

**ЗАКЛІНО́ЎВАННЕ** *ср.* закли́нивание.

**ЗАКЛІНО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* закли́ниваться.

**ЗАКЛІНО́ЎВАЦЬ** *несов.* закли́нивать.

**ЗАКЛУБІ́ЦЦА** *сов.* заклуби́ться.

**ЗАКЛЬ́ІГАЦЬ** *сов. разг.* заковыля́ть.

**ЗАКЛЬ́ІПАЦЬ** *сов. прост.* заковыля́ть.

**ЗАКЛЮ́ЧАНЫ** заключённый; совершённый; *см.* **заключы́ць.**

**ЗАКЛЮЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** *(в чём-л.)* заключа́ться; состоя́ть; **спра́ва ~ча́ецца ў насту́пным** де́ло заключа́ется в сле́дующем; **эстэты́чнае хараство́ ~ча́ецца ў тым...** эстети́ческая красота́ заключа́ется в том...; **2.** *страд.* заключа́ться; соверша́ться; *см.* **заключа́ць.**

**ЗАКЛЮЧА́ЦЬ** *несов. (договор, мир и т. п.)* заключа́ть; *(сделку, купчую — ещё)* соверша́ть.

**ЗАКЛЮ́ЧНЫ** заключи́тельный; **з. канцэ́рт** заключи́тельный конце́рт; ◊ **з. ако́рд** заключи́тельный акко́рд.

**ЗАКЛЮЧЫ́ЦЬ** *сов. (договор, мир и т. п.)* заключи́ть; *(сделку, купчую — ещё)* соверши́ть.

**ЗАКЛЮЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** заключе́ние; соверше́ние; *см.* **заключы́ць; 2.** *(вывод)* заключе́ние; **зрабíць з.** сде́лать заключе́ние; ◊ **у з.** в заключе́ние.

**ЗАКЛЯВА́ЦЬ** *сов. (о рыбе — начать клёв)* заклева́ть.

**ЗАКЛЯ́КЛЫ** *обл. (о ногах, руках)* онеме́вший, онеме́лый, одеревене́лый.

**ЗАКЛЯ́КНУЦЬ** *сов. обл.* онеме́ть, одеревене́ть; **нóгі ~клі** но́ги онеме́ли (одеревене́ли).

**ЗАКЛЯПА́НЫ** заклёпанный.

**ЗАКЛЯПА́ЦЬ** *сов.* заклепа́ть.

**ЗАКЛЯСЦІ́** *сов.* закля́сть, наложи́ть закля́тие.

**ЗАКЛЯСЦІ́СЯ** *сов.* закля́сться.

**ЗАКЛЯ́ТЫ** *в разн. знач.* закля́тый; **з. за́мак** закля́тый за́мок; **з. во́раг** закля́тый враг; **з. карцёжнік** закля́тый картёжник.

**ЗАКЛЯ́ЦЦЕ** *ср.* закля́тие.

**ЗАКО́ВАНЫ** *см.* **закава́ны.**

**ЗАКО́ЛАТЫ** зако́лотый; заре́занный, заби́тый; *см.* **закало́ць** I 1.

**ЗАКО́ЛВАННЕ** *ср.* зака́лывание; *см.* **зако́лваць.**

**ЗАКО́ЛВАЦЦА** *несов.* **1.** зака́лываться; *см.* **закало́цца**; **2.** *страд.* зака́лываться; забива́ться; *см.* **зако́лваць.**

**ЗАКО́ЛВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зака́лывать; *(свинью — ещё)* забива́ть; *см.* **закало́ць** I 1.

**ЗАКО́ЛКА** *ж.* зако́лка.

**ЗАКО́Н** *м.* **1.** *(декрет) род.* **зако́на** зако́н; **2.** *в др. знач. род.* **зако́ну** зако́н; **зага́д камандзі́ра — з. для паднача́леных** прика́з команди́ра — зако́н для подчинённых; **з. гасці́ннасці** зако́н гостеприи́мства; **з. адваро́тнай сі́лы не ма́е** зако́н обра́тной си́лы не име́ет; **~ны развіцця́ прыро́ды** зако́ны разви́тия приро́ды; ○ **з. бо́жы** *церк.* зако́н бо́жий; **сухі́ з.** сухо́й зако́н; ◊ **па-за ~нам** вне зако́на; **во́ўчы з.** во́лчий зако́н; **лі́тара ~ну** бу́ква зако́на; **пераступі́ць з.** нару́шить закон; **ду́рням з. не пі́сан** *погов.* дурака́м зако́н не пи́сан.

**ЗАКОНААДПАВЕ́ДНАСЦЬ** *ж.* законосообра́зность.

**ЗАКОНААДПАВЕ́ДНЫ** законосообра́зный.

**ЗАКОНАВУЧЫ́ЦЕЛЬ** *м. церк.* законоучи́тель.

**ЗАКОНАВУЧЭ́ННЕ** *ср. церк.* законоуче́ние.

**ЗАКОНАДАРА́ДЧЫ** *полит., юр.* законосовеща́тельный.

**ЗАКОНАПАЛАЖЭ́ННЕ** *ср.* законоположе́ние.

**ЗАКОНАПАРА́ДАК, -дку** *м.* законопоря́док.

**ЗАКОНАПАРУША́ЛЬНІК** *м. юр.* закононаруши́тель.

**ЗАКОНАПАРУША́ЛЬНІЦА** *ж. юр.* закононаруши́тельница.

**ЗАКОНАПРАЕ́КТ** *м.* законопрое́кт.

**ЗАКО́ННА** *нареч.* зако́нно.

**ЗАКО́ННАСЦЬ** *ж.* зако́нность.

**ЗАКО́ННІК** *м. разг.* зако́нник.

**ЗАКО́ННІЦА** *ж. разг.* зако́нница.

**ЗАКО́ННЫ** *в разн. знач.* зако́нный; **з. дакуме́нт** зако́нный докуме́нт; **~ннае абурэ́нне** зако́нное негодова́ние; ○ **з. шлюб** зако́нный брак.

**ЗАКО́НТУРНЫ** зако́нтурный.

**ЗАКО́НЧАНАСЦЬ** *ж.* зако́нченность, око́нченность.

**ЗАКО́НЧАНЫ** **1.** *прич.* зако́нченный, око́нченный; заключённый; *см.* **зако́нчыць**; **2.** *прил.* зако́нченный; **з. маста́к** зако́нченный худо́жник; **~ная ду́мка** зако́нченная мысль; ○ **~нае трыва́нне** *грамм.* соверше́нный вид.

**ЗАКО́НЧВАЦЦА** *несов. см.* **зака́нчвацца.**

**ЗАКО́НЧВАЦЬ** *несов. см.* **зака́нчваць.**

**ЗАКО́НЧЫЦЦА** *сов.* зако́нчиться, око́нчиться; **заня́ткі ~чыліся** заня́тия зако́нчились (око́нчились).

**ЗАКО́НЧЫЦЬ** *сов.* зако́нчить, око́нчить; *(завершить)* заключи́ть; **з. інсты́тут** зако́нчить (око́нчить) институ́т; **з. рабо́ту** зако́нчить (око́нчить) рабо́ту; **з. прамо́ву за́клікам** зако́нчить (заключи́ть) речь призы́вом.

**ЗАКО́ПАНЫ** *см.* **закапа́ны**.

**ЗАКО́ПВАННЕ** *ср.* зарыва́ние, зака́пывание; *см.* **зако́пваць** 1.

**ЗАКО́ПВАЦЦА** *несов.* **1.** *(во что-л. сыпучее)* зарыва́ться, зака́пываться; **2.** *(целиком отдаваться какому-л. делу)* зарыва́ться; 1, 2 *см.* **закапа́цца** 1, 2; **3.** *страд.* зарыва́ться, зака́пываться; *см.* **зако́пваць** 1.

**ЗАКО́ПВАЦЬ** *несов.* **1.** *(засыпать, заваливать)* зарыва́ть, зака́пывать; **2.** *перен. разг.* упря́тывать; запря́тывать.

**ЗАКО́РМЛЕНЫ** закo̓рмленный.

**ЗАКО́РМЛІВАННЕ** *ср.* зака́рмливание.

**ЗАКО́РМЛІВАЦЬ** *несов.* зака́рмливать.

**ЗАКО́РПАЦЦА** *сов. разг.* закопа́ться; заме́шкаться.

**ЗАКО́СКІ, -сак** *и* **-скаў** *ед. нет* нача́ло косьбы́.

**ЗАКО́Т** *м. архит.* фронто́н.

**ЗАКО́ЎВАННЕ** *ср. в разн. знач.* зако́вывание, зако́вка *ж.; см.* **зако́ўваць**.

**ЗАКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* зако́вываться; *см.* **зако́ўваць**.

**ЗАКО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зако́вывать; *см.* **закава́ць**.

**ЗАКО́ЎЗАНЫ** *разг.* запа́чканный, испа́чканный, зама́ранный.

**ЗАКО́ЎЗАЦЦА** *сов.* **1.** заскользи́ть; **2.** *разг.* завози́ться, запа́чкаться, испа́чкаться, замара́ться.

**ЗАКО́ЎЗАЦЬ** *сов. разг.* завози́ть, запа́чкать, испа́чкать, замара́ть.

**ЗАКО́ЎЗВАЦЬ** *несов. разг.* па́чкать, мара́ть.

**ЗАКО́ЎКА** *ж. (повреждение копыта при неправильной ковке)* зако́вка.

**ЗАКО́ЧАНЫ** *в разн. знач.* зака́ченный; вка́ченный; ука́ченный; *см.* **закаці́ць**.

**ЗАКО́ЧВАННЕ** *ср.* зака́тывание; вка́тывание; ука́тывание; *см.* **зако́чваць**.

**ЗАКО́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* зака́тываться; *(оказываться внутри чего-л.— ещё)* вка́тываться; *(удаляться, исчезать куда-л.)* ука́тываться; *см.* **закаці́цца**; **2.** *страд.* зака́тываться; вка́тываться; ука́тываться; *см.* **зако́чваць**.

**ЗАКО́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зака́тывать; *(катя, помещать внутрь чего-л.— ещё)* вка́тывать; *(удалять куда-л.— ещё)* ука́тывать; *см.* **закаці́ць**.

**ЗАКРАДА́ЦЦА** *несов.* закра́дываться; *см.* **закра́сціся**.

**ЗАКРА́ДВАЦЦА** *несов. см.* **закрада́цца**.

**ЗАКРА́ЕК, -ра́йка** *м. разг.* закра́ина *ж.*; закра́ек.

**ЗАКРА́ІНА** *ж. разг. (кромка)* закра́ина, закра́й *м.*

**ЗАКРА́КАЦЬ** *сов.* закря́кать.

**ЗАКРАКТА́ЦЬ** *сов.* закряхте́ть.

**ЗАКРАНА́ННЕ** *ср.* затра́гивание.

**ЗАКРАНА́ЦЦА** *несов. страд.* затра́гиваться; задева́ться; *см.* **закрана́ць.**

**ЗАКРАНА́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* затра́гивать, задева́ть; **2.** *(што) перен. (обращать внимание в изложении)* затра́гивать, каса́ться *(чего)*; 1, 2 *см.* **закрану́ць.**

**ЗАКРАНУ́ТЫ 1.** *прям., перен.* затро́нутый, заде́тый; **2.** *перен.* затро́нутый; 1, 2 *см.* **закрану́ць.**

**ЗАКРАНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** *прям., перен.* затро́нуть, заде́ть; **аго́нь ~ну́ў ча́стку ле́су** ого́нь затро́нул часть ле́са; **з. чыю́-не́будзь сла́бую стру́нку** затро́нуть чью-л. сла́бую стру́нку; **2.** *(што) перен. (обратить внимание в изложении)* затро́нуть, косну́ться *(чего)*; **з. пыта́нне** затро́нуть вопро́с, косну́ться вопро́са.

**ЗАКРА́ПАЦЬ** *сов. (о дожде)* закра́пать, зака́пать.

**ЗАКРА́СА** *ж.* запра́вка, приправа.

**ЗАКРАСАВА́ЦЬ** *сов. (о хлебах)* зацвести́; **жы́та ~ва́ла** рожь зацвела́.

**ЗАКРА́СІЦЬ** *сов.* запра́вить, сдо́брить, припра́вить; **з. капу́сту смята́най** запра́вить (сдо́брить, припра́вить) щи смета́ной.

**ЗАКРА́СЦІСЯ** *сов.* закра́сться; **сумне́нне ~ра́лася ў душу́** сомне́ние закра́лось в ду́шу.

**ЗАКРА́ТАЦЦА** *сов. разг.* зашевели́ться, начать дви́гаться.

**ЗАКРА́ТАЦЬ** *сов. разг.* задви́гать, зашевели́ть.

**ЗАКРАХТА́ЦЬ** *сов. см.* **закракта́ць.**

**ЗАКРА́ШАНЫ** *разг.* запра́вленный, сдо́бренный, припра́вленный; *см.* **закра́сіць.**

**ЗАКРА́ШВАЦЦА** *несов. страд.* заправля́ться, сда́бриваться, приправля́ться; *см.* **закра́шваць.**

**ЗАКРА́ШВАЦЬ** *несов.* заправля́ть, сда́бривать, приправля́ть; *см.* **закра́сіць.**

**ЗАКРО́ЕНЫ** *спец.* закро́енный; *см.* **закро́іць.**

**ЗАКРО́ЕЧНЫ** *спец. см.* **закро́йны.**

**ЗАКРО́ІЦЬ** *сов. спец. (скроить, выкроить)* закрои́ть.

**ЗАКРО́Й, -ро́ю** *м. спец.* закро́й.

**ЗАКРО́ЙВАННЕ** *ср. спец.* закро́йка *ж.*

**ЗАКРО́ЙВАЦЦА** *несов. страд. спец.* закра́иваться.

**ЗАКРО́ЙВАЦЬ** *несов. спец. (кроить)* закра́ивать.

**ЗАКРО́ЙКА** *ж. спец.* закро́йка.

**ЗАКРО́ЙНЫ** *спец.* закро́йный; **з. цэх** закро́йный цех; **~ная машы́на** закро́йная маши́на.

**ЗАКРО́ЙШЧЫК** *м.* закро́йщик.

**ЗАКРО́ЙШЧЫЦА** *ж.* закро́йщица.

**ЗАКРО́ЧЫЦЬ** *сов.* зашага́ть.

**ЗАКРУ́ГЛЕНАСЦЬ** *ж.* закруглённость.

**ЗАКРУГЛЕ́ННЕ** *ср.* **1.** *прям., перен.* закругле́ние; *см.* **закругліць; 2.** *(закруглённая часть чего-л.)* закругле́ние; **на ~нні цягні́к прыпыні́ў ход** на закругле́нии по́езд приостанови́л ход.

**ЗАКРУ́ГЛЕНЫ** *прям., перен.* закруглённый; *см.* **закругліць.**

**ЗАКРУГЛІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* закругли́ться.

**ЗАКРУГЛІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* закругли́ть; **з. ву́гал** закругли́ть у́гол; **з. фра́зу** закругли́ть фра́зу.

**ЗАКРУГЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* закругля́ться; *см.* **закругліцца, закругляць.**

**ЗАКРУГЛЯ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* закругля́ть; *см.* **закругліць.**

**ЗАКРУЖЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* закружи́ться; **~жы́ліся па́ры ў ва́льсе** закружи́лись па́ры в ва́льсе; **~жы́ліся самалёты над ле́сам** закружи́лись самолёты над ле́сом; **ду́мкі ~жы́ліся** мы́сли закружи́лись; ◊ **у галаве́ ~жы́лася** закружи́лось в голове́.

**ЗАКРУЖЫ́ЦЬ** *сов. (начать кружить)* закружи́ть; **~жы́ла завіру́ха** закружи́ла мете́ль.

**ЗАКРУ́МКАЦЬ** *сов.* **1.** зака́ркать; **~каў крумка́ч** зака́ркал во́рон; **2.** *(о лягушках)* заква́кать.

**ЗА́КРУТКА** *ж.* **1.** *(приспособление для запора двери, ставни)* завёртка; **2.** *(завиток, загиб)* закорю́чка.

**ЗАКРУЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *(о гайке, винте)* завинти́ться; **2.** *(поворачиваясь)* закры́ться, заверну́ться; **кран ~ці́ўся** кран закры́лся (заверну́лся); **3.** зави́ться, закрути́ться; **4.** заку́таться, заверну́ться; **5.** *(начать кружиться)* закружи́ться; **6.** заверте́ться; заегози́ть, заюли́ть; **7.** *(обвиться, намотаться)* закрути́ться, замота́ться; **пу́га ~ці́лася вако́л пугаўя́** кнут закрути́лся (замота́лся) вокру́г кнутови́ща; **8.** *(начать крутиться)* закрути́ться, заверте́ться; **~ці́ліся ко́лы** закрути́лись (заверте́лись) колёса; **9.** *(подняться столбом)* взви́хриться; **10.** *разг. (дойти до изнеможения)* закрути́ться, зама́яться; **зусі́м ~ці́ўся, трэ́ба адпачы́ць** совсе́м закрути́лся (зама́ялся), на́до отдохну́ть.

**ЗАКРУЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(крутя, завинтить, ввернуть внутрь)* завинти́ть, заверну́ть; **з. га́йку** завинти́ть (заверну́ть) га́йку; **2.** *(поворачивая)* закры́ть, заверну́ть; **з. кран** закры́ть (заверну́ть) кран; **3.** *(крутя, завить)* закрути́ть; **з. ву́сы** закрути́ть усы́; **4.** *(обвивая кругом, намотать)* закрути́ть, замота́ть; **з. ша́лік вако́л шы́і** закрути́ть (замота́ть) шарф вокру́г ше́и; **5.** *(заставить кругообразно двигаться)* закружи́ть; **ён узя́ў яе́ за ру́кі і ~ці́ў па ха́це** он взял её за́ руки и закружи́л по ко́мнате; **6.** *(начать вертеть; поднять вихрем что-л.)* закрути́ть, заверте́ть, взви́хри́ть; **ве́цер ~ці́ў ля́сце** ве́тер закрути́л (заверте́л, взви́хри́л) ли́стья; **7.** *(придать вращательное движение)* закрути́ть; **з. ко́ла** закрути́ть колесо́; **8.** *(упаковать, обернуть)* заверну́ть; **з. паку́пку ў папе́ру** заверну́ть поку́пку в бума́гу; **з. но́гі ў ко́ўдру** заверну́ть но́ги в одея́ло; **9.** *(начать качать из стороны в сторону)* замота́ть; **з. галаво́й** замота́ть голово́й; **10.** *прост. (сказать)* заверну́ть, закрути́ть; **ну і ~ці́ў!** ну и заверну́л (закрути́л)!; **11.** *без доп. (о метели)* заверну́ть, подня́ться; **завіру́ха ~ці́ла** мете́ль заверну́ла (подняла́сь); ◊ **у мазга́х ~ці́ла** *безл.* дурь в го́лову пришла́; **з. галаву́** вскружи́ть го́лову.

**ЗАКРУ́ЧАНЫ** **1.** зави́нченный, завёрнутый; **2.** закры́тый, завёрнутый; **3.** закру́ченный; **4.** закру́ченный, замо́танный; **5.** взви́х-

ренный, взвихрённый; **6.** завёрнутый; 1—6 *см.* **закруці́ць** 1—4, 6, 8.

**ЗАКРУ́ЧВАННЕ** *ср.* **1.** зави́нчивание, завёртывание; **2.** закрыва́ние, завора́чивание; **3.** закру́чивание; **4.** закру́чивание, зама́тывание; **5.** завёртывание, завора́чивание, завёртка *ж.*; 1—5 *см.* **закру́чваць** 1—4, 6.

**ЗАКРУ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** *(о гайке, винте)* зави́нчиваться, завёртываться; **2.** *(поворачиваясь)* закрыва́ться, завёртываться; **3.** завива́ться, закру́чиваться; **4.** заку́тываться, завора́чиваться; **5.** *(обвиваться, наматываться)* закру́чиваться, зама́тываться; 1—5 *см.* **закруці́цца** 1—4, 7; **6.** *страд.* зави́нчиваться; завёртываться; закрыва́ться; завора́чиваться; закру́чиваться, зама́тываться; *см.* **закру́чваць.**

**ЗАКРУ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** *(крутя, завинчивать, вворачивать внутрь)* зави́нчивать, завёртывать; **2.** *(поворачивая)* закрыва́ть, завора́чивать; **3.** *(крутя, завивать)* закру́чивать; **4.** *(обвивая кругом, наматывать)* закру́чивать, зама́тывать; **5.** *(придавать вращательное движение)* закру́чивать; **6.** *(упаковывать, обёртывать)* завёртывать, завора́чивать; 1—6 *см.* **закруці́ць** 1—4, 7, 8.

**ЗАКРЫВА́ННЕ** *ср.* **1.** закрыва́ние, закры́тие; задёргивание; **2.** *с.-х.* заде́лка *ж.; см.* **закрыва́ць.**

**ЗАКРЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* закрыва́ться; *см.* **закры́цца; 2.** *страд.* закрыва́ться; задёргиваться; заде́лываться; *см.* **закрыва́ць;** ◊ **рот не ~ва́ецца** *у каго* рот не закрыва́ется *у кого.*

**ЗАКРЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* закрыва́ть; *(занавес, штору и т. п.— ещё)* задёргивать; **2.** *с.-х.* заде́лывать; 1, 2 *см.* **закры́ць.**

**ЗАКРЫВІ́ЦЦА** *сов. разг. (стать кри́вым)* закриви́ться.

**ЗАКРЫВІ́ЦЬ** *сов. разг. (сделать кривым)* закриви́ть.

**ЗАКРЫ́ЛАК, -лка** *м. ав.* закры́лок.

**ЗАКРЫ́ТЫ 1.** закры́тый; задёрнутый; **2.** *с.-х.* заде́ланный; 1, 2 *см.* **закры́ць;** ○ **~тае галасава́нне** закры́тое голосова́ние; **~тае мо́ра** закры́тое мо́ре; **~тае пісьмо́** закры́тое письмо́.

**ЗАКРЫЎДАВА́ЦЬ** *сов.* разоби́деться.

**ЗАКРЫЎЛЕ́ННЕ** *ср.* закривле́ние.

**ЗАКРЫ́ЎЛЕНЫ** закривлённый.

**ЗАКРЫЎЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* закривля́ться; *см.* **закрывіцца, закрыўля́ць.**

**ЗАКРЫЎЛЯ́ЦЬ** *несов. разг. (делать кривым)* закривля́ть.

**ЗАКРЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* закры́ться; **з. ад ве́тру** закры́ться от ве́тра; **вы́стаўка ~ры́лася** вы́ставка закры́лась; **ра́на ~ры́лася** ра́на закры́лась; **семафо́р ~ры́ўся** семафо́р закры́лся; **не́ба ~ры́лася хма́рамі** не́бо закры́лось ту́чами.

**ЗАКРЫЦЦЁ** *ср.* закры́тие; *см.* **закры́ць** 1.

**ЗАКРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* закры́ть; *(занавес, штору и т. п.— ещё)* задёрнуть; **з. дзіця́ ко́ўдрай** закры́ть ребёнка одея́лом; **з. засло́ну** закры́ть (задёрнуть) за́навес; **з. сход** закры́ть собра́ние; **з. сезо́н** закры́ть сезо́н; **хма́ры ~ры́лі ме́сяц** ту́чи закры́ли луну́; **з. прадпрые́мства** закры́ть предприя́тие;

**2.** *с.-х.* заделать; ○ **з. рахýнак** закрыть счёт; ◊ **з. рот** *каму* закрыть рот *кому.*

**ЗАКРЫЧÁЦЬ** *сов.* **1.** закричáть; заорáть, завопúть; **з. ад бóлю** закричáть (завопúть) от бóли; **з. «урá!»** закричáть «урá!»; **2.** зашумéть; загалдéть; **натóўп ~чáў** толпá зашумéла (загалдéла); **3.** крúкнуть; **з. на сабáку** крúкнуть на собáку.

**ЗАКРЫШТАЛІЗАВÁНЫ** закристаллизóванный.

**ЗАКРЫШТАЛІЗАВÁЦЦА** *сов.* закристаллизовáться.

**ЗАКРЫШТАЛІЗАВÁЦЬ** *сов.* закристаллизовáть.

**ЗАКРЭДЫТАВÁНАСЦЬ** *ж.* закредитóванность.

**ЗАКРЭ́МЗАЦЬ** *сов. разг.* исчеркáть; зачеркнýть.

**ЗАКРЭ́ПКА** *ж. тех.* закрéпа.

**ЗАКРЭ́СЛЕНЫ** зачёркнутый.

**ЗАКРЭ́СЛІВАННЕ** *ср.* зачёркивание.

**ЗАКРЭ́СЛІВАЦЦА** *несов. страд.* зачёркиваться.

**ЗАКРЭ́СЛІВАЦЬ** *несов.* зачёркивать.

**ЗАКРЭ́СЛІЦЬ** *сов.* зачеркнýть.

**ЗАКУГÁКАЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(о грудном ребёнке)* заплáкать; **2.** *(о сове)* закричáть.

**ЗАКУДÁХТАЦЬ** *сов.* закудáхтать.

**ЗАКУКАВÁЦЬ** *сов.* **1.** *(о кукушке)* закуковáть, прокуковáть; **2.** *перен. разг.* хлебнýть гóря.

**ЗАКУКАРЭ́КАЦЬ** *сов.* закукарéкать, прокукарéкать.

**ЗАКУЛÍСНЫ** *прям., перен.* закулúсный; **~ныя памяшкáнні** закулúсные помещéния; **~ныя інтрыгі** закулúсные интрúги.

**ЗАКУЛЬГÁЦЬ** *сов.* **1.** захромáть; **2.** *(пойти хромая)* заковылять.

**ЗАКУЛЯ́ЦЦА** *сов. разг.* закувыркáться.

**ЗÁКУП** *м.* **1.** *род.* **зáкупу** *(организованная покупка чего-л. в большом количестве)* закýпка *ж.*; **2.** *род.* **зáкупа** *ист.* зáкуп.

**ЗАКУПÁЦЦА** *сов. разг. (увлечься купанием)* закупáться.

**ЗАКУ́ПАЧНЫ** *торг.* закýпочный; **~ная цанá** закýпочная ценá.

**ЗАКУПÍЦЬ** *сов.* закупúть; **з. прамыслóвае абсталявáнне** закупúть промы́шленное оборýдование.

**ЗАКУ́ПКА** *ж.* закýпка.

**ЗАКУ́ПЛЕНЫ** закýпленный; *см.* **закупíць.**

**ЗАКУ́ПЛІВАННЕ** *ср.* закупáние, закýпка *ж.*; *см.* **закýплівацъ.**

**ЗАКУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд. см.* **закупля́цца.**

**ЗАКУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. см.* **закупля́ць.**

**ЗАКУПЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* закупáться; *см.* **закупля́ць.**

**ЗАКУПЛЯ́ЦЬ** *несов.* закупáть; *см.* **закупíць.**

**ЗАКУПНЫ́** *эк.* закупнóй.

**ЗАКУПÓРАНЫ** закýпоренный; *см.* **закупóрыць.**

**ЗАКУПÓРВАЦЦА** *несов. возвр., страд. в разн. знач.* закýпориваться; *см..* **закупóрыцца, закупóрваць.**

**ЗАКУПО́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* заку́поривать; *см.* **заку-по́рыць**.

**ЗАКУПО́РКА** *ж. в разн. знач.* заку́порка; *см.* **закупо́рыць**.

**ЗАКУПО́РЫЦЦА** *сов. в разн. знач.* заку́пориться.

**ЗАКУПО́РЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* заку́порить; **з. сло́ік** заку́порить ба́нку; **тромб ~рыў ве́ну** тромб заку́порил ве́ну; **з. у чатыро́х сце́нах** заку́порить в четырёх стена́х.

**ЗАКУ́ПШЧЫК** *м.* заку́пщик.

**ЗАКУ́ПШЧЫЦА** *ж.* заку́пщица.

**ЗАКУРА́ЖЫЦЦА** *сов. разг.* заку-ра́житься.

**ЗАКУ́РАНЫ** 1. *прич.* заку́ренный; 2. *прич.* заку́ренный, закопчённый; 1, 2 *см.* **закуры́ць**; 3. *прил.* закопте́лый, закопте́вший, закопчённый.

**ЗАКУ́РАЦЬ** *сов. (покрыться копотью)* закопти́ться, закопте́ть; **столь і сце́ны ~ралі** потоло́к и сте́ны закопти́лись (закопте́ли).

**ЗАКУ́РВАННЕ** *ср.* **1.** заку́ривание; **2.** заку́ривание, зака́пчивание; 1, 2 *см.* **заку́рваць** 1, 2.

**ЗАКУ́РВАЦЦА** *несов.* **1.** заку́риваться; **2.** *(покрываться копотью)* зака́пчиваться; 1, 2 *см.* **закуры́цца**; **3.** *страд.* заку́риваться; зака́пчиваться; *см.* **заку́рваць** 1, 2.

**ЗАКУ́РВАЦЬ** *несов.* **1.** *(папиросу, трубку)* заку́ривать; **2.** *(покрывать копотью)* заку́ривать, зака́пчивать; 1, 2 *см.* **закуры́ць**; **3.** *(покрываться копотью)* зака́пчиваться; *см.* **за-ку́раць.**

**ЗАКУ́РКА** *ж. разг. в разн. знач.* заку́рка.

**ЗАКУРЛЫ́КАЦЬ** *сов.* закурлы́кать; **~калі жураўлі́** закурлы́кали журавли́.

**ЗАКУРНЯ́ЎКАЦЬ** *сов. обл.* замяу́кать.

**ЗАКУРО́ДЫМІЦЦА** *сов.* закопти́ться; **сце́ны ~міліся** сте́ны закопти́лись.

**ЗАКУРО́ДЫМІЦЬ** *сов.* закопти́ть; **з. шкло** закопти́ть стекло́; **з. сцяну́** закопти́ть сте́ну.

**ЗАКУРО́ДЫМЛЕНЫ 1.** *прич.* закопчённый; *см.* **закуро́дыміць**; **2.** *прил.* закопчённый, закопте́лый.

**ЗАКУРО́ДЫМЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зака́пчиваться; *см.* **закуро́дыміцца, закуро́дымліваць.**

**ЗАКУРО́ДЫМЛІВАЦЬ** *несов.* зака́пчивать; *см.* **закуро́дыміць.**

**ЗАКУРЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** закури́ться; **цыгарэ́та ~ры́лася** сигаре́та закури́лась; **2.** *(покрыться копотью)* закопти́ться.

**ЗАКУРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(папиросу, трубку)* закури́ть; **з. цыгарэ́ту** закури́ть сигаре́ту; **2.** *(покрыть копотью)* закури́ть, закопти́ть.

**ЗАКУРЭ́ЛЫ** закопте́лый, закопте́вший.

**ЗАКУРЭ́ЦЦА** *сов.* **1.** задыми́ться; **на пажа́рніку адзе́жа ~рэ́лася** на пожа́рнике оде́жда задыми́лась; **2.** *(подняться столбом)* зави́хри́ться; **пыл ~рэ́ўся** пыль зави́хри́лась.

**ЗАКУРЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(начать испускать копоть, дым)* закопти́ть, задыми́ть, нача́ть копти́ть, нача́ть дыми́ть; **2.** закопте́ть, закопти́ться; **3.** *(о пыли)* подня́ться столбо́м.

**ЗАКУСА́НЫ** *разг.* заку́санный; загры́зенный; зае́денный; *см.* **закуса́ць** 1.

**ЗАКУСА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(замучить укусами)* закуса́ть; загры́зть; *(о насекомом — ещё)* зае́сть; **2.** *(начать кусать)* закуса́ть.

**ЗАКУ́САЧНАЯ** *ж. сущ.* заку́сочная.

**ЗАКУ́САЧНЫ** заку́сочный.

**ЗАКУ́СВАННЕ** I *ср.* заку́сывание; *см.* **заку́сваць** I.

**ЗАКУ́СВАННЕ** II *ср.* заку́сывание, заеда́ние; *см.* **заку́сваць** II.

**ЗАКУ́СВАЦЦА** *несов. страд.* заку́сываться; *см.* **заку́сваць** I.

**ЗАКУ́СВАЦЬ** I *несов. (зажимать зубами)* заку́сывать.

**ЗАКУ́СВАЦЬ** II *несов. (заедать выпитое, съеденное)* заку́сывать, заеда́ть.

**ЗАКУСІ́ЦЬ** I *сов. (зажать зубами)* закуси́ть; ◊ **з. цу́глі** закуси́ть удила́.

**ЗАКУСІ́ЦЬ** II *сов. (выпитое, съеденное)* закуси́ть, зае́сть.

**ЗАКУ́СКА** *ж. в разн. знач.* заку́ска; **накры́ць стол для ~кі** накры́ть стол для заку́ски; **вы́піўка і з.** вы́пивка и заку́ска; ◊ **на ~ку** на заку́ску; под коне́ц.

**ЗАКУСЦІ́ЦЦА** *сов. (начать куститься)* закусти́ться.

**ЗА́КУСЬ** *ж. прост. (кушанья)* заку́ска.

**ЗАКУ́ТАК, -тка** *м.* **1.** у́гол; закоу́лок; **сядзе́ць у ~тку** сиде́ть в углу́; **агле́дзець усе́ ~ткі** осмотре́ть все углы́ (закоу́лки); **2.** *перен. разг.* дыра́ *ж.*, захолу́стье *ср.*; ◊ **глухі́ з.** медве́жий у́гол.

**ЗАКУ́ТЫ** *см.* **закава́ны**.

**ЗАКУ́ЦЦЕ** *ср. обл.* глушь *ж.*; глухо́е ме́сто.

**ЗАКУ́ЦЬ** *сов. см.* **закава́ць**.

**ЗАКУЧАРА́ВІЦЦА** *сов.* закурча́виться, закудря́виться.

**ЗАКУ́ШАНЫ** I заку́шенный; *см.* **закусі́ць** I.

**ЗАКУ́ШАНЫ** II заку́шенный, зае́денный; *см.* **закусі́ць** II.

**ЗА́ЛА** *ж. и* **ЗАЛ** *м.* зал *м.*

**ЗАЛАВІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** пойма́ть, захвати́ть; **2.** *(ударить)* заде́ть; **з. канцо́м па́лкі** заде́ть конццо́м па́лки.

**ЗАЛАГО́ДЖАНЫ** задо́бренный.

**ЗАЛАГО́ДЖВАННЕ** *ср.* зада́бривание.

**ЗАЛАГО́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* зада́бриваться.

**ЗАЛАГО́ДЖВАЦЬ** *несов.* зада́бривать.

**ЗАЛАГО́ДЗІЦЬ** *сов.* задо́брить.

**ЗАЛА́ДЖАНЫ** заде́ланный; *см.* **зала́дзіць** 1.

**ЗАЛА́ДЖВАННЕ** *ср.* заде́лка *ж.*; *см.* **зала́джваць**.

**ЗАЛА́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* заде́лываться; *см.* **зала́джваць**.

**ЗАЛА́ДЖВАЦЬ** *несов.* заде́лывать; *см.* **зала́дзіць** 1.

**ЗАЛА́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** заде́лать; **з. дзі́рку ў пло́це** заде́лать ды́рку в забо́ре; **2.** *разг.* зала́дить; **з. адно́ і то́е ж** зала́дить одно́ и то же; **~дзілі дажджы́** зала́дили дожди́.

**ЗАЛА́ДКА** *ж.* заде́лка; *см.* **зала́дзіць** 1.

**ЗАЛАЖЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** заключи́ть пари́; поспо́рить; **2.** взя́ться (дру́жно); **мы як ~жы́ліся, дык да**

**ве́чара і зрабі́лі** мы как взяли́сь (дру́жно), так к ве́черу и сде́лали.

**ЗАЛАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* заложи́ть; **з. ру́кі за спі́ну** заложи́ть ру́ки за́ спину; **з. мі́ну** заложи́ть ми́ну; **з. ша́фу кні́гамі** заложи́ть шкаф кни́гами; **з. дом** заложи́ть дом; **з. пярсцёнак** заложи́ть кольцо́; **2.** *порт.* забра́ть; **з. шво** забра́ть шов; **з. за каўне́р (га́льштук)** заложи́ть за га́лстук; **з. асно́вы** заложи́ть осно́вы.

**ЗАЛАЖЭ́ННЕ** *ср. стр.* заложе́ние.

**ЗАЛАЗАВА́ННЕ** *ср. вет. разг.* мыт *м.*

**ЗАЛАЗАВА́ЦЬ** *несов. вет. разг.* боле́ть мы́том.

**ЗАЛА́ЗІЦЬ** I *несов. в разн. знач.* залеза́ть; *см.* **зале́зці.**

**ЗАЛА́ЗІЦЬ** II *несов. разг. (начать лазить)* зала́зить; **не́хта ~зіў па да́ху** кто́-то зала́зил по кры́ше.

**ЗАЛАКІРАВА́НЫ** залакиро́ванный.

**ЗАЛАКІРАВА́ЦЬ** *сов.* залакирова́ть.

**ЗАЛАКІРО́ВАНЫ** *см.* **залакіра-ва́ны.**

**ЗАЛАКІРО́ЎВАЦЬ** *несов.* залакиро́вывать.

**ЗАЛАМА́НЫ 1.** *в разн. знач.* зало́мленный; **2.** сло́манный; 1, 2 *см.* **залама́ць** 1, 2.

**ЗАЛАМА́ЦЦА** *сов.* слома́ться; **шы́ла ~ма́лася ў падэ́шве** ши́ло слома́лось в подо́шве.

**ЗАЛАМА́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* заломи́ть; **з.ralі́нку** заломи́ть ве́точку; **2.** *(воткнув, обломать)* слома́ть; **~ма́ў нож у дрэ́ве** слома́л нож, завя́зший в де́реве; **3.** *(о болезненном ощущении)* нача́ть ломи́ть; **~ма́ла ў калéнях** на́чало ломи́ть в коле́нях; ◊ **з. ру́кі** заломи́ть ру́ки; **з. ша́пку** заломи́ть ша́пку; **з. цану́** заломи́ть це́ну.

**ЗАЛА́ПАНЫ** *разг.* захва́танный.

**ЗАЛАПАТА́ЦЬ** *сов.* **1.** захло́пать; *(о механизме — ещё)* затарахте́ть; **2.** *разг. (заговорить очень быстро)* заболта́ть, затарато́рить, затарахте́ть, затреща́ть; **3.** *разг. (заговорить невнятно, бестолково)* залопота́ть.

**ЗАЛАПАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг. см.* **залапата́ць 1.**

**ЗАЛА́ПАЦЬ** *сов. разг.* захвата́ть.

**ЗАЛА́ПВАЦЬ** *несов. разг.* захва́тывать.

**ЗАЛА́ПІЦЬ** *сов. разг. см.* **зала́таць.**

**ЗАЛА́ПЛЕНЫ** *разг. см.* **зала́таны.**

**ЗАЛАПУШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* залопуши́ться.

**ЗАЛАСКАТА́ЦЬ** *сов. обл.* защекота́ть.

**ЗАЛАТАВЕ́РХІ** золотове́рхий; *(поэт. уст.— ещё)* златове́рхий.

**ЗАЛАТАВО́ЧКА** *ж. зоол.* златогла́зка.

**ЗАЛАТАВУ́СТ** *м. уст. шутл.* злато́уст.

**ЗАЛАТАГРЫ́ВЫ** золотогри́вый; *(поэт. — ещё)* златогри́вый.

**ЗАЛАТАГУ́ЗКА** *ж. зоол.* златогу́зка.

**ЗАЛАТАКО́ВАНЫ** *уст.* златоко́ваный.

**ЗАЛАТАКО́СЫ** *поэт.* золотоко́сый.

**ЗАЛАТАКРЫ́ЛЫ** золотокры́лый; *(поэт. — ещё)* златокры́лый.

**ЗАЛАТАКУ́ДРЫ** золотоку́дрый; *(поэт. — ещё)* златоку́дрый.

**ЗАЛАТАНО́СНАСЦЬ** *ж.* золотоно́сность.

**ЗАЛАТАНО́СНЫ** золотоно́сный.

**ЗАЛА́ТАНЫ** запла́танный, зала́танный; *см.* **зала́таць.**

**ЗАЛАТА́Р, -ра́** *м.* **1.** *уст. (ювелир)* золота́рь; **2.** *разг. (ассенизатор)* золота́рь.

**ЗАЛАТАРО́ГІ** золоторо́гий; *(поэт.— ещё)* златоро́гий.

**ЗАЛАТАСТРУ́ННЫ** *поэт. уст. златостру́нный.*

**ЗАЛАТАТКА́НЫ** золототка́ный; *(поэт. — ещё)* златотка́ный.

**ЗАЛАТАТЫ́СЯЧНІК** *м. см.* **цвінтарэ́й.**

**ЗАЛА́ТАЦЬ** *сов.* наложи́ть запла́ту; заплата́ть, залата́ть; **з. рука́ў** заплата́ть (залата́ть) рука́в.

**ЗАЛАТАШВА́ЧКА** *ж.* золотошве́йка.

**ЗАЛАТАШВЕ́ЙНЫ** золотошве́йный.

**ЗАЛАТНІ́К** I, **-ка́** *м. тех.* золотни́к.

**ЗАЛАТНІ́К** II, **-ка́** *м. уст. (мера веса)* золотни́к; ◊ **малы́ з., ды дарагі́** *погов.* мал золотни́к, да до́рог.

**ЗАЛАТНІКО́ВЫ** I *тех.* золотнико́вый; **~вая каро́бка** золотнико́вая коро́бка.

**ЗАЛАТНІКО́ВЫ** II (*к* **залатні́к** II) *уст.* золотнико́вый.

**ЗАЛАТО́ЎКА** *ж. уст.* пятиалтынный.

**ЗАЛАТУ́ХА** *ж. разг.* золоту́ха.

**ЗАЛАТУ́ШНЫ** золоту́шный.

**ЗАЛАТЫ́** **1.** *прил. в разн. знач.* золото́й; *(поэт. уст.— ещё)* злато́й; **~тыя ро́ссыпы** золоты́е ро́ссыпи; **з. пярсцёнак** золото́е (злато́е) кольцо́; **2.** *в знач. сущ. (монета)* золото́й; ○ **з. запа́с** золото́й запа́с; ◊ **абяца́ць ~тыя го́ры** обеща́ть (сули́ть) золоты́е го́ры; **~та́я во́сень** золота́я о́сень; **~та́я галава́** золота́я голова́; **~та́я мо́ладзь** золота́я молодёжь; **~та́я сярэ́дзіна** золота́я середи́на; **~то́е вясе́лле** золота́я сва́дьба; **~то́е руно́** золото́е руно́; **з. век** золото́й век; **~тыя ру́кі** золоты́е ру́ки; **~тыя сло́вы** золоты́е слова́; **~та́я жы́ла** золота́я жи́ла; **з. дождж** золото́й дождь; **~то́е дно** золото́е дно; **з. цяле́ц** золото́й теле́ц.

**ЗАЛАЦЕ́НЬКІ** *сущ. (форма обращения)* золото́й, зо́лотко *ср.*

**ЗАЛАЦЕ́ЦЬ** *несов.* золоте́ть.

**ЗАЛАЦІ́ЛЬНІЦА** *ж. см.* **залаці́льшчыца.**

**ЗАЛАЦІ́ЛЬНЫ** золоти́льный.

**ЗАЛАЦІ́ЛЬШЧЫК** *м.* золоти́льщик.

**ЗАЛАЦІ́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* золоти́льщица.

**ЗАЛАЦІ́НКА** *ж. разг. (крупинка золота)* золоти́нка.

**ЗАЛАЦІ́СТА-ЖО́ЎТЫ** золоти́сто-жёлтый.

**ЗАЛАЦІ́СТАСЦЬ** *ж.* золоти́стость.

**ЗАЛАЦІ́СТЫ** золоти́стый; ○ **з. су́мнік** *бот.* золота́я ро́зга.

**ЗАЛАЦІ́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* золоти́ться; **жы́та з.** рожь золоти́тся; **край не́ба з.** край не́ба золоти́тся; **2.** *страд.* золоти́ться; *см.* **залаці́ць.**

**ЗАЛАЦІ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* золоти́ть; **з. лы́жкі** золоти́ть ло́жки;

**сóнца залóціць лес** сóлнце золотúт лес.

**ЗАЛАЧÓНЫ 1.** *прич.* золочённый; *см.* **залаціць**; **2.** *прил.* золочёный.

**ЗАЛАЧЭННЕ** *ср. (действие)* золочéние.

**ЗАЛÁШЧАНЫ** залáсканный.

**ЗАЛÁШЧЫЦЬ** *сов.* заласкáть.

**ЗАЛВІЦА** *ж. обл. см.* **залóўка**.

**ЗАЛГÁЦЦА** *сов. разг.* залгáться, заврáться.

**ЗАЛÉВА** *ж. обл. см.* **лíвень**.

**ЗАЛÉГЧЫ** *сов. в разн. знач.* залéчь; **з. на канáпу** залéчь на дивáн; **з. ў засáду** залéчь в засáду; **рудá ~леглá тут неглыбóка** рудá залеглá здесь неглубокó; **у маёй душы глыбóка ~леглі ўрáжанні дзяцíнства** в моéй душé глубокó залеглú впечатлéния дéтства.

**ЗАЛЕДЗЯНÉЛЫ** заледенéлый.

**ЗАЛЕДЗЯНÉННЕ** *ср.* заледенéние.

**ЗАЛЕДЗЯНÉЦЬ** *сов. в разн. знач.* заледенéть; **~нéла гразь** заледенéла грязь; **~нéлі рýкі** заледенéли рýки.

**ЗАЛЕДЗЯНІЦЬ** *сов.* заледенúть.

**ЗÁЛЕЖ, -у** *см.* **зáлежы**.

**ЗАЛÉЖАЦЬ** *несов.* завúсеть; **гэта ад мянé не ~жыць** э́то от меня́ не завúсит; **склон дапаўнéння ~жыць ад дзеяслóва** падéж дополнéния завúсит от глагóла.

**ЗАЛÉЖВАЦЦА** *несов.* залёживаться: *см.* **заляжáцца**.

**ЗАЛÉЖНАСЦЬ** *ж.* **1.** завúсимость; **2.** *грамм.* подчинéние *ср.*, подчинённость, страдáтельность.

**ЗАЛÉЖНЫ 1.** завúсимый; **~нае станóвішча** завúсимое положéние; **~ныя краíны** завúсимые стрáны; **2.** *грамм.* подчинённый, страдáтельный; ○ **з. стан** страдáтельный залóг.

**ЗÁЛЕЖЫ, -жаў,** *ед.* **зáлеж, -у** *м.* **1.** зáлежи, залегáния; **з. фасфарытаў** зáлежи (залегáния) фосфорúтов; **2.** *(о чём-л. залежавшемся)* зáлежи; **з. тавáраў** зáлежи товáров.

**ЗАЛÉЗЦІ** *сов. в разн. знач.* залéзть; **з. на дрэва** залéзть на дéрево; **з. пад стол** залéзть под стол; **з. ў кішэнь** залéзть в кармáн; **з. ў ваду** залéзть в вóду; ◊ **з. ў даўгí** залéзть в долгú; **з. ў душу** влезть в дýшу.

**ЗАЛЕКАТÁЦЬ** *сов. обл.* **1.** *см.* **заклекатáць**; **2.** *см.* **заляскатáць**.

**ЗАЛЕНАВÁЦЦА** *сов. разг.* заленúться.

**ЗАЛÉННЕ** *ср. спец.* золéние, зóлка *ж.*, отзóл *м.*, отзóлка *ж.*

**ЗАЛÉПЛЕНЫ** *в разн. знач.* залéпленный; *см.* **заляпíць**.

**ЗАЛÉПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* залепля́ться; *см.* **заляпíцца, залéплівáць**.

**ЗАЛÉПЛІВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* залепля́ть; *см.* **заляпíць**.

**ЗАЛЕПЯТÁЦЬ** *сов. прям., перен.* залепетáть.

**ЗАЛЕСКАТАЦЬ** *и* **ЗАЛЕСКАЦÉЦЬ** *сов.* задребезжáть, затарахтéть.

**ЗАЛÉССЕ** *ср.* залéсье.

**ЗАЛÉТАСЬ** *нареч.* в позапрóшлом годý.

**ЗАЛÉТАШНІ** позапрошлогóдний.

**ЗАЛÉЎНЫ** *обл. см.* **лíўневы**.

**ЗАЛÉЦЬ** *несов. обл.* мёрзнуть, зя́бнуть, стыть, дрóгнуть.

**ЗАЛЕ́ЧАНЫ** зале́ченный; заживлённый; *см.* **залячы́ць.**

**ЗАЛЕ́ЧВАННЕ** *ср.* зале́чивание; заживле́ние; *см.* **зале́чваць.**

**ЗАЛЕ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** зале́чиваться; *см.* **залячы́цца**; **2.** *страд.* зале́чиваться; заживля́ться; *см.* **зале́чваць.**

**ЗАЛЕ́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зале́чивать; *(повреждения на теле — ещё)* заживля́ть; *см.* **залячы́ць.**

**ЗАЛЁГКІ** *разг.* сли́шком лёгкий.

**ЗАЛЁНЫ** *спец. см.* **зо́лены.**

**ЗАЛЁТ, -ту** *м.* залёт.

**ЗАЛЁТАЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(начать летать)* залета́ть; *(начать парить)* заре́ять; **2.** *(засуетиться)* забе́гать.

**ЗАЛЁТНІК** *м. разг. (любитель поухаживать)* ухажёр, волоки́та.

**ЗАЛЁТНІЦКІ** *разг.* ухажёрский.

**ЗАЛЁТНЫ** залётный; **~ныя пту́шкі** залётные пти́цы.

**ЗАЛЁТЫ, -таў** *ед. нет разг.* уха́живание *ср.*, волоки́тство *ср.*

**ЗАЛІВА́КА** *м. прост.* врун, враль.

**ЗАЛІВА́ННЕ** *ср.* **1.** *в разн. знач.* залива́ние; захлёстывание, заплёскивание; *см.* **заліва́ць** 1; **2.** *(покрытие, заполнение чем-л. жидким)* зали́вка *ж.*

**ЗАЛІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* залива́ться; *(всплеском вливаться куда-л.— ещё)* захлёстываться; **2.** *разг.* тону́ть; 1, 2 *см.* **залі́цца** I; **3.** *страд.* залива́ться; захлёстываться, заплёскиваться; *см.* **заліва́ць** 1; ◊ **з. салаўём** залива́ться соловьём.

**ЗАЛІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* залива́ть; *(всплеском вливаться куда-л.— ещё)* захлёстывать, заплёскивать; *см.* **залі́ць** I; **2.** *прост.* *(сильно пить)* залива́ть; **3.** *прост.* лгать, врать.

**ЗАЛІ́ВАЧНЫ** *спец.* зали́вочный; **з. кран** зали́вочный кран; **~ныя фо́рмы** зали́вочные фо́рмы.

**ЗАЛІ́ВІСТА** *нареч.* зали́висто.

**ЗАЛІ́ВІСТЫ** зали́вистый, заливно́й; *(о смехе — ещё)* зака́тистый; **з. го́лас** зали́вистый (заливно́й) го́лос; **з. смех** зали́вистый (зака́тистый) смех.

**ЗАЛІ́ЗАНЫ** *в разн. знач.* зали́занный; *см.* **залізá́ць.**

**ЗАЛІЗА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* зализа́ть; **з. ра́ну** зализа́ть ра́ну; **з. ко́нчыкі вусо́ў** зализа́ть ко́нчики усо́в; ◊ **укусі́ўшы, не залі́жаш** *погов.* укуси́в, не зали́жешь.

**ЗАЛІ́ЗВАННЕ** *ср. в разн. знач.* зали́зывание; *см.* **залі́зваць.**

**ЗАЛІ́ЗВАЦЦА** *несов. страд.* зали́зываться; *см.* **залі́зваць.**

**ЗАЛІ́ЗВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зали́зывать; *см.* **заліза́ць.**

**ЗАЛІ́К, -ку** *м.* **1.** зачёт; *см.* **залічы́ць** 2; **2.** *(проверочное испытание и отметка)* зачёт.

**ЗАЛІКО́ВЫ** зачётный; **~вая кні́жка** зачётная кни́жка.

**ЗАЛІЛАВЕ́ЦЬ** *сов.* залилове́ть.

**ЗАЛІ́ЛЬНЫ** *спец.* золи́льный.

**ЗАЛІМІТАВА́ЦЬ** *сов.* залимити́ровать.

**ЗАЛІПА́ЦЬ** *несов. разг.* залипа́ть.

**ЗАЛІ́ПНУЦЬ** *сов. разг.* зали́пнуть.

**ЗАЛІ́СТАСЦЬ** *ж. спец.* золи́стость.

**ЗАЛІ́СТЫ** *спец.* золи́стый.

**ЗАЛІТАВА́НЫ** *уст. см.* **запая́ны.**

**ЗАЛІТАВА́ЦЦА** *сов. уст. см.* **запаяцца**.

**ЗАЛІТАВА́ЦЬ** *сов. уст. см.* **запаяць**.

**ЗАЛІТО́ЎВАННЕ** *ср. уст. см.* **запа́йванне**.

**ЗАЛІТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. уст. см.* **запа́йвацца**.

**ЗАЛІТО́ЎВАЦЬ** *несов. уст. см.* **запа́йваць**.

**ЗАЛІТО́ЎКА** *ж. уст. см.* **запа́йка**.

**ЗАЛІ́ТЫ** *в разн. знач.* зали́тый; захлёстнутый, заплёснутый; *см.* **залі́ць** I.

**ЗАЛІ́Ў, -лі́ва** *м. геогр.* зали́в.

**ЗАЛІ́ЎКА** *ж. (покрытие, заполнение чем-л. жидким)* зали́вка; **з. асфа́льту** зали́вка асфа́льта; **з. вады́ ў радыя́тар** зали́вка воды́ в радиа́тор.

**ЗАЛІЎНО́Е** *ср. сущ. кул.* заливно́е.

**ЗАЛІЎНЫ́** *в разн. знач.* заливно́й; *(о землях — ещё)* по́йменный, поёмный; **з. луг** заливно́й (по́йменный, поёмный) луг; **~на́я труба́** заливна́я труба́; **~но́е парася́** заливно́й поросёнок.

**ЗАЛІ́ЎШЧЫК** *м.* зали́вщик.

**ЗАЛІ́ЎШЧЫЦА** *ж.* зали́вщица.

**ЗАЛІХВА́ЦКАСЦЬ** *ж. разг.* у́харство *ср.*, ли́хость; молоде́чество *ср.*

**ЗАЛІХВА́ЦКІ** *разг.* удало́й, уда́лый, лихо́й; залихва́тский.

**ЗАЛІ́ЦЦА** I *сов.* **1.** *в разн. знач.* зали́ться; *(всплеском влиться куда-л. — ещё)* захлестну́ться; **лугі́ ~ліл́ся вадо́й** луга́ зали́ли́сь водо́й; **вада́ ~ліла́ся ў ілюміна́тар карабля́** вода́ залила́сь (захлестну́лась) в иллюмина́тор корабля́; **хлапчу́к увесь ~лі́ўся су́пам** ма́льчик весь зали́лся су́пом; **вада́ ~ліла́ся за каўне́р** вода́ залила́сь за воротни́к; **~лі́ўся гармо́нік** залила́сь гармо́нь, **з. чы́рваннем** зали́ться румя́нцем; **пако́й ~лі́ўся святло́м** ко́мната залила́сь све́том; **2.** *разг.* утону́ть; ◊ **з. сляза́мі** зали́ться слеза́ми; **з. кро́ўю** зали́ться кро́вью; изойти́ кро́вью; **хоць залі́ся** хоть зале́йся.

**ЗАЛІ́ЦЦА** II *несов. страд. спец.* золи́ться.

**ЗАЛІ́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* зали́ть; *(всплеском влиться куда-л. — ещё)* захлестну́ть, заплесну́ть; **рака́ ~лі́ла́ луг** река́ залила́ луг; **вада́ ~лі́ла́ ло́дку** вода́ залила́ (захлестну́ла, заплесну́ла) ло́дку; **з. чарні́лам кні́гу** зали́ть черни́лами кни́гу; **з. аго́нь** зали́ть ого́нь; **з. като́к** зали́ть като́к; **з. ма́сла ў мато́р** зали́ть ма́сло в мото́р; **со́нца ~ліло́ пако́й** со́лнце за́лило ко́мнату; **чы́рвань ~ліла́ твар** румя́нец за́лил лицо́; ◊ **з. во́чы** зали́ть глаза́; **з. го́ра** зали́ть го́ре; **з. за каўне́р (га́льштук)** зали́ть за га́лстук.

**ЗАЛІ́ЦЬ** II *несов. спец.* золи́ть; **з. шку́ры** зали́ть ко́жи.

**ЗАЛІ́ЧАНЫ 1.** зачи́сленный; **2.** засчи́танный, зачтённый; **3.** отнесённый; **4.** зачтённый; 1—4 *см.* **залічы́ць**.

**ЗАЛІЧА́ЦЦА** *несов. см.* **залі́чвацца**.

**ЗАЛІЧА́ЦЬ** *несов. см.* **залі́чваць**.

**ЗАЛІ́ЧВАННЕ** *ср.* **1.** зачисле́ние; **2.** засчи́тывание; **3.** отнесе́ние; **4.** зачёт *м.*; 1—4 *см.* **залі́чваць**.

**ЗАЛІ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** зачисля́ться; *см.* **залічы́цца**; **2.** *страд.* зачисля́ться; засчи́тываться; зачи́тываться; относи́ться; *см.* **залі́чваць**.

**ЗАЛІ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** *(принимать)* зачисля́ть; **2.** *(принимать в счёт чего-л.)* засчи́тывать, зачи́тывать; **3.** *(в разряд каких-л. явлений, на чей-л. счёт)* относи́ть *(к чему, на что)*; **4.** зачи́тывать, ста́вить зачёт; 1—4 *см.* **залі́чыць.**

**ЗАЛІЧЫ́ЦЦА** *сов.* зачи́слиться; **з. ў наро́дную дружы́ну** зачи́слиться в наро́дную дружи́ну.

**ЗАЛІЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(принять)* зачи́слить; **з. у штат** зачи́слить в штат; **2.** *(принять в счёт чего-л.)* засчита́ть, заче́сть; **з. адзін год слу́жбы за два** засчита́ть оди́н год слу́жбы за́ два; **3.** *(в разряд каких-л. явлений, на чей-л. счёт)* отнести́ *(к чему, на что)*; **4.** заче́сть, поста́вить зачёт.

**ЗАЛІЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** зачисле́ние; **2.** засчи́тывание, зачёт *м.*; **3.** отнесе́ние; **4.** зачёт *м.*; 1—4 *см.* **залічы́ць.**

**ЗАЛІ́ШНЕ** *нареч.* сли́шком, изли́шне, чересчу́р; **аж з.** с изли́шком.

**ЗАЛІ́ШНІ** изли́шний, избы́точный.

**ЗАЛО́БАК, -бка** *м. обл.* фронто́н.

**ЗАЛО́Г, -гу** *м.* **1.** *в разн. знач.* зало́г; *(ценная вещь — ещё)* закла́д; **выкупіць з.** вы́купить зало́г (закла́д); **даць у з. сто тысяч рублёў** дать в зало́г сто тысяч рубле́й; **2.** *перен.* зало́г; **з. дру́жбы** зало́г дру́жбы.

**ЗАЛО́ГАВЫ** залоговый.

**ЗАЛОГАДАВА́ЛЬНІК** *м. юр.* залогода́тель.

**ЗАЛОГАДАВА́ЛЬНІЦА** *ж. юр.* залогода́тельница.

**ЗАЛОГАТРЫМА́ЛЬНІК** *м. юр.* залогодержа́тель.

**ЗАЛОГАТРЫМА́ЛЬНІЦА** *ж. юр.* залогодержа́тельница.

**ЗАЛО́ЖАНЫ 1.** зало́женный; **2.** *порт.* за́бранный; 1, 2 *см.* **залажы́ць.**

**ЗАЛО́ЖНА** *нареч. разг.* насто́йчиво, упо́рно.

**ЗАЛО́ЖНІК** *м.* зало́жник.

**ЗАЛО́ЖНІЦА** *ж.* зало́жница.

**ЗАЛО́ЖНЫ** *разг.* **1.** обложно́й; **з. дождж** обложно́й дождь; **2.** *(в работе)* усе́рдный, рья́ный.

**ЗАЛО́ЗА** *ж. анат.* железа́; ○ **падстра́ўнікавая з.** поджелу́дочная железа́; **шчытападо́бная з.** щитови́дная железа́; **мало́чная з.** моло́чная железа́; **тлу́шчавыя зало́зы** са́льные же́лезы.

**ЗАЛО́ЗІСТЫ** *анат.* желе́зистый; **~тая клётка** желе́зистая клётка.

**ЗАЛО́ЗНІКАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* нори́чниковые.

**ЗАЛО́ЗНІЦА** *ж. бот.* нори́чник *м.*

**ЗАЛО́М** I, **-му** *м.* **1.** *(действие, место надлома)* зало́м; **2.** *(крутой поворот реки, дороги и т.п.)* изло́м, излу́чина *ж.*

**ЗАЛО́М** II *м. (сельдь)* зало́м.

**ЗАЛО́М** III *м. этн.* зало́м.

**ЗАЛО́МАНЫ** *см.* **залама́ны.**

**ЗАЛО́МВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **зало́млівацца.**

**ЗАЛО́МВАЦЬ** *несов. см.* **зало́млівацъ.**

**ЗАЛО́МЛЕНЫ** *см.* **залама́ны.**

**ЗАЛО́МЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** лома́ться; *см.* **залама́цца;** **2.** *страд.* зала́мываться; лома́ться; *см.* **зало́млівацъ.**

**ЗАЛО́МЛІВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зала́мывать; **2.** лома́ть; 1, 2 *см.* **залама́ць** 1, 2.

**ЗАЛО́ПАЦЬ** *сов. (крыльями и т.п.)* захло́пать.

**ЗАЛО́ЎКА** *ж.* золо́вка.

**ЗАЛО́ЧАНЫ** *см.* **залачо́ны.**

**ЗАЛП** *м.* залп.

**ЗА́ЛПАВЫ** за́лповый.

**ЗА́ЛПАМ** *нареч. прям., перен.* за́лпом; **стрэ́ліць з.** вы́стрелить за́лпом; **вы́піць з.** вы́пить за́лпом.

**ЗАЛУБЯНЕ́ЛЫ** *разг.* залубене́лый.

**ЗАЛУБЯНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* залубене́ть.

**ЗАЛУ́ЖАНЫ** *спец.* залужённый; *см.* **залужы́ць.**

**ЗАЛУЖА́ЦЬ** *несов. см.* **залу́жваць.**

**ЗАЛУ́ЖВАННЕ** *ср. спец.* залуже́ние; *см.* **залу́жваць.**

**ЗАЛУ́ЖВАЦЬ** *несов. спец. (превращать в луг)* залужа́ть; *см.* **залужы́ць.**

**ЗАЛУЖЫ́ЦЬ** *сов. спец. (превратить в луг)* залужи́ть; **з. бало́та** залужи́ть боло́то.

**ЗАЛУЖЭ́ННЕ** *ср. спец.* залуже́ние; *см.* **залу́жваць.**

**ЗАЛУНА́ЦЬ** *сов.* заре́five.

**ЗАЛУПІ́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** *(о кожице, краске и т.п.)* задра́ться, залупи́ться; **2.** *(загнувшись, подняться кверху)* задра́ться.

**ЗАЛУПІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(кожицу, краску и т.п.)* задра́ть, залупи́ть; **2.** *(загнув, заворотив, поднять)* задра́ть; **з. кашу́лю** задра́ть руба́ху.

**ЗАЛУ́ПЛЕНЫ** *разг.* **1.** за́дранный, залу́пленный; **2.** за́дранный; 1, 2 *см.* **залупі́ць.**

**ЗАЛУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** *(о кожице, краске и т.п.)* задира́ться, залупля́ться; **2.** *(загибаясь, подниматься кверху)* задира́ться; **3.** *страд.* задира́ться; залупля́ться; *см.* **залу́пліваць.**

**ЗАЛУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** *(кожицу, краску и т.п.)* задира́ть, залупля́ть; **2.** *(загнув, заворотив, поднимать)* задира́ть; 1, 2 *см.* **залупі́ць.**

**ЗАЛУПЛЯ́ЦЦА** *несов. разг. см.* **залу́плівацца.**

**ЗАЛУПЛЯ́ЦЬ** *несов. разг. см.* **залу́пліваць.**

**ЗАЛУПЦАВА́НЫ** засе́ченный, запо́ротый.

**ЗАЛУПЦАВА́ЦЬ** *сов.* засе́чь, запоро́ть.

**ЗАЛУ́ЧАНЫ** *разг.* **1.** привлечённый, приобщённый; **2.** залучённый, зама́ненный, заманённый.

**ЗАЛУЧА́ЦЦА** *несов. страд. разг.* привлека́ться, приобща́ться; залуча́ться, зама́ниваться; *см.* **залуча́ць.**

**ЗАЛУЧА́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** *(к участию в чём-л.)* привлека́ть, приобща́ть; **2.** залуча́ть, зама́нивать.

**ЗАЛУЧЫ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** *(к участию в чём-л)* привле́чь, приобщи́ть; **2.** залучи́ть, замани́ть.

**ЗАЛУЧЭ́ННЕ** *разг.* привлече́ние, приобще́ние; **2.** залуче́ние, зама́нивание; *см.* **залуча́ць.**

**ЗАЛЬІ́ГАНЫ** **1.** захлёстнутый; **2.** *перен. разг.* вовлечённый, завлечённый; 1, 2 *см.* **зальіга́ць.**

**ЗАЛЬІГА́ЦЬ** *сов.* **1.** *(обвив, затянуть)* захлестну́ть; **з. вяро́ўкай за шы́ю** захлестну́ть верёвкой за ше́ю;

2. *перен. разг.* вовле́чь, завле́чь; **з. у сваю́ кампа́нію** вовле́чь (завле́чь) в свою́ компа́нию.

**ЗАЛЫ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** *(обвив, затягивать)* захлёстывать; **2.** *перен. разг.* вовлека́ть, завлека́ть; 1, 2 *см.* **залыга́ць.**

**ЗАЛЫ́ПАЦЬ** *сов. разг. (глазами)* захло́пать.

**ЗАЛЫ́СІНА** *ж. в разн. знач.* залы́сина.

**ЗАЛЫ́СІЦЬ** *сов. разг.* стеса́ть *(кору с дерева в каком-л. месте).*

**ЗА́ЛЬНЫ** за́льный.

**ЗАЛЬСНІ́ЦЦА** *сов.* залосни́ться.

**ЗАЛЮБАВА́ЦЦА** *сов.* залюбова́ться; **з. карці́най** залюбова́ться карти́ной.

**ЗАЛЮЛЯ́НЫ** убаю́канный, забаю́канный.

**ЗАЛЮЛЯ́ЦЦА** *сов.* убаю́каться.

**ЗАЛЮЛЯ́ЦЬ** *сов.* убаю́кать, забаю́кать.

**ЗАЛЯГА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* залега́ние; *см.* **залята́ць.**

**ЗАЛЯГА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* залега́ть; *см.* **зале́гчы.**

**ЗАЛЯЖА́ЛЫ** залежа́вшийся, залежа́лый, лежа́лый.

**ЗАЛЯЖА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* залежа́ться; **з. ў бальні́цы** залежа́ться в больни́це; **такі́ тава́р не зале́жыцца** тако́й това́р не залежи́тся; **ры́ба ~жа́лася, трэ́ба яе́ вы́кінуць** ры́ба залежа́лась, на́до её вы́бросить.

**ЗАЛЯЙЦА́НЫ** заво́женный.

**ЗАЛЯЙЦА́ЦЬ** *сов.* завожжа́ть; **з. каня́** завожжа́ть ло́шадь.

**ЗАЛЯМАНТАВА́ЦЬ** *сов.* завопи́ть.

**ЗАЛЯ́ПАНЫ** *разг.* забры́зганный; заля́панный; **см. заля́паць** II.

**ЗАЛЯ́ПАЦЦА** *сов. разг.* забры́згаться; заля́паться.

**ЗАЛЯ́ПАЦЬ** I *сов. разг. (начать стучать чем-л.)* застуча́ть, захло́пать.

**ЗАЛЯ́ПАЦЬ** II *сов. разг. (испачкать)* забры́згать; заля́пать.

**ЗАЛЯПІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* залепи́ться.

**ЗАЛЯПІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* залепи́ть; **з. дзі́рку ў сцяне́** залепи́ть ды́рку в стене́; **сне́гам ~пі́ла во́чы** сне́гом залепи́ло глаза́; **усю́ сцяну́ ~пі́лі афі́шамі** всю сте́ну залепи́ли афи́шами; ◊ **з. апляву́ху** залепи́ть пощёчину.

**ЗАЛЯПЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **зале́пліваца.**

**ЗАЛЯПЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач. см.* **зале́пліваць.**

**ЗАЛЯСКАТА́ЦЬ** *сов. см.* **залескатаць.**

**ЗАЛЯСКАЦЕ́ЦЬ** *сов. см.* **залескатаць.**

**ЗАЛЯ́СКАЦЬ** *сов.* **1.** *(железом и т.п.)* заля́згать; **2.** захло́пать; *(кнутом — ещё)* защёлкать; **3.** *(зубами)* защёлкать, заля́згать.

**ЗАЛЯТА́ЦЬ** I *несов.* **1.** *(летя, оказываться высоко или далеко)* залета́ть, улета́ть; **2.** *(во время перелёта останавливаться где-л.)* залета́ть; **3.** *(летя, влетать куда-л.)* залета́ть; *(о птицах — ещё)* запа́рхивать; 1—3 *см.* **заляце́ць.**

**ЗАЛЯТА́ЦЬ** II *сов. (начать летать)* залета́ть.

**ЗАЛЯЦА́ННЕ** *(да каго) ср.* уха́живание *(за кем)*; обха́живание *(кого)*, любе́зничанье *(с кем)*.

**ЗАЛЯЦА́ЦЦА** *(да каго) несов.* уха́живать *(за кем)*, волочи́ться *(за кем)*; обха́живать *(кого)*, приудари́ть *(за кем)*; любе́зничать *(с кем)*.

**ЗАЛЯЦЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(летя, оказаться высоко или далеко)* залете́ть, улете́ть; **самалёт ~цеў за палярны круг** самолёт залете́л за поля́рный круг; **2.** *(во время перелёта остановиться где-л.)* залете́ть; **~целі забра́ць по́шту** залете́ли забра́ть по́чту; **3.** *(летя, влететь куда-л.)* залете́ть; *(о птицах — ещё)* запорхну́ть; **у се́нцы ~цела птушка** в се́ни залете́ла (запорхну́ла) пти́чка.

**ЗАЛЯЧЫ́ЦЦА** *сов.* залечи́ться; **~чылася ра́на** залечи́лась ра́на.

**ЗАЛЯЧЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* залечи́ть; *(повреждения на теле — ещё)* заживи́ть; **з. ра́ну** залечи́ть (заживи́ть) ра́ну; **з. ра́ны вайны́** залечи́ть ра́ны войны́; **з. да сме́рці** залечи́ть до́ смерти.

**ЗАМАГІ́ЛЬНЫ 1.** *рел.* загро́бный; потусторо́нний; **2.** замоги́льный; загро́бный; **з. го́лас** замоги́льный (загро́бный) го́лос.

**ЗАМА́ЗАНЫ 1.** *в разн. знач.* зама́занный; заде́ланный; **2.** зама́занный, вы́мазанный, запа́чканный; 1, 2 *см.* **зама́заць**; ◊ **як з.** сло́вно воды́ в рот набра́л.

**ЗАМА́ЗАЦЦА** *сов.* **1.** *(о щелях, трещинах и т.п.)* зама́заться; **шчыліны до́бра ~заліся** ще́ли хорошо́ зама́зались; **2.** *(загрязниться)* зама́заться, вы́мазаться, запа́чкаться.

**ЗАМА́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* зама́зать; *(щель, дыру — ещё)* заде́лать; **з. фа́рбай на́дпіс** зама́зать кра́ской на́дпись; **з. шчы́ліны** зама́зать (заде́лать) ще́ли; **з. недахо́пы** зама́зать недоста́тки; **2.** *(загрязнить)* зама́зать, вы́мазать, запа́чкать; **з. во́пратку** зама́зать (вы́мазать, запа́чкать) оде́жду; ◊ **з. во́чы** зама́зать глаза́; **з. рот** *каму* зама́зать рот *кому*.

**ЗАМА́ЗАЧНЫ** зама́зочный.

**ЗАМА́ЗВАННЕ** *ср. в разн. знач. (действие)* зама́зывание, зама́зка *ж.*; заде́лка *ж.*; *см.* **зама́зваць** 1.

**ЗАМА́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *(о щелях, трещинах и т.п.)* зама́зываться; **2.** *(грязниться)* зама́зываться, выма́зываться, па́чкаться; 1, 2 *см.* **зама́зацца**; **3.** *страд.* зама́зываться; заде́лываться; выма́зываться, па́чкаться; *см.* **зама́зваць**.

**ЗАМА́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* зама́зывать; *(щель, дыру — ещё)* заде́лывать; **2.** *(загрязнять)* зама́зывать, выма́зывать, па́чкать; 1, 2 *см.* **зама́заць**.

**ЗАМА́ЗКА** *ж. (вещество)* зама́зка.

**ЗА́МАК, -мка** *м.* за́мок; ◊ **будава́ць паве́траныя за́мкі** стро́ить возду́шные за́мки.

**ЗАМАКА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* замока́ть; *см.* **замо́кнуць**.

**ЗАМА́ЛА** *нареч.* малова́то, сли́шком ма́ло.

**ЗА́МАЛАДА** *нареч.* смо́лоду, в мо́лодости; ◊ **шану́й го́нар з.** *посл.* береги́ честь смо́лоду.

**ЗАМАЛАДЫ́** *разг.* сли́шком молодо́й.

**ЗАМАЛАЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *(начать молотить)* замолоти́ть; **2.** *разг.* за-

